# Прадмова

Антыўтопія „Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў” („Правдивая история Страны Хламов”) была напісаная ў часы г. зв. „перабудовы”, калі замест „турмы народаў” – Саюзу савецкіх сацыялістычных рэспублікаў – на мапе сьвету зьявілася пятнаццаць незалежных дзяржаваў. Упершыню рускамоўны варыянт антыўтопіі пабачыў сьвет у 1991 г. у Кішынёве (малая радзіма Віктара Галкова, цяпер вядомага расейскага паэта). У 1994 г., у Менску, быў надрукаваны беларускамоўны варыянт антыўтопіі „Праўдзівая гісторыя Краіны хлудаў”. Творчае супрацоўніцтва літаратараў дазволіла на аснове невялікага мястэчка стварыць цэлы сьвет: непераадольна адмежаваную ад навакольля Высокім квадратным парканам Краіну Хлудаў.

Квадратнасьць ладу жыцьця хлудаў і бессэнсоўныя будоўлі стагодзьдзя, „дэкадэнцкая” непрыземленасьць багемы і бязьлітаснасьць паўстаньня пралетарыяту, учэпістыя пальцы гаспадара, якімі той трымаецца за трон да апошняга імгненьня свайго жыцьця, кантралюемае, кішэннае падпольле-апазыцыя, кіраўнік якой ёсьць люстэркавы адбітак дыктатара, зманлівая прывабнасьць Запарканьня.., – усё гэта актуалізуе напісанае і для сучаснага чытача.

У розны час жанр антыўтопіі „Праўдзівая гісторыя Краіны хлудаў” вызначалі па-рознаму: і прыпавесьць, і раман-гульня, і фэнтэзі. Паводле „дэміургаў” Хлудзіі, гэты твор напісаны ў жанры „сацыяльнай фантастыкі”. Зрэшты, пакручасты лёс герояў антыўтопіі, трагічная хлудзкая гісторыя, нібыта складзеная са змрочных імгненьняў беларускай мінуўшчыны, сучаснасьці і вераемнай будучыні, – робяць твор Алега Мінкіна і Віктара Галкова ўсё больш сацыяльным і ўсё менш фантастычным.

*Сяржук Гаўрыленка*

# КРАІНА ХЛУДАЎ



## З ГІСТОРЫІ Й ГЕАГРАФІІ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

Ёсьць на сьвеце такая Краіна Хлудаў, ці, як яе найчасьцей называюць самі хлуды, Хлудзія. Дакладней, гэта нават ніякая не краіна, а толькі невялічкае мястэчка, забудаванае драўлянымі хацінамі ды аднапавярховымі камяніцамі й абнесенае Высокім квадратным парканам. Таму, хто ўпершыню трапляе ў мястэчка, здаецца, што ён апынуўся на дне глыбокай змрочнай студні, выкараскацца зь якой немагчыма, — такі ўжо высокі гэты паркан. Самі-ж хлуды, якія нарадзіліся й вырасьлі тут, такіх параўнаньняў, зразумела, ня робяць.

На адлегласьці ста крокаў ад Высокага квадратнага паркану й раўналежна яму праходзяць чатыры вуліцы, якія таксама ўтвараюць квадрат. Гэта вуліца Вернасьці, вуліца Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў, вуліца Каляровых думак і вуліца Туманнага парадоксу. На рагу вуліцы Вернасьці й вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў месьціцца шынок «Грукат сэрца», дзе жыхары мястэчка бавяць час за прыемнымі размовамі й расьпіцьцём «Горкага палыну» — улюбёнага трунку хлудаў. На рагу вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў і вуліцы Каляровых думак высіцца гмах Фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў (ФКПІ) — хлудзкай акадэміі. На рагу вуліцы Каляровых думак і вуліцы Туманнага парадоксу атайбаваўся Сямейны інтэрнат сьмецяроў. І нарэшце, рог вуліцы Туманнага парадоксу й вуліцы Вернасьці ўтыркаецца ў Сажалку.

Шырокая паласа паміж Высокім квадратным парканам і верх менаванымі чатырма вуліцамі пакрытая дрэвамі й хмызамі. Гэта Нясумныя прысады — рэшткі старажытнай Пушчы, на месцы якой узьнікла Хлудзія.

Шынок «Грукат сэрца» й Сямейны інтэрнат сьмецяроў лучацца спаміж сабою шырокім бульварам

Абяцанкаў-цацанкаў. Другая ўскосная вуліца, якая злучае ФКПІ з Сажалкаю, носіць назву прашпэкт Маралістых-эквілібрыстых. На скрыжаваньні бульвара Абяцанкаў-цацанкаў і прашпэкта Маралістых-эквілібрыстых ляжыць невялікі Пляц са сьпічастым Палацам гаспадароў на адным баку й асабняком іншаземца Шампанскага на супрацьлеглым.

Апрача пералічаных ужо вуліцаў, ёсьць яшчэ адна, якая бярэ пачатак ад вуліцы Вернасьці і ўпіраецца ў адзіную ў Высокім квадратным паркане Браму. Брама тая заўсёды замкнёная, і, мабыць, таму хлуды вуліцаю гэтаю амаль не карыстаюцца й празвалі яе Зарослая пустазельлем.

Флёра краіны складаецца зь Нясумных прысадаў, дрэваў, высаджаных усьцяж бульвара Абяцанкаў-цацанкаў, а таксама хмызоў і кветак пад вокнамі хатаў і камяніцаў.

І фаўна гэткая самая небагатая: у зацягнутай жабурыньнем Сажалцы ня водзяцца аніякія рыбы — плюхаецца тут хіба колькі сотняў жабаў — а ў прыбярэжных хмызах лётаюць агністыя матылькі ды вірлавокія смарагдзістыя стракозы; у Нясумных прысадах сустракаецца даволі багата конікаў, а ў шатах дрэваў па начах тужліва крычаць нейкія чубатыя са стракатым пер’ем птушкі.

Карэннае насельніцтва Хлудзіі — хлуды й іншаземец Шампанскі, які, хаця й нарадзіўся ў Краіне Хлудаў, зьяўляецца, аднак, уладальнікам пашпарту нейкае замежнае краіны.

Пра тое, што адбывалася ў Хлудзіі ў прамежку часу ад першага легендарнага гаспадара Вісуса Прапаснага да цяперашняга гаспадара Вярэні Водае, можна даведацца з шаснаццацітомнай «Гісторыі Гаспадарства Хлудзкага», перавыдадзенай нядаў-

на гістарычным факультэтам ФКПІ. (Гаспадарства Хлудзкае — старажытны назоў Краіны Хлудаў.) На жаль, шматлікія гістарычныя падзеі ў гэтай «Гісторыі» пададзеныя ня так, як тое было ў сапраўднасьці, а іншыя зь іх дык увогуле не знайшлі на ейных старонках свайго адлюстраваньня: кожны новы гаспадар перапісвае хлудзкую гісторыю нанова ў залежнасьці ад сваіх прыхамацяў і густу.

Вось бадай і ўсё, што можна сказаць пра геаграфію й гісторыю Краіны Хлудаў. Дадамо толькі, што праз непамерную вышыню Высокага квадратнага паркану сонца ніколі не зазірае ў Хлудзію, і, здараецца, незахмараным днём на квадраце хлудзкага неба можна бачыць бляклыя агеньчыкі зорак. З тае самае нагоды ўлетку тут вельмі сыра, а ўзімку мястэчка пад самыя дахі заносіць сьнегам, і таму хлуды змушаныя штогод западаць у доўгую зімовую сьпячку.

## НЕЗНАЁМЕЦ У НАПАЎВАЙСКОВЫМ ФРЭНЧЫ

Зразумела, паколькі існуе брама ў якуюсь краіну, дык у гэтую, няхай сабе й заўсёды замкнёную, браму абавязкова хтосьці калі-небудзь ды ўвойдзе. І таму ня выключана, што Цмок Калывок пранік у Хлудзію цераз Браму ў Высокім квадратным паркане. Зрэшты, ёсьць і іншыя вэрсіі: а) Цмок Калывок патрапіў у краіну цераз падземны лёх, пракапаны ім асабіста; б) пратачыўся праз нябачныя воку шчыліны ў паркане; в) ён увогуле ніадкуль не праточваўся, а нарадзіўся й вырас у Хлудзіі. Дакладна ведама толькі тое, што першы яго ўбачыў іншаземец Шампанскі, які адвячоркам шпацыраваў, паводле сваёй даўнай завядзёнкі, па вуліцы Зарослай пустазельлем. Было ўжо досыць цёмна, і іншаземец заўважыў Цмока Калывока толькі тады,

калі лоб у лоб сутыкнуўся зь ім. «Sorry!» — цераз зубы працэдзіў Шампанскі, паціраючы выцятае месца, і пільна глянуў у твар незнаёмцу ў наглуха зашпіленым напаўвайсковым фрэнчы. Незнаёмец нічога не адказаў, і Шампанскі каторым разам падумаў, што было-б някепска выкарыстаць, нарэшце, замежны пашпарт і назаўжды пакінуць абрыдлую Краіну Хлудаў.

Па некаторым часе на вуліцы Вернасьці загадкавы незнаёмец на горкі яблык зьбіў прахвэсара ФКПІ Вуха Перакінчыка. Рэпарцёру газэты «Нехлусьлівы хлуд», які ўзяў у яго інтэрвію на месцы здарэньня, Цмок патлумачыў: «Я лішні раз хацеў пераканацца, чаго вартыя славутыя хлуды зь іхнымі бясконцымі размовамі пра свабоду волі, парапсыхалёгію, дэмакратыю, мастацтва, вольнае каханьне й правы асобы!»

Наступным месцам, дзе зьявіўся незнаёмец, быў шынок «Грукат сэрца» — прыпадзістая камяніца з чырвоным, прабітым чорнаю стралою сэрцам замест шыльды. Таго адвячорку ў шынку сабралася ледзьве ня ўся местачковая багема. У шызых хвалях цыгарэтнага дыму столікі, пры якіх сядзелі багемаўцы, здаваліся маленькімі падводнымі лодкамі. Закураныя скляпеньні залі адбівалі аднастайны гул галасоў, і збоку магло падацца, што заўсёднікі шынка, ня слухаючы й перапыняючы адно аднога, выказваюць самыя неверагодныя й супярэчлівыя думкі й меркаваньні, даўно ўжо не разумеючы, пра што, уласна, ідзе гаворка. Багемаўцы называлі гэта творчым сумоўем.

Атылая постаць, абцягнутая напаўвайсковым фрэнчам, вырасла перад наведнікамі шынка рыхтык з-пад зямлі. Суворы й незнаёмы багемаўцам хлуд спыніўся пасярод залі й застыў у самай, на якую толькі быў здольны, пагрозьлівай паставе. На ягоным твары злавесна блішчэлі чорныя акуляры, а на вуснах блу-

кала жорсткая ўсьмешка. «Інтэлігенты, зважай!» — заверашчэў ён. У гэты момант усім вядомы мастак Круцель Манцель абапёрся, як на калёну, на плячо Цмока Калывока, страсянуў з цыгарэты слупок попелу на ягоны напаўвайсковы фрэнч і з сумнаю ўсьмешкаю прамовіў да народнага пісьменьніка Цьвінтарэя: «Жах вечару ў тым, што за ім немінуча надыходзіць ноч. А што можа быць горш немінучасьці?» Злавесна бліснуўшы на Круцеля Манцеля чорнымі акулярамі, Цмок крута павярнуўся й скіраваў да выхаду.

## КОЛА ЗАМКНУЛАСЯ!

У сенцах «Грукату сэрца» незнаёмец лёгкім рухам ускінуў на карак бочку «Горкага палыну» й, адштурхнуўшы да сьцяны агаломшанага шынкара Лажбеля, выйшаў вонкі. На вуліцы ён сагнаў з вуснаў жорсткую ўсьмешку, прыцьміў пагрозьлівы бляск непранікальна-чорных акуляраў і, неміласэрна штурхаючы сустрэчных хлудаў і хлудак, шыхтавым крокам рушыў да Сямейнага інтэрната сьмецяроў.

Сьмецяры былі хлуды вельмі далёкія ад парапсыхалёгіі ды іншых вытанчаных навукаў, што буяюць на ўзьмежку розуму й таямнічых глыбіняў падсьвядомасьці. Мабыць, таму яны займаліся самаю простаю фізычнаю працаю: прыбіралі захлуджаныя празь дзень вуліцы, рапаравалі старыя будынкі, варылі «Горкі палын», а таксама кляпалі асьмакі — хлудзкія манэты з выяваю цяперашняга гаспадара Хлудзіі Вярэні Водае на адным баку й Высокім квадратным парканам на зваротным. І хаця тыя асьмакі, у адпаведнасьці з даўнім абычаем, разьмяркоўваліся спаміж хлудаў у залежнасьці ад кірунку ветру й колеру вачэй, — большая частка іх асядала чамусьці ў кішэ-

нях выкладнікаў ФКПІ, багемаўцаў, хлудаў, блізкіх духам да багемаўцаў, ды іншых арыстакратаў. Таму зразумела, як узрадаваліся сьмецяры, калі нейкі незнаёмец, апранены ў просты напаўвайсковы фрэнч, выкаціў перад імі дармовую бочку «Горкага палыну». Такое здарылася, мусібыць, упершыню ў гісторыі Гаспадарства Хлудзкага.

Неўзабаве ў Сямейным інтэрнаце сьмецяроў пачуліся радасныя воклічы й бяседныя песьні. А яшчэ па нейкім часе Цмок Калывок быў прызнаны да скону сваім, і большасьць сьмецяроў паклялася яму ў вечным сяброўстве. Пасьля клятвы ўсе да аднаго, хто яшчэ трымаўся на нагах, прычасаліся адным грабянцом, што сымбалізавала ў сьмецяроў еднасьць поглядаў і поўнае ўзаемаразуменьне…

Наступнага ранку іншаземец Шампанскі прачнуўся ад нязвыклых выкрыкаў: «Права-руш! Лева-руш! У два шыхты ста-вай!» Са зьдзівам прыслухоўваючыся да непрыемнага, як скрыгат спружыны, голасу, Шампанскі тым ня менш ад усяго сэрца павіншаваў сябе, бо ён увогуле любіў сябе віншаваць. «Ніхто гэтага ня зробіць лепш ад мяне!» — справядліва меркаваў ён. Затым Шампанскі зазірнуў пад падушку й, пераканаўшыся, што ягоны замежны пашпарт ляжыць на сваім заўсёдным месцы, з замілаваньнем пагладзіў аксамітную, з гербам нейкае краіны вокладку неацэннага дакуманта. Толькі пасьля гэтага ён другарадзь выглянуў у вакно й быў вельмі ўражаны, убачыўшы сьмецяроў, якія кароткімі перабежкамі, угінкам, нібыта хаваючыся ад невідочнага ворага, з усіх бакоў набліжаліся да Палаца гаспадароў. З характэрнага бляску ў хмызьняку, што рос перад ягоным вакном, Шампанскі пазнаў учарашняга бамбізу ў напаўвай-

сковым фрэнчы: так маглі блішчэць толькі ягоныя непранікальна-чорныя акуляры. І тут іншаземец узгадаў, што Палац спаконвеку нікім не ахоўваецца… Ён яшчэ крыху паназіраў за звар'яцелымі сьмецярамі, а потым пайшоў на варыўню, бо жыцьцё Шампанскага было разьмеркаванае па хвілінах і сьняданак быў для іншаземца важнейшы за самыя пакручастыя выбрыкі хлудзкай гісторыі.

Тым часам пад звон шыбаў, якія хропалі сьмецяры, Цмок Калывок уварваўся ў Тронную залю. Гаспадар Краіны Хлудаў Вярэня Водае, як нічога ніякага, ціхамірна пасопваў, адкінуўшыся на ірховы прыслон свайго ўтульнага трона-гушкаўкі.

— Ану, злазь! — выдыхнуў яму проста ў вуха Цмок Калывок.

Вярэня прыспана зірнуў на прысадзістую, у шчыгульным напаўвайсковым фрэнчы паставу, страсянуў галавою й зноў зьбіраўся быў заснуць. Ды прэтэндэнт на трон груба штурхануў яго ў плячо й як мага больш пагрозьліва загадаў:

— Злазь, кажу табе!

Пасьля гэтага гаспадар хлудаў нарэшце прачнуўся. Ён з тугою акінуў позіркам шырокія рамёны й важкія кулакі новага прэтэндэнта й мацней учаперыўся ў падлакотніцы трона-гушкаўкі.

— Не магу. Я тут заўсёды сяджу!

— Пасядзеў, цяпер дай іншаму пасядзець! — злосна прасіпеў Цмок і аберуч ухапіў Вярэню Водае загрудкі, сілячыся адарваць яго ад трона.

Аднак хоць трон разам з гаспадаром і прыўзьняўся над падлогаю, Вярэня не адпускаў падлакотніцы.

— Усё роўна ня зьлезу, — прахрыпеў ён і, хапянуўшы паветра, дадаў: — Каўнер, ёлупень, адарвеш!

— Я табе пакажу ёлупня! Дзе карона?! — зароў Цмок і лбом штомоцы выцяў Вярэню па блішчастым плеху.

Пальцы гаспадара расслабаніліся, і трон-гушкаўка чмякнуўся на сваё заўсёднае месца. «Кола замкнулася!» — прашаптаў Вярэня Водае. Гэта былі ягоныя апошнія словы.

## Я ЗАЙЗДРОШЧУ СЬМЕЦЯРАМ!

Вельмі хочацца апісаць сапраўдныя жывыя пачуцьці. Аднак, дзеля таго што існуе краіна, абнесеная Высокім квадратным парканам, даводзіцца прымірыцца з думкаю, што ніякіх сапраўдных пачуцьцяў у гэтай краіне няма й ня можа быць. І хаця мастак Круцель Манцель ды арыстакратка Гарэзія Набіванка ахвотна й шмат разважаюць пра мастацтва й вечнае каханьне, але дарэшты зразумела, што кожны зь іх проста практыкуецца ў красамоўстве і ў адначасьсе цешыцца з самога сябе.

— Так, — кажа Гарэзія Набіванка, — нядрэнна было-б пагаманіць пра сьмерць у ейным філязофскім аспэкце.

— Мне ня страшна памерці: мне страшна — *памерці*! — адказвае ёй на гэта Круцель Манцель.

— Чаму?!

— Таму што сэрца маё разьбітае й мне зусім не да гульні…

— Ну дык і што? Душы хлудаў — гэта нямоглыя мятлушкі ў сіняй пустэчы адзіноты. І кожны з нас ёсьць такая безабаронная мятлушка, што заблукала ў імгле… Ды ўсё адно, якое гэта шчасьце — жыць і кахаць!

— А мяне ванітуе ад аптымістаў, якія ўсё жыцьцё толькі й робяць, што ўдавана ўсьміхаюцца. Я ведаю, пад крамянаю скарынкаю іхных жыцьцярадасных усьмешак прыхаваная тая самая бездань узаемнай чэрствасьці й абыякавасьці. Я зайздрошчу сьмецярам! Гэта-ж так цудоўна — рабіць штосьці сваімі рукамі, адчуваць, што ты жывеш на сьвеце ня марна, а даючы карысьць, — замест балбатаць з ранку да вечару пра вечнае каханьне, мастацтва і ўсялякія там «выбухі трансцэндэнтнай сьвядомасьці».

— Так, і я хацела-б стацца гэткай самай, як сьмецяры. Спрасьціцца, ці што? Аднак баюся, што з нашым багажом шляху назад ужо няма…

Чуецца грукат. Дзьверы зьлятаюць з завесаў, і два п'яныя сьмецяры, узрадавана гергечучы, хапаюць каханкаў і, не зважаючы на іхныя пратэсты, цягнуць на вуліцу.

## АПОШНІ РАМАНТЫК

Апошні рамантык і геній пакуты Гіцаль Валанцай сунуўся намана па засланай сьвітальнай імглою вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў, нацята прыслухоўваючыся, як журботна грукае аб днішча паходнага саганка альпэншток, рукавятка якога вытыркалася з агромністага брунатнага плецака за сьпінаю апошняга рамантыка. Ён здаваўся сабе прывідам, які выпадкова патрапіў у волкую й змрочную студню Краіны Хлудаў, паміма сваёй волі перанёсься сюды з загадкавага Запарканьня ды заблукаў, марна шукаючы выйсьця з загуслай куламесы, замкнёнай з усіх бакоў мурамі Высокага квадратнага паркану. Гіцаль уяўляў сябе самотным духам, асуджаным спазнаць боль і тугу ўсіх часоў і пакаленьняў, — і адзіным сапраўдным

выйсьцем, адзіным ратункам было апынуцца там — за недасяжнымі мурамі Высокага квадратнага паркану…

Аднак на самым дне сьвядомасьці Гіцля варушылася падступнае сумненьне: а што, калі й там, у так жаданым Запарканьні, ня вечная музыка, а нябыт, глухі й бязвыйсны? Вось яно — самае балеснае пытаньне ўсіх прамінулых і наступных пакаленьняў! І што ў параўнаньні з гэтым і брук, па якім ён ідзе, і ён сам, і ўся Хлудзія, і гэтая істота, што набліжаецца да яго, Гіцля Валанцая, гэты бедны сьмяцяр? Ілюзія, відма, фантом — і болей нічога! Так, браце мой, мы з табою толькі вандроўнікі на гэтай пустэльнай зямлі…

З глыбокаю тугою вочы генія пакуты спыніліся на каржакаватай постаці дужага сьмецяра, а той, бязь лішніх словаў, схапіў Гіцля за каршэнь, хутчэй за ўсё выпадкова прыхапіўшы й пасму рэдкіх бялёсых валасоў, ды некуды пацягнуў яго. Пра што ў той момант думаў апошні рамантык, назаўсёды засталося таямніцаю.

## І НІЯКАЯ Я НЕ БАГЕМА!

Пры першым-жа паведамленьні пра зьмену дзяржаўнай улады народны пісьменьнік Хлудзіі Цьвінтарэй кінуўся шукаць як мага больш надзейнага сховішча. Добра ведаючы, што за доўгія гады ягонай нястомнай пісьменьніцкай працы ніводную напісаную ім кнігу так ніхто ні разу й не прачытаў, Цьвінтарэй пастанавіў схавацца пад кучаю ўласных твораў. Кемны ад прыроды, славуты пісьменьнік, апрача асадкі й атраманту, прыхапіў з сабою ў схрон яшчэ й пляшку «Горкага палыну».

Падчас ператрусу аніхто зь сьмецяроў, пэўна, і не здагадаўся-б шукаць пісьменьніка пад кучменем кніг і

рукапісаў, у бязладзьдзі згарушчаных у адным з пакояў прасторнай пісьменьніцкай камяніцы. І, магчыма, яго так і не знайшлі-б, калі-б аднаму зь сьмецяроў не заманулася пакурыць. Сьмяцяр гэты ўзяў з кучы, пад якою стаіўся народны пісьменьнік, адзін зь ягоных раманаў, выдраў старонку, згарнуў казіную ножку ды, прыкурыўшы, па складах прачытаў: «Сьмешна толькі мне» — загаловак таўшчэзнага тому, які трымаў у руках. Затым перавёў зацікаўлены позірк на груд паперы, які грамадзіўся перад ім.

— Проста ня верыцца, — зьвярнуўся ён да напарніка, — што столькі кніжак мог напісаць адзін хлуд. Напэўна, толькі ўважалася, што ўсё гэта напісана ім адным, а напраўдзе яму дапамагала процьма народу: сын, дачка, цешча ды іншыя сваякі!

— Яшчэ й знаёмыя дапамагалі! — упэўнена прамовіў другі сьмяцяр. — Ведаю я гэтую багему!

Пры гэтых словах кніжны груд заварушыўся, і стуль, нібыта з сутарэньня, данёсься глухі голас:

— Няпраўда! Пісаў я й ніхто іншы! І ніякая я не багема! Мой бацька таксама быў сьмяцяр!

Пасьля чаго Цьвінтарэй вылез з папяровай кучы, страсянуў з заўжды апраненай на яго нацыянальнай хлудзкай сьвіткі пыл і прыняў той самавіты выгляд, каторы заўсёды прымаў перад удаваньнем яму чарговай нагароды. Мяркуючы з выгляду, яму шмат чаго хацелася сказаць хлудзкаму народу, ды, на жаль, гэтым разам яму не пашэнціла, і тое, пра што ён меўся распавесьці, так і ня сталася здабыткам гісторыі.

## ІНШАЗЕМЕЦ ШАМПАНСКІ ЧЫТАЕ «МАНІХВЭСТ»

Іншаземец Шампанскі ня быў заарыштаваны толькі таму, што меў замежны пашпарт і ўважаўся пэрсонаю грата. Помсьцячы яму за гэта, натоўп разьюшаных сьмецяроў не аднаго разу выбіваў шкло ў вокнах ягонага асабняка. Прычым той самы натоўп кожнага разу ўстаўляў шкло на месца за асобную, зразумела, плату. Усё гэта тым ня менш не замінала Шампанскаму рэгулярна шпацыраваць па вуліцы Вернасьці, па бульвары Абяцанкаў-цацанкаў і па вуліцы Зарослай пустазельлем.

Купіўшы падчас аднаго са шпацыраў газэту «Нехлусьлівы хлуд», Шампанскі прачытаў набраную тлустым шрыфтам аб'яву:

**Ненавісны тыран Вярэня Водае зрынуты й спляжаны! У гонар перамогі новы гаспадар Цмок Калывок запрашае грамадзянаў на фэст. Прысутнічаць абавязкова. Форма адзеньня — бэзавыя шаравары.**

Далей у «Маніхвэсьце» прапаноўваліся мерапрыемствы, якія складалі падмурак праграмы новага ўраду:

**1. Пафарбаваць Высокі квадратны паркан у бэзавы колер, тэрмінова затынкаваўшы ўсе шчыліны ў ім.**

**2. Абвесьціць зацятую вайну ўсяму, што знаходзіцца па-за Высокім квадратным парканам, бо калі варожае Запарканьне ня будзе зьнішчанае, дык яно само зьнішчыць Краіну Хлудаў.**

**3. Нацыяналізаваць і сплюндраваць Нясумныя прысады, месца шпацыру й гуляў гэтак званых «багемаўцаў», а дакладней, разбэшчаных гультаёў і абібокаў, — замест таго, сіламі спамянутых гультаёў і абібокаў, пракапаць уздоўж**

**Вялікага квадратнага паркану канал, які злучыць Сажалку саму з сабой.**

(Тут-жа паведамлялася, што былы мастак Круцель Манцель, былы апошні рамантык Гіцаль Валанцай, былая арыстакратка Гарэзія Набіванка, былы народны пісьменьнік Цьвінтарэй ды шмат іншых «недаверкаў» ужо працуюць на Вялікай Будоўлі.)

**4. Перайменаваць прашпэкт Маралістых-эквілібрыстых у прашпэкт імя Цмока Калывока.**

**5. Павытурваць з краіны ўсіх іншаземцаў.**

З усіх пунктаў праграмы новага гаспадара Шампанскаму найменш падабаўся апошні. Акуратна згарнуўшы газэту й не губляючы пачуцьця собскай годнасьці, ён павольным крокам вярнуўся ў асабняк ды пачаў ладаваць валізкі з кідкімі налепкамі нейкае невядомае краіны.

## МЫ СТАІМ НА ПАРОЗЕ АДРАДЖЭНЬНЯ!

Праз якіх пару тыдняў па выданьні «Маніхвэсту» над Краінай Хлудаў папаўзьлі груваcткія сьнегавыя аблокі. Узялося на мароз. Закружылі ў паветры лёгкія хлапякі. Усе хлуды, акрамя былых багемаўцаў, якія скончвалі будаўніцтва канала, пачалі рыхтавацца да чарговае зімовае сьпячкі. І калі з імглістага неба замест павольных хлапякоў пасыпалася дробнае крышталёвае пілавіньне, усе да аднаго спалі салодкім сном. І толькі будаўнікі канала, раз-пораз хукаючы на скалелыя рукі, усё яшчэ длубалі непадатную глебу былых Нясумных прысадаў.

На зьмярканьні ўзьняўся вецер. Хаты й камяніцы патанулі ў беламройнай крутаверці. Па Пляцы папаўзьлі хвалістыя дуйкі. Апоўначы мястэчка пад самыя дахі занесла сьнегам. Адзін толькі чорны квадрат

Паркану па-ранейшаму тырчэў са сьнегу, ды выцьвілая анучка трыкалёру на ржавым сьпічаку Палаца спалохана віхалася на ветры.

На золку завея суцішылася. З-пад нізкіх аблокаў вымкнула надкусаная поўня. На сьнезе, падсіненым ейным зьзяньнем, запаліліся крышталікі, якія пераміргваліся з далёкімі агеньчыкамі зорак. І калі-б ня чорны квадрат на блакітнай сьнегавой асноведзі, магло-б здацца, што ніколі й не было на сьвеце такой краіны, як Хлудзія.

...Раньняя зіма й сьпячка перашкодзілі няўрымснаму гаспадару Цмоку Калывоку ажыцьцявіць усё задуманае ім у справе грунтоўнага абнаўленьня Краіны Хлудаў. У былых Нясумных прысадах ацалелі тры дрэвы, у шатах якіх цвыркала з тузін напаўжывых конікаў. У Сажалцы пялёскаліся апалонікі — нашчадкі апошняй, ня зьедзенай будаўнікамі канала жабы. Усходні мур Высокага квадратнага паркану так і ня быў дафарбаваны. Затое канал сіламі былой багемы быў цалкам пракапаны, хаця ваду ў яго так і не пусьцілі.

Менавіта ўласьцівасьцю хлудаў западаць штогод у зімовую сьпячку пазьнейшыя гісторыкі вытлумачылі той факт, што хлуды ўвогуле захаваліся як від, і гэтак званае Новае Жыцьцё, пра хуткі надыход якога ўжо ўсур'ёз пачалі пагаворваць, так і не надышло.

Прачнуўшыся, хлуды даведаліся пра Адраджэньне, якое распачалі ў краіне мала каму ведамыя дагэтуль «рухавыя» з былым паэтам Хіцерам Зьміцерам на чале. «Такім парадкам, мы стаім на парозе Адраджэньня!» — урачыста казалі яны, узрадаваныя магчымасьцю гаварыць, якую амаль што страцілі падчас нядоўгага, але крывавага гаспадараньня Цмока Калывока. «Ах,

як гэта рамантычна — Ад-ра-джэнь-не!» — шапталі хлудкі, смакуючы слова «рамантычна», і азіраліся: а раптам іх зразумеюць ня так, як мае быць?

Дзякуючы Адраджэньню былі пасьмяротна рэабілітаваныя й вернутыя ў сьпіс грамадзянаў апошні рамантык Гіцаль Валанцай, а таксама знакаміты мастак Круцель Манцель: менавіта яны перакарчавалі ледзьве не палову Нясумных прысадаў. Рэабілітавалі, бяз права грамадзянства, і арыстакратку Гарэзію Набіванку. І народны пісьменьнік Цьвінтарэй займеў магчымасьць вярнуцца дахаты й заняцца творчасьцю, хоць гэтаму моцна заміналі застарэлая нястраўнасьць і хранічны катар, атрыманы ім на будаўніцтве канала. І іншаземец Шампанскі, які спакаваў быў свае валізкі, застаўся ў Хлудзіі.

## «РУХАВЫЯ»

Крывавы дыктатар Цмок, як ужо згадвалася, быў зрынуты «рухавымі» з Хіцерам Зьміцерам на чале. Зразумела, ніхто Цмока не зрынаў: перад тым як запасьці ў зімовую сьпячку, ён, баючыся ворагаў і прэтэндэнтаў, загадаў загарнуць сябе ў ваўняную коўдру ды пакласьці ў саркафаг з гіпсалітавых плітаў. Калі-ж сьмецяры з асабістай варты дыктатара ўзламалі саркафаг і разгарнулі коўдру, выявілася, што іхны гаспадар бясьсьледна зьнік, пакінуўшы па сабе толькі блішчастыя непранікальна-чорныя акуляры. З тае прычыны, што прымальных тлумачэньняў гэтаму дзіўнаму зьнікненьню так і не знайшлося, адказнасьць за выключнае здарэньне ўзяла на сябе адзіная дазволеная ў краіне падпольная арганізацыя «рухавых». Іхны ачольнік, Хіцер Зьміцер, выйшаў з

падпольля, а «прытульлі» (патаемныя кватэры для сустрэчаў чальцоў арганізацыі) былі зачыненыя.

У мінуласьці Хіцер Зьміцер быў непрызнаным паэтам. Расчараваўшыся ў прыгожым пісьменстве, ён зьмеркаваў, што сапраўднае ягонае прызваньне — змаганьне за волю й незалежнасьць хлудзкага народу, прычым галоўным пунктам ягонай праграмы было патрабаваньне дазволіць яму прылюдна ўзысьці на трыбуну ў чорнай скуранцы. Апроч таго, ён настойваў на неабходнасьці перафарбоўкі Высокага квадратнага паркану ў зялёны колер і засыпцы канала, які злучаў Сажалку саму з сабой.

Акурат тады, калі Хіцер Зьміцер расчараваўся ў паэзіі, дыктатар Цмок, не зважаючы на пастанову, паводле якой усе грамадзяне Хлудзіі ўважаліся патэнцыйнымі ворагамі Хлудзіі, пачаў адчуваць востры дэфіцыт тых сілаў, якім-бы ён мог абвесьціць зацятую вайну. Таму зразумела, што Хіцераву прапанову пра стварэньне падпольля, якое займалася-б змаганьнем з крывавым рэжымам, дыктатар з радасьцю ўхваліў. Пасьля чаго для пабудовы падпольля пад падлогаю хаціны Хіцера Зьміцера былі абраныя два сьмецяры, а таксама быў зацьверджаны склад падпольнага камітэту, сябры якога прымаліся на працу й атрымоўвалі заробак у адной зь філіяў Палаца гаспадароў. Там-жа, у падпольлі Хіцеравай хаты, разьмясьцілі й друкарню падпольнай газэты «Адраджэньне», кожны нумар якой Цмок Калывок рэдагаваў асабіста.

Даведаўшыся пра зьнікненьне дыктатара, Хіцер Зьміцер выйшаў з падпольля. Прычым вочы ягоныя настолькі адвыклі ад дзённага сьвятла, што ён быў змушаны надзець непранікальна-чорныя акуляры зьніклага. У гэтых акулярах Хіцер так упадобніўся да Цмока, што зь першага погляду можна было падумаць,

нібыта Цмок нікуды й не зьнікаў. І толькі храбусткая чорная скуранка, пашытая са скуры апошняй вылаўленай у Сажалцы жабы й неадкладна апраненая новым хлудзкім гаспадаром, засьцерагала ад гэтае памылковае думкі.

## ДА ТАКОГА Ў БРЫГАДУ Я НЕ ПАЙШЛА-Б!

Такім чынам, ачуўшыся ад зімовае сьпячкі, жыхары мястэчка даведаліся, што яны стаяць на парозе Адраджэньня. Прычасаўшы ўскудлачаныя валасы й старанна наваксаваўшы абутак, хлуды выйшлі на Пляц. І ўсе як адзін былі ў бэзавых шараварах, бо якая будзе іхная новая вопратка, яшчэ ніхто ня ведаў. Пад павевамі вясновага ветрыку шырокія шаравары надзімаліся й пачыналі лескацець, як ветразі: вось чаму ў той дзень па ўсёй краіне было чутно несупыннае дробнае лескатаньне. Аднак, не зважаючы на ўвесь гэты сьвяточны гармідар, настрой у хлудаў быў двоякі. З аднаго боку, яны былі задаволеныя, што ўсім абрыдлы лад жыцьця нарэшце здратаваны, зь іншага-ж боку, ім было крыўдна, што такая значная падзея, як Адраджэньне, пачалася падчас зімовае сьпячкі. Прычым большасьць хлудаў вінавaціла ў гэтым Хіцера Зьміцера, каторы не пажадаў у час абудзіць іх. З тае нагоды былыя багемаўцы — а яны ўважалі сябе больш таленавітымі, чым новы хлудзкі гаспадар, — абменьваліся зьедлівымі ўсьмешкамі, не асьмельваючыся, аднак, сказаць уголас тое, пра што яны думалі.

Калі Хіцер Зьміцер узыходзіў на трыбуну, дык на нейкі час храбусьценьне ягонай скуранкі заглушыла паляпваньне многіх сотняў бэзавых шараварау. «Ах, гэтае храбусьценьне нагадвае стракатаньне вясёл-

кавых крылцаў стракозаў, абуджаных вясновым цяплом!» — перашэптваліся ўражаныя хлудкі. І толькі былая арыстакратка Гарэзія Набіванка, якая кагадзе вярнулася з будаўніцтва канала, навяла на навасьпечанага гаспадара немаведама дзе ўзятую лярнэтку ды, перакінуўшы папяроску з правага кутка рота ў левы, хрыпата прабасіла: «Да такога ў брыгаду я не пайшла-б!» Пасьля чаго смачна сплюнула на наваксаваны штыблет Шампанскага. Іншаземец міжволі адсунуўся ад яе й дзеля ўсяго дзеля памацаў рукою ў бочнай кішэні свой замежны пашпарт.

Між тым Хіцер Зьміцер моўчкі стаяў на трыбуне. Чорная скуранка шчыгульна аблягала ягоную прысадзістую постаць. Сваё крэда ён даўным-даўно выказаў на старонках падпольнай газэты, і гаварыць, у грунце рэчы, яму не было пра што. І толькі пры самым канцы, калі ўжо натоўп зьбіраўся быў разысьціся, Хіцер штомоцы выгукнуў: «Суграмадзяне! Заменім бэзавыя шаравары на бэзавыя хусткі!» Пасьля гэтага заклiку хлуды гучна запляскалі ў ладкі і ў адзіным памкненьні сарвалі зь сябе бэзавыя шаравары. Некалькі параў знойдзеных тут-жа нажніцаў пайшлі па руках, і неўзабаве на шыі кожнага з прысутных на Пляцы красавалася бэзавая, завязаная на два вузлы хустка.

## ПРЭЧ ЗЬ ІХНАЙ ДАРОГІ!

Пасьлядоўна ажыцьцяўляючы падпольную праграму «рухавых», Хіцер Зьміцер пераназваў прашпэкт Цмока Калывока ў прашпэкт Энтузіястаў, а па нядоўгім часе арганізаваў засыпку канала. Дзеля гэтага сьмецярам былі выдадзеныя драгі й рыдлёўкі. І забруіла праца! Сьмецяры, абліваючыся потам, закопвалі клятую прорынь, а сьвяточна апраненыя, з бэзавымі

хусткамі на шыях хлуды шпацыравалі поруч і зь нейкім цнатлівым зьдзіўленьнем казалі: «Хутка мы пабудуем тое, да чаго імкнуліся вякамі!» Зразумела, хлуды ніколі нікуды не імкнуліся, тым больш вякамі, аднак, відавочна, меркавалі, што, кажучы так, яны таксама спрычыняюцца да справы вялікага Адраджэньня.

Тым часам над галовамі хлудаў-энтузіястаў пачаў кружляць зіхатлівы, невядомага паходжаньня, эліпсоід. Безумоўна, само сабою даволі дзіўна, калі ў цябе над галавою лунае нейкі дзівосны серабрысты эліпсоід, аднак калі гэты факт тычыцца Адраджэньня, дык тут ужо няма нічога дзіўнага. І таму хлуды хутка кінулі назіраць за серабрыстым эліпсоідам і зноўку пачалі даказваць адзін аднаму: «Цяпер кожны з нас — спружына гісторыі!»

А ўсімі забыты эліпсоід, вясёлкава зьзяючы, імкліва падплыў да заходняга мура Высокага квадратнага паркану, бясшумна сутыкнуўся зь ім, споўз долу й нерухома застыў на месцы. Па некаторым часе паверхня эліпсоіда пацямнела і пачала ўздрыгваць так, нібыта ягонае зьмесьціва імкнулася выплюхнуцца вонкі. Раз-пораз зь яго вырываліся ценькія струмкі пары. Зрабілася зразумела, што гэта ўжо ня проста амёбападобны пухір, а жывая істота. Паступова пухір пачаў рухацца, няўхільна коцячыся да месца гістарычнай засыпкі канала. Дзякуючы неперарыўнаму руху, ён страчваў сваю акругласьць і рабіўся ўсё больш падоўжаным. Было відавочна, што зь сярэдзіны яго расьпірае нейкая моц, але моц разумная. Неўзабаве зь цёплага рухомага пухіра вытыркнуліся чатыры адросткі, якія ператварыліся ў рукі й ногі. Апошняя зьявілася галава з чорнымі акулярамі на вачах.

А яшчэ цераз хвілю нікому не вядомы стары хлуд у чорных акулярах, гучна грукаючы па бруку прашпэкта

Энтузіястаў сваім падарожным кіем, вярнуўся да таго месца, дзе адбывалася гістарычная засыпка канала. Палохаючы хлудаў сваім напышлівым выглядам, чапурысты сьляпак некалькі разоў прадэфіляваў па брыжы канала, нібыта незнарок сьпіхваючы разявакаў у незакапаныя яшчэ яміны. Пры гэтым ён не прасіў прабачэньня, а толькі глуха паўтараў: «Прэч зь іхнай дарогі!»

Адвячоркам былыя багемаўцы, што зноў пачалі зьбірацца ў шынку «Грукат сэрца», па-рознаму тарнавалі загадкавую фразу фанабэрыстага сьлепака ў чорных акулярах, аднак праўдзівага тлумачэньня так і не знайшлі.

## УСЁ ДЛЯ СЬМЕЦЯРА!

Дзеля таго, што новы гаспадар абвесьціў, што ўсякае меркаваньне мае права на існаваньне, адразу зьявілася процьма такіх меркаваньняў. Тычыліся яны пераважна гэтак званага «духовага жыцьця» або «жыцьця духу», а таксама знакамітай «духовай смагі». І хоць пытаньне палягала на тым, існуе гэтая «смага» ў сапраўднасьці ці яна толькі спроба ўратавацца ад цёмных інстынктаў падсьвядомасьці ды спаконвечнай схільнасьці хлудаў да «Горкага палыну», — спрэчкі вакол тае «смагі» так захапілі ўсіх, што хутка амаль не засталося тых, хто ні пра што не спрачаўся, не адстойваў ніякіх меркаваньняў, а займаўся-б звычайнаю будзённаю працаю. У выніку вуліцы, якія цяпер ніхто не аглядаў, апынуліся пад тоўшчаю сьмецьця й зарасьлі такім бадыльлём, што немагчыма было адрозьніць, хто з кім і пра што спрачаецца.

Каб уратаваць становішча, урад «рухавых» стварыў у адным з памяшканьняў Сямейнага інтэрната сьме-

цяроў выдавецтва «Усё для сьмецяра!». Па-першае, там выпускалі творы кожнага, хто працаваў у выдавецтве, па-другое, там быў наладжаны выпуск тыднёвіка «Як працаваць за семярых». Тыднёвік быў прызначаны адмыслова для сьмецяроў і, паводле задумы ягонага заснавальніка прахвэсара ФКПІ Вуха Перакінчыка, павінен быў значна паўплываць на Адраджэньне Хлудзіі. Аднак сьмецяры мала ня ўсе заставаліся непісьменнымі й толькі моўчкі разводзілі рукамі, калі гожыя працаўніцы выдавецтва прыносілі ім новыя й новыя стосы прапахлых друкарскаю фарбаю часопісаў. Ды сказаць што-колечы ўголас яны, паводле сваёй даўняй завядзёнкі, не адважваліся. На іхнае шчасьце, выдавецтва «Усё для сьмецяра!» пасьля выхаду шаснаццаці нумароў праз брак паперы было зачыненае.

Кіраўнічая роля ў справе пасоўваньня Адраджэньня перайшла з гэтага моманту да Фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў. Там тэрмінова былі адкрытыя два новыя факультэты, на якіх вывучалі багатую палітычную ды літаратурную спадчыну новага гаспадара. Навучэнцы першага факультэту называлі сябе хіцеразнаўцамі й вывучалі ўзьдзеяньне ідэяў Хіцера Зьміцера на сонечную актыўнасьць. Студэнты другога факультэту, хіцеролягі, дасьледавалі ўплыў ідэяў лідэра «рухавых» на анамаліі ў тоўшчы земскай кары. Паводле большасьці пытаньняў паміж навучэнцамі факультэтаў існавалі вострыя супярэчнасьці, і толькі ў справе ўжываньня «Горкага палыну», які стаўся на той час галоўным дзяржаўным дэфіцытным прадуктам, непрымірымыя апанэнты выяўлялі зайздросную сузгоднасьць і паразуменьне.

## НАМ ЯКРАЗ ТАКІХ НЕ СТАЕ!

Іншаземец Шампанскі заказаў яшчэ адну пляшку нейкай ня дужа добрай настойкі, паўтульней улаштаваўся ў фатэлі й разгарнуў досыць пульхны, у блакітнай вокладцы сшытак: «Што хлудам трэба для шчасьця? Трохі каханьня, жменька зорак над галавою, каліўца спагады й разуменьня…» Шампанскі кпліва, але з дрэнна прыхаваным сумам усьміхнуўся, бо гэтыя радкі належалі яму, а блакітны сшытак, які ён трымаў у руках, быў дзёньнікам ягонага юнацтва.

«Ні дэфіцыт “Горкага палыну”, ні гэтак званае Адраджэньне не завадзяць мне, іншаземцу Шампанскаму, адсьвяткаваць як мае быць дзень нараджэньня, бо дзень *майго* нараджэньня важнейшы ад усяго, што адбываецца й будзе адбывацца ў гэтай клятай краіне…» — блізка так думалася Шампанскаму, калі ён на хвілю адарваў позірк ад сваіх юначых запісаў. У гэты момант шынкар Лажбель, паважна схіліўшыся, паставіў на стол заказаную пляшку.

— Жыцьцё, гм, жыцьцё, — з водценем сарказму прамармытаў Шампанскі.

— З днём народзінаў, шаноўны іншаземец Шампанскі! — узрадаваўся, што Шампанскі загаварыў зь ім, Лажбель і без запрашэньня прысеў пры ягоным століку.

Ён здаўна ведаў, што менавіта з блакітным сшыткам іншаземец Шампанскі раз на год прыходзіць у шынок адзначыць свой дзень нараджэньня.

— Так, жыцьцё — гэта ня мёду піцьцё, — удакладніў сваю думку Шампанскі, і, наліўшы чарку, адразу асушыў яе.

Пасьля чаго зьбіраўся быў зноў занурыцца ў чытаньне, ды дзьверы шынка з грукатам разнасьцежы-

ліся і ў залю ўзынула гурма «рухавых», кудлатых і з бэзавымі хусткамі на шыях. Яны замовілі агромністы збан прафільтраванай вады, ссунулі сталы, шумліва расьселіся ды пачалі гучна абмяркоўваць апошні памфлет Хіцера Зьміцера «Сьмецьце грамадзтва, або Грамадзтва й ягонае шалупіньне». Шампанскі прыслухаўся й зразумеў, што верхавода «рухавых» даводзіць, нібыта невысокі інтэлектуальны ровень сьмецяроў цяперашнім часам можна павысіць толькі шляхам зьніжэньня высокага інтэлектуальнага роўню багемаўцаў.

Зьедлівая ўсьмешка прабегла па вуснах Шампанскага, і, вераемна, заўважыўшы яе, падняўся з-за стала кажанаваты «рухавы», сківіцы якога нагадвалі высоўныя шупляды пісьмовага стала.

— Ты, я бачу, інтэлігент. Можа, нават іншаземец, — пахмура прамовіў ён, спыніўшыся перад столікам Шампанскага. — Чаму-б табе не перайсьці да нас? Нам якраз такіх не стае!

— А вось ты… Дзеля чаго ты жывеш? — не ўтрымаўся Шампанскі.

Усталявалася цяглівая пярэрва.

— Гэта не пытаньне, — надта ўжо спакойна цераз-пагадзя азваўся кажанаваты. Затым крута павярнуўся й скіраваў да сваіх таварышоў. Сківіцы ягоныя пры гэтым рухаліся то назад, то наперад.

Калі «рухавыя», не разьлічыўшыся за збан прафільтраванай вады, нарэшце сышлі, Шампанскі таксама падняўся. Гумор быў сапсаваны, і яму хацелася дамоў. Аднак у вузкіх, не разысьціся, сенцах шынка яго спыніла знаёмая прастакутная постаць. Ягоны нядаўні суразмоўнік, заціснуўшы між масыўнымі сківіцамі казіную ножку, цераз зубы працэдзіў:

— Ты навошта спытаўся, дзеля чаго я жыву?

— Гэта не пытаньне, — стомлена азваўся Шампанскі.

— Так, гэта не пытаньне! — цьвёрда паўтарыў кажанаваты, і цяжкі, нібы прас, кулак апусьціўся на патыліцу Шампанскаму. Потым другі прас праехаўся па ягоным правым воку. У вачох у іншаземца заскакалі серабрыстыя зьнічкі, а затым насунулася глыбокая й прыемная цішыня…

Калі Шампанскі зь цяжкасьцю расплюшчыў вочы, ён убачыў над сабою заклапочаны твар шынкара Лажбеля. Ухапіўшыся, як за ратавальнае кола, за Лажбелеву шыю, ён сяк-так дадыбаў да прыбіральні. Там іншаземец спыніўся перад люстрам, пакратаў агромністы сіняк пад правым вокам і скрывеліўся ад болю. І раптам яму памірсьцілася, што пабілі яго не ўпершыню, што ён ужо некалі адказваў кажанаватаму на ягонае пытаньне, ці на нейкае іншае, падобнае да яго, — і тым разам кажанаваты курыў акурат такую самую казіную ножку.

Зьнячэўку казіная ножка ў распаленых мазгох Шампанскага падвоілася, патроілася. І вось перад ім сотня, тысяча, тысяча тысячаў казіных ножак і «рухавых», якія трымаюць іх у зубах. Усе яны задаюць адно й тое самае пытаньне, а затым кулакамі, падобнымі да прасаў, б’юць яго па патыліцы. І Шампанскі, як ніколі яскрава, зразумеў, што хлудзкая звычка бачыць у існым нейкую вышэйшую мэту, спадзявацца, што Хлудзія паступова набліжаецца да нейкага аддаленага ў часе стану дасканаласьці, — гэта нахабны самападман, фата-маргана. І нямашака й ніколі ня будзе пад хлудзкім небам нічога такога, чаго ўжо не было раней. Нібыта дзівосны ланцуг падзеяў і ўчынкаў віецца па замшэлых мурох Высокага квадратнага

паркану, бясконцае мноства разоў перацінае сам сябе й ня мае ні канца, ні пачатку… «Кола замкнулася!» — прашаптаў Шампанскі, сунуў голаў пад кран і пусьціў ваду.

## ХЛУД ПАВІНЕН БЫЦЬ НЕРУХОМЫ!

Падчас аднаго з гарачых дыспутаў паміж «хіцеразнаўцамі» й «зьміцеролягамі» прахфэсар Вух Перакінчык раптам зацеміў: «Ужо самы факт існаваньня “рухавых” прыпушчае магчымасьць узьнікненьня “нерухомых”…» А калі непрымірымыя дыскутанты, агаломшаныя гэткай навацыяй, сьціхлі, разважыў далей: «Жыхароў Хлудзіі, якім спакон вякоў уласьцівая нерухомасьць і абыякавасьць да ўсяго, апрача “Горкага палыну”, наўрад-ці каму ўдасца вывесьці са звыклага ім стану раўнавагі, бо, і гэта відавочна, тая духоўная раўнавага, у якой яны захрасьлі, настолькі-ж непазнавальная, як і паняцьце “праца”. Пакуль што гаспадар Хіцер Зьміцер, апанаваны ідэямі Адраджэньня, шмат разважае аб “працы”, аднак ніхто з хлудаў ня ведае, што гэта такое. І сам я зьдзіўляюся, калі вымаўляю слова “праца”. Нібыта Нябачны торгае мяне за невідочныя ніткі, і рот мой адкрываецца й закрываецца ў тахт: пра-ца, пра-ца…»

…Першым «нерухомым» стаўся той самы Цмок Калывок, які зьявіўся ў Хлудзіі гэткім самым таямнічым чынам, як і калісьці: ён прыназеміўся перад трыбунаю на Пляцы, зь якой прамаўляў Хіцер Зьміцер, на паветраным балёне зь нейкім бліскучым прадметам на левым плячы. Прыназеміўшыся, Цмок Калывок спрытна саскочыў на брук з прымацаванага да балёну масыўнага куфра, страсянуў пыл з напаўвайсковага фрэнча й шыхтавым крокам скіраваў да

трыбуны. І тады ўсе разгледзеліся, што на ягоным плячы — велізарны сталёвы венік! Адзін толькі Хіцер Зьміцер, здавалася, не заўважаў гэтага. «Падмурак маёй праграмы, — працягваў ён, — выбавіць краіну ад абыякавых і нерухомых! Ні хвілі спакою! Аніякае інэртнасьці й пасыўнасьці!» І толькі калі Цмок, цяжка тупаючы, узышоў на трыбуну ды стаў поплеч зь ім, Хіцер павярнуў галаў і зьмерыў свайго супарата суворым зьневажальным позіркам. Так, незадаволена пераглядваючыся, яны прастаялі досыць доўга. І ўсе прысутныя на Пляцы выразна ўбачылі, што яны, як тыя блізьнюкі, рыхт у рыхт падобныя адзін да аднаго. Розьніца была бадай толькі ў сталёвым веніку ды яшчэ ў тым, што на Хіцеры Зьміцеры паблісквала чорная скуранка, а Цмок быў апранены ў выцьвілы напаўвайсковы фрэнч. Апроч гэтага, на твары верхаводы «рухавых» сядзелі непранікальна-чорныя акуляры, якія калісь належалі Цмоку, а Цмок, натуральна, быў без сваіх акуляраў, у зьвязку з чым несупынна лыпаў вачыма. Аднак самі супернікі, здавалася, не заўважалі свайго незвычайнага падабенства.

— Вада павінная быць мокрая! Хлуд павінен быць нерухомы! — выгукнуў нарэшце Цмок і, з прыемнасьцю паназіраўшы на ўражаных ягоным выгукам хлудаў, заверашчэў: — Аснова маёй праграмы — захаваць нашыя шыхты ў цэласьці! Маё крэда — нерухомасьць і самазаглыбленасьць!

У доказ сваіх словаў прамоўца з трэскам разадраў фрэнч у сябе на грудзёх так, што залацістыя гузікі пстрыкнулі пад ногі й без таго ўражаным хлудам.

— Не мяркуйце, што гэта пустая пахвальба! Калі трэба будзе пайсьці на ўсё, мы, нерухомыя, пойдзем на ўсё! — скончыў Цмок пасьля эфэктоўна вытрыма-

най пярэрвы й пераклаў сталёвы венік зь левага на правае плячо.

Таго самага дня па ўсёй Хлудзіі пракаціліся хвалі мітынгаў і дэманстрацыяў «нерухомых», падчас якіх, апрача разрываньня кашуляў, была сфармуляваная Першая праграма нерухомых:

**1. Вярнуць Хлудзію ў першапачатковы стан нерухомасьці, уласьцівы ёй ад прыроды.**

**2. Нанова пракапаць канал, які злучыць Сажалку саму з сабой.**

**3. Дэпартаваць усіх да аднаго іншаземцаў, не выключаючы арыстакрата Шампанскага.**

**4. Абвесьціць Цмока Калывока новым і адзіным на ўсе часіны гаспадаром Гаспадарства Хлудзкага.**

## ВУЗКАЯ ШЧЫЛІНА Ў ВЫСОКІМ КВАДРАТНЫМ ПАРКАНЕ

Апоўначы па прылёце Цмока Калывока й масавага разрываньня кашуляў усчалася страшэнная навальніца. Гахалі хвасткія перуны. Зіхалі маланкі, выхопліваючы на імгненьне з атрамантавай цемрадзі зьбялелыя твары хлудаў, якія ў жаху ўцісквaліся ў ложкі. Іншаземец Шампанскі мітусіўся па шматлікіх пакоях свайго асабняка, запіхваючы ў валізкі параскіданыя па падлозе рэчы. «Зьеду, зьеду, зьеду!» — паўтараў ён, ня чуючы сябе самога.

Навальніца гэтак-жа нечакана сьціхла, як і пачалася. І ўсе пачулі, як сьпярша ценька зазьвінеў, а затым пагрозьліва затрэсься шкляны й парцалянавы посуд. Са столі й сьценаў пасыпаліся пляйстры тынку. Дзіка заверашчэлі жанчыны й, схапіўшы на рукі дзяцей, кінуліся вонкі з хатаў. Зямля хадзіла ходырам, і над

усім чуўся ненатуральны, злавесны скрыгат — гэта гойдаліся ў пазах бярвёны Высокага квадратнага паркану…

На шчасьце, землятрус доўжыўся ўсяго некалькі хвілінаў. Праўда, жах, які апанаваў хлудаў, быў такі вялікі, што яны доўга не адважваліся вярнуцца ў хаты.

Ранкам паміж бярвёнаў Высокага квадратнага паркану была выяўленая тонкая шчыліна, якая вілася па ягоным абводзе, робячы мудрагелістыя, падобныя да кабалістычных знакі. Зазірнуўшы ў шчыліну, можна было ўбачыць напаўпразрыстую цякоміну, якая, аднак, не знаходзілася ў стане спакою, а несупынна пульсавала. Што гэта было, вызначыць так нікому й не ўдалося. Але самае дзіўнае было тое, што з краёў шчыліны тачылася жаўтлявае вадкае рэчыва, і неўзабаве ўздоўж паркану ўтварыліся бурштынавага колеру лужыны з прыемным і зваблівым для хлудзкага носа пахам «Горкага палыну». Самыя сьмелыя з насельнікаў мястэчка, хто адважыўся пакаштаваць тае цякоміны, у хуткім часе зрабіліся якіясь не такія: яны то без дай прычыны сьмяяліся, то пачыналі плакаць наўзроў, імкнучыся праціснуцца цераз вузкую шчыліну ў Запарканьне. Шмат хто зь іх пасьля арашыў сябе жыцьця.

## КАМУ Ў СУСЬВЕЦЕ ЖЫЦЬ ДОБРА?

Зразумела, што кудлатыя, з бэзавымі хусткамі на шыях «рухавыя» адразу зьненавідзелі нагала паголеных «нерухомых» у зрэбных кашулях, на хапка зацыраваных каляровымі ніткамі. І хоць невядома, хто і ў каго першы шпурнуў непагаслы канчар цыгарэты, відавочна, аднак, што звычка кідацца падчас спрэчак недакуркамі таксама ўзьнікла з супольнай варо-

жасьці. Неўзабаве ніхто ўжо з хлудаў не зьдзіўляўся, спаткаўшы «рухавага» або «нерухомага» з апаленымі брывамі або пляйстырам пад вокам. І толькі пісьменьнік Цьвінтарэй не пераставаў зьдзіўляцца, назіраючы, зь якім спрытам ідэйныя ворагі закідваюць адзін аднаго палаючымі недакуркамі й запалкамі. Ён слухаў зьневажальную лаянку, накшталт: «Як твая хата будзе гарэць, дык і мне будзе добра рукі пагрэць!» ці «Самы лепшы "нерухомы" — гэта нябожчык!», — і з маркотаю думаў, што й аднае цыгарэты дастаткова, каб спаліць Хлудзію разам з усімі хлудамі. Твар народнага пісьменьніка крывеліўся ад моцнага нутранога болю, аднак ніхто са спрачальнікаў не зважаў ні на самога пісьменьніка, ні на журботны выраз ягонага твару.

Таго вечару Цьвінтарэй апынуўся каля не да канца яшчэ засыпанага канала. Ён спыніўся на пяшчаным грудзе, які, магчыма, сам і выбраў з дна канала, і прагна ўдыхнуў волкае, набрынялае пахам гніючай драўніны паветра. Закінуў галаў і занурыўся ў сузіраньне зорак, параскіданых па цёмна-сінім квадраце хлудзкага неба. Ён, Цьвінтарэй, быў для іх адно толькі драбнюткаю парушынкаю, і ім было ўсё роўна, хто ён: народны пісьменьнік, сьмяцяр, «рухавы» або «нерухомы», ці нават сам гаспадар Хлудзіі… Чырвоныя зоркі й белыя, падвоеныя й самотныя, волаты й карлы… Цьвінтарэй заплюшчыў вочы — і перад ім паўсталі сувярточастыя галяктыкі, якія зь невераемнаю хуткасьцю разьляталіся ў космасе, малінавыя аблокі крабападобных туманнасьцяў, загадкавыя звышшчыльныя кроплі матэрыі, ад якіх нараджаюцца сусьветы, і небясьпечныя чорныя дзюры ў прасторы, вырвацца зь якіх немагчыма. Ён уявіў вечнасьць у выглядзе бясконца Высокага квадратнага паркану, адзін канец

якога пачынаецца ў Хлудзіі, а другі зьнікае ў цёмным аксаміце начнога неба. У бясконцую гэтую студню можна лёгка ўвайсьці, але выйсьці стуль немагчыма, і ніхто ніколі не дазнаецца, дзе ты й што з табою…

Твар заказыталі ёдкія мухі. Цьвінтарэй расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ніякіх зорак ужо няма, а замест іх угары паўзе бухматая сьнегавая хмара. З Пляцу даносіўся глухі, бы шум прыбою, рэхат, а ў прыцемку местачковых вуліцаў успыхвалі й гасьлі жоўтыя й сінія зьнічкі: гэта «рухавыя» й «нерухомыя» ўсё яшчэ не разыходзіліся спаць і закідвалі адно аднога недакуркамі й запалкамі. І пісьменьніку здалося, што проста ў Высокім квадратным паркане зеўрае чорная дзюра ды цікуе за невялічкім шматком прасторы, што завецца Краінаю Хлудаў.

Вярнуўшыся дахаты, Цьвінтарэй дапісаў апошнюю старонку трагікамэдыі «Каму ў Сусьвеце жыць добра?». «Нікому» — такое слова можна было прачытаць у апошнім радку на апошняй старонцы трагікамэдыі… Далібог, хлуды нізавошта не сварыліся-б і не закідвалі адзін аднаго недакуркамі, каб маглі прачытаць вялікія і ў адначасьсе такія простыя думкі пісьменьніка Цьвінтарэя.

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕРАМОВЫ

Шынкар Лажбель чухаўся, пазяхаў і ссоўваў сталы ў адзін доўгі шыхт пасяродку залі. Цяпер немагчыма было адрозьніць, дзе той столік, пры якім Шампанскі зусім яшчэ нядаўна сьвяткаваў дзень свайго нараджэньня, дзе той, які ўпрыгожвала непараўнаная Гарэзія Набіванка (ах, як чароўна ўсьміхалася яна, абменьваючыся з мастаком Круцелем

Манцелем шматзначнымі, мудрагелістымі фразамі), дзе той, пры якім Хіцер Зьміцер — каб ён да заўтра не дажыў! — чытаў багемаўцам свае прыгожыя, але малазразумелыя вершы, дзе той, пры якім аднойчы вечараваў сам гаспадар Вярэня Водае… Ад гэткае шэрае неакрэсьленасьці Лажбелю зрабілася няўтульна ў сваім собскім шынку. Ён моцна зажурыўся й падумаў, што неўзабаве, можа стацца, і шынок ягоны, і сам ён, і наогул усе хлуды разам з Хлудзіяй зробяцца попелам.

Стары шынкар ссоўваў сталы, а час мерна адлічваў хвілі, якія заставаліся да гістарычнай сустрэчы верхаводы «рухавых» Хіцера Зьміцера й лідэра «нерухомых» Цмока Калывока. І прывіды, што густою чарадою луналі пад скляпеньнямі шынка, у прызначаны час пабраліся за рукі й зь нячутным енкам назаўсёды пакінулі Лажбеля.

Блізу паўдня ў шынку пачулася вясёлая гамана, якую раз-пораз заглушала дзынканьне келіхаў і спорнае шкрабатаньне відэльцаў. Крыху пазьней пасыпаліся, як гарох, нікому не патрэбныя прызнаньні ў вечнай любові ды сяброўстве. А пры самым канцы гістарычных перамоваў з-пад бяседнага стала вылез напышлівы стары ў чорных акулярах на вачах. Усе так і пазаміралі, калі пачулі стукат ягонай кульбы. А стары лёгка ўскочыў на стол і, перакульваючы келіхі зь недапіткамі «Горкага палыну», сподкі й крышталёвыя вазоны, важна прадэфіляваў перад носам у Хіцера Зьміцера й Цмока Калывока, упэўнена грукаючы перад сабою кульбаю, нібыта йшоў ён не па стале, а па шырокім бруку прашпэкта Энтузіястаў…

Хіцер і Цмок, якія дагэтуль сядзелі па-братэрску абняўшыся, раптам незадаволена адсунуліся адзін ад аднаго. І ўсе прысутныя зразумелі, што сяброўская сустрэча «рухавых» і «нерухомых» безнадзейна сапсу-

тая, і адчулі марнасьць і хлусьню таго, што адбывалася й чаго іхныя правадыры імкнуліся дасягнуць… І сутоньне, густое й глыбокае, якое, быццам вата, ціснулася ў праймы вокан, румнула ў залю й апанавала прысутных.

## ВОСЬ ДА ЧАГО МОГУЦЬ ДАВЕСЬЦІ ПРЫНЦЫПЫ!

Ніхто ня ведаў дакладна, адкуль узяўся агонь. Хутчэй ад усяго, нехта з «рухавых» або «нерухомых» шпурнуў у свайго ворага канчаром непагаслай цыгарэты, а той, дзеля прынцыпу, не пагасіў яго. Вось да чаго могуць давесьці прынцыпы!

Агонь падкрадаўся да хаціны Цьвінтарэя мякка й няўхільна, быццам пунцовая тыгра, якая заўважыла здабычу ды падбіраецца да яе на ня чутных вуху лапах. Вось страхаморлівы зьвер языком лізнуў друкарку, і толькі што надрукаванае палыснула зыркім цяпельцам і попелам асыпалася на стол. Цьвінтарэй заперхаўся ад дыму й высунуўся ў яшчэ не ахопленае полымем вакно.

На вуліцы Туманнага парадоксу стаяў вялізазны натоўп хлудаў і хлудак. Яны стаялі ў здранцьвеньні, не раўнуючы, як спалоханыя агнём дзеці. Зараз яны ўжо не былі «рухавыя» або «нерухомыя» — куды толькі падзелася іхная нядаўняя варожасьць! Некалі зацятыя ворагі, апанаваныя жахам, глядзелі ўгару, куды ўзьнімаўся дым і адкуль спускалася жоўтая наздраватая хмара. І хоць агонь разгараўся, рабілася ўсё халадней і халадней.

Раптам чубатыя, са стракатым апярэньнем і вогненнымі глюгамі птушкі, абганяючы адна адную, з тужлівым крыкам пранесьліся над іхнымі галовамі,

пакідаючы па сабе агністыя сьляды. І квадрат хлудзкага неба, сьпярэшчаны траекторыямі лёту злавесных птушак, умомант зрабіўся падобны да агромністых кратаў. І тады штосьці загуло й разам сьціхнула: гэта абрынуўся Высокі квадратны паркан. Зьнішчаючы ўсё на сваім шляху, лінула на Краіну Хлудаў неарганічная, падобная да кісялю, цякоміна, усё патанула ў каламутнай крутаверці, і ніхто не ўратаваўся. Толькі шалёныя віры раз-пораз вылынвалі й зьнікалі на чорнай раўніне ды сіратліва калыхаўся на хвалях дзівам ацалелы сшытак у блакітнай вокладцы — юначы дзёньнік іншаземца Шампанскага. «Што хлудам трэба для шчасьця? Трохі каханьня, жменька зорак над галавою, каліўца спагады ды разуменьня…»



# СЬМЕШНА ТОЛЬКІ МНЕ

Народны пісьменьнік Цьвінтарэй таксама некалі быў малады. Наіўны й даверлівы ад прыроды, ён кантаваў бочкі з «Горкім палыном», дапамагаючы шынкару Лажбелю ў ягонай нялёгкай працы ў шынку «Грукат сэрца». У тыя дні, калі Лажбель бавіўся на належных яму вакацыях, Цьвінтарэй не бяз посьпеху падмяняў яго, разносячы «Горкі палын», якога тады багата было ў Краіне Хлудаў, на срэбнай з чэрню тацы. Пры гэтым цераз плячо ў яго нязьменна быў перакінуты ручнік з вышыванымі на ім чырвонымі стракозкамі.

Ягоны бацька, сьмяцяр ад самай маладосьці, ганарыўся сынам, які, як яму здавалася, выйшаў у людзі. Стоячы пад вакном шынка, бацька нярэдка й падоўгу з замілаваньнем разглядваў сына, каторы спрытнымі чаўночнымі рухамі сноўдаў паміж сталоў. Зрэшты, і Цьвінтарэй у такія дні не фанабэрыўся й выносіў бацьку чарку-другую запаветнай вадкасьці, ніколі, аднак, не запрашаючы яго ў шынок.

Бацькаў гонар шмат у чым быў абгрунтаваны, бо наведнікамі шынка былі такія знакамітыя хлуды, як мастак Круцель Манцель, іншаземец Шампанскі, першая ў Хлудзіі харашуня Гарэзія Набіванка, непрызнаны паэт Хіцер Зьміцер ды іншыя. Нават сам гаспадар Вярэня Водае доўгімі восеньскімі вечарамі пачасту бавіў час у сяброўскай бяседзе з вытанчанымі

прадстаўнікамі хлудзкай багемы. Мякка зіхацелі сьвечкі, павольна віліся шызыя пасмы цыгарэтнага дыму, лілася глыбакадумная гамонка, і Цьвінтарэй часам ня мог сабе адмовіць у тым, каб не спыніцца й не прыслухацца да асабліва цікавых урыўкаў гамонкі, што з розных бакоў даляталі да яго. У такія хвілі будучаму пісьменьніку пачынала мірсьціцца, што гэта ня ён, а нехта іншы разносіць наведнікам шынка «Горкі палын», перакінуўшы цераз плячо ручнік з чырвонымі стракозкамі, — ён-жа, апусьціўшы голаў на далоні, паважна слухае мудрагелістыя выказваньні мастака Круцеля Манцеля, або, седзячы на месцы прахвэсаравага сына Гіцля Валанцая, бесцырымонным рухам закідвае руку на падлакотніцу крэсла асьляпляльнай Гарэзіі Набіванкі.

У адзін з такіх вечароў, калі крэсла Гіцля Валанцая пуставала, арыстакратка, зьзяючы сваёю незраўнанаю ўсьмешкаю, распавяла Цьвінтарэю, што яна ад усяго стамілася, што ёй увесь час карціць праглынуць дванаццаць пігулак люміналу й не прачнуцца. Безумоўна, Цьвінтарэй пакахаў яе не за ейную бясконцую стомленасьць перад ня менш бясконцай аднастайнасьцю хлудзкага жыцьця, але менавіта ў той незабыўны для яго вечар Гарэзія, распавёўшы яму пра «дванаццаць таблетак люміналу», нечакана спытала:

— Ты, напэўна, любіш пісаць фантастычныя апавяданьні?

— Гм, надзвычай. Але ні разу не спрабаваў, — адказаў Цьвінтарэй, разглядваючы прыгожыя арыстакратчыны ногі.

Назаўтра Цьвінтарэй абвесьціў шынкару Лажбелю, што займацца абразьлівым кантаваньнем бочак з «Горкім палыном» ён больш не намераны, і, атрымаўшы разьлік, адразу злажыў візыт іншаземцу

Шампанскаму з мэтаю даведацца, што такое фантастыка.

Іншаземец, з ног да галавы перапэцканы зялёнаю фарбаю, далёка не адразу апусьціў пэндзаль. На мальбэрце, усталяваным пасярод прыменю, красаваўся намаляваны зь незвычайным майстэрствам качан капусты. Здавалася, ён вось-вось скоціцца з палатна й з глухім хрумстам чмякнецца аб зіхоткі, з крыжовымі карункамі паркет.

— Фантастыка? Гэта калі пішуць пра тое, што ў сапраўднасьці не існуе, — патлумачыў Шампанскі, цешачы вока сваім новым палатном.

— Гм, зразумела, — уздыхнуў Цьвінтарэй, у свой чарод скоса зірнуўшы на мальбэрт.

Уважаючы тэму вычарпанай, ён сабраўся быў ужо сысьці. Аднак Шампанскі, лебядзіным рухам пэндзля дадаўшы яшчэ адзін мазок, кінуў яму ўсьлед:

— Або, найчасьцей, фантастыка — калі ня ўмеюць пісаць пра тое, што ёсьць у сапраўднасьці.

— Гм, зразумела, — у той самай танальнасьці азваўся Цьвінтарэй.

Неўзабаве просты й клапатлівы Цьвінтарэй, які заўсёды дарыў ёй адны й тыя самыя прасконкі ружовых стакротак, ускрай надакучыў арыстакратцы Гарэзіі Набіванцы. Аднойчы, падышоўшы да вядомага ўсім хлудам дамка на вуліцы Вернасьці, ён пачуў густы мужчынскі барытон, які перакрываўся сумназавыйнымі пасажамі не зусім настроенай скрыпкі, і зразумеў, што месца ягонае занятае. Ня ведаючы, што рабіць са стакроткамі, якія ён прывык удаваць арыстакратцы собскімі рукамі, нэрвова цярэбячы ядвабныя пялёсткі, Цьвінтарэй раптам адчуў, што ва ўсёй Хлудзіі няма іншага месца, куды-б ён мог цяпер пайсьці, апрача шынка «Грукат сэрца». Займацца

біцьцём шкла ў вокнах каханай жанчыны мог-бы, бадай, ранейшы Цьвінтарэй, прахвэсіяй якога было кантаваць бочкі, — замест гэтага новы Цьвінтарэй напісаў свой першы твор, фантастычную фэерыю «Сьмешна толькі мне».

Падзеі фэерыі разгортваліся сярод дзівоснай забудовы залацістага Матлахона. Галоўныя героі фэерыі былі самалётнікі Атландзер і Высмал, якія таму й жылі, што аднойчы нарадзіліся. І яны спрачаліся (с. 1–213).

— Гісторыю, — крычэў Атландзер, са страшэннай хуткасьцю круцячыся на трэнажоры, — гісторыю фабрыкуюць ідэалісты!

Самалётнік Атландзер меркаваў, што гісторыя плянэты Матлахон — гэта пасьлядоўны падман ідэалістаў малодшага пакаленьня ідэалістамі пакаленьня старэйшага.

— Ты мылісься! — крычэў у адказ самалётнік Высмал, са страшэннаю хуткасьцю круцячыся на трэнажоры. — Гісторыя ёсьць натуральны й аб'ектыўны працэс. Гэта нашая сьвядомасьць не заўсёды дакладна адлюстроўвае яе!

— Які сэнс адкрываць новыя плянэты, калі я ўсё адно аднойчы памру? Хіба што для цікаўнасьці? — хрыпеў у баракамэры пад ціскам у дзясяткі атмасфэраў Атландзер.

— Сьмерць — гэта закон прыроды, — хрыпеў поруч Высмал, які ўважаў, што адныя матлахонцы жывуць толькі дзеля сябе й праз свой эгаізм ня могуць пагадзіцца з думкаю пра немінучасьць сваёй сьмерці. Іншыя-ж, такія, як ён, Высмал, ведаючы тое самае, жывуць для нашчадкаў, і для іх сьмерць ёсьць просты закон прыроды. Гэтыя апошнія з задавальненьнем саступаюць месца маладзейшым матлахонцам.

— У якім сэнсе? — саркастычна сіпеў Атландзер.

— Хутчэй, у гістарычным, бо абодва гэтыя варыянты правамоцныя, — сіпеў у адказ Высмал.

— Лухта! Тваё так званае маладое пакаленьне ёсьць ня што іншае, як хаатычная мітусьня зубоў агромністага грабянца, якія ва ўсе бакі, на злом галавы, імчацца цераз прастору й час, — шаптаў Атландзер, выконваючы на хуткасным бежніку імклівы бег на месцы. — Рэчаіснасьць — гэта мой нутраны сьвет, азначыць які можна толькі сэрыяй супастаўленьняў зь іншымі сьветамі. Аднак паводле сваёй сутнасьці ён усё роўна застаецца непазнавальным.

— Але-ж для таго, хто назірае за намі збоку, ты міжволі робісься зубцом свайго грабянца, які толькі на першы погляд распадаецца, а ў сапраўднасьці факт ягонага існаваньня сьведчыць толькі пра зьнікненьне пачатнай неакрэсьленасьці й канчатковую перамогу заканамернасьці, — прытанцоўваючы, шэптам пярэчыў побач Высмал.

Пасьля трэніровак (с. 214) самалётнікі слухалі на старэнькім грамафоне ўлюбёныя песенькі й працягвалі спрачацца. Прычым Атландзер слухаў непапулярны шлягер «Спыніся, імгненьне!», а Высмал — папулярную песьню «Толькі наперад!».

Па-за межамі роднага Матлахона (с. 225–403), дзе нашыя самалётнікі шукалі братоў па розуму, ім не пашэньціла знайсьці нават кволенькай бацылі. Зрэшты, яны аднойчы зьбіліся з накрэсьленага курсу й зьнячэўку на паверхні незнаёмае плянэты, куды ім давялося прыназеміцца, каб хвастатыя камэты, баліды й касьмічны пыл не заміналі закончыць чарговую спрэчку, — натрапілі на бляшанку з напаўсьцёртай налепкаю.

— Сьляды таямнічай цывілізацыі, — ахнуў Высмал, і грудзі самалётніка пачалі прыкметна напаўняцца радасьцю, зьмешанай з гонарам. А Атландзер раптам зьедліва зарагатаў.

— «Зроблена на Матлахоне», — прачытаў ён уголас напаўсьцёрты надпіс на этыкетцы.

— Як шкада, — сумна ўздыхнуў Высмал, — што матлахонцы адныя ва ўсім Сусьвеце разьвязваюць вечныя пытаньні сьветабудовы. — Ён задумаўся. — Аднак мне робіцца цяплей на сэрцы, калі я згадваю, што дзесьці там, — Высмал неакрэсьлена махнуў рукою, — у гэтым жахліва-грамыхлівым Космасе, дзе ў віхуры касьмічнага пылу сутыкаюцца й крышацца галяктыкі, калакружыць сабе паціхеньку плянэта Матлахон, нашая любая радзіма.

— Галяктыкі ня крышацца. Яны анігілююць, — мэлянхалічна папраівіў Высмала Атландзер.

Як высьветлілася ў фінале фэерыі (ст. 743), высадзіліся адважныя матлахонскія самалётнікі акурат на сваёй любай плянэце Матлахоне.

Згаданай фэерыяй кар’ера Цьвінтарэя ў якасьці пісьменьніка-фантаста завяршылася. Гэта тлумачыцца тым, што падчас гаспадараньня Вярэні Водае лепшай кнігай уважалася тая, якую не прачытаў ніводны хлуд. А гэтай умове найбольш адпавядала такая якасьць кнігі, як ейная народнасьць.

— Цьвінтарэй, што-б ты цяпер абраў: каханьне Гарэзіі Набіванкі ці сьвяты творчы экстаз? — іранічна запытаўся неяк у знакамітага народнага пісьменьніка, сутыкнуўшыся зь ім на вуліцы Вернасьці, геній пакуты й апошні рамантык Гіцаль Валанцай.

— Менавіта так! — пахмура адказаў Цьвінтарэй.

# СКУТЫЯ АДНЫМ ЛАНЦУГОМ

«У Краіне Хлудаў ні пра што нельга сказаць дакладна, апрача факту тваёй уласнай сьмерці». Так занатавана ў «Запаветах Нябачнага», сьвятым хлудзкім пісьме. Аднак-жа хто з насельнікаў Хлудзіі пасапраўднаму задумваецца пра неўгрунтаванасьць і хісткасьць існаваньня ды пра наканаваную ўсяму жывому немінучасьць? Усе дарэшты занятыя сваімі штодзённымі цікавосткамі, і кожны калі пра што й клапоціцца, дык хутчэй пра тое, як яшчэ тут, пры жыцьці, дамагчыся славы, вядомасьці ці хаця-б пэўнага прызнаньня…

Мастак Круцель Манцель прачнуўся ад дробату на падваконьні разнасьцежанага ў начную сырасьць вакна. «Дождж!» — неамыльна вызначыў ён і ад сэрца павіншаваў сябе, бо хлуды, наогул, любяць сябе віншаваць. Зрэшты, у Манцеля й насамрэч мелася важкая прычына для віншаваньняў: надоечы ён удала збыў з рук «Праўдашукальнікаў» — карціну, якую яшчэ летась замовіў ды так і ня выкупіў вядомы хлудзкі праўдашукальнік Болмат Самасуй. «Выдатна я сёньня павесялюся!» — усьміхнуўся быў Манцель, але побач заварушылася ягоная новая сяброўка Гарэзія Набіванка, у дамку якой мастак цяпер стала кватараваў. «Пра што ты думаеш, любы?» — запыталася яна і доўга высьвятляла гэта, скончыўшы допыт чар-

говаю сваркаю, цудоўна ведаючы, што выштукаваны Манцель ня можа трываць падобных рэчаў. На Манцелевым твары адбіўся выраз тугі, нават болю, і, ня вытрымаўшы чарговага замаху на сваю годнасьць і свабоду, ён у вадной начной кашулі, басанож, рынуў вонкі. «Мне ня страшна памерці: мне страшна *памерці*!» — прастагнала яму ўсьлед Гарэзія Набіванка.

Як потым выявілася, увесь гэты допыт, усе гэтыя вытанчаныя катаваньні былі запраектаваныя Гарэзіяй дзеля аднаго толькі дэкору. Узапраўды-ж арыстакратка прагнула пачуць Манцелева прызнаньне пра даўно задуманае ім самагубства й адпаведна пракамэнтаваць яго…

Нічога дзіўнага ў гэтым няма, паколькі Краіна Хлудаў тым і адрозьніваецца ад іншых дзяржаваў, што кожны ейны жыхар дэкляруе (а часам і зьдзяйсьняе) менавіта тое, што яму кімсьці прызначана. Кожны падсьвядома ўнікае думкі пра немінучасьць навечнай ростані з жыцьцём і, адпуджваючы тую бязьлітасную думку, паўтарае наўзавад аднойчы адведзеную яму згодна зь нейкім сцэнаром ролю… Але што рабіць, калі тваё беднае сэрца ніяк не жадае супакоіцца?

Грукат зачыненых дзьвярэй прагучэў увушшу Круцеля Манцеля разьвітальнаю кананадаю. Крыўда і ўзрушэньне змусілі яго некалькі хвіляў нерухома прастаяць на ганку. Ён пачуваў сябе ўскрай здэнэрваваным і бездапаможным перад будучыняй, запоўненаю адною толькі Гарэзіяй. «Я, відавочна, належу да таго заганнага кола няўздольнікаў, на якіх непарыўна сыпяцца падковы шчасьця, а ў выніку застаецца на памяць лілёвы й агідны крывацёк. І, наогул, маё сэрца ёсьць суцэльны сіняк, а тыя самыя падковы паглабалі спрытнейшыя хлуды, накшталт пісьмень-

ніка Цьвінтарэя, іншаземца Шампанскага ці прахвэсара Вуха Перакідніка», — зь пякучаю зьедлівасьцю зацеміў Манцель і адважна ступіў у яшчэ густаваты паўзмрок Краіны Хлудаў.

«Ён ішоў ды ішоў», — думаў Манцель, маючы на ўвазе самога сябе й рухаючыся ў кірунку Нясумных прысадаў, бо, дзіўным супадзеньнем, ён у гэты момант напраўдзе ішоў па імглістай вуліцы Вернасьці, але вось што было яшчэ больш дзіўным, ён непахісна верыў, што ішоў менавіта туды, куды трэба.

У шапіку пад аркаю, праз якую ўваходзілася ў Нясумныя прысады, Манцель спытаў ранішні выпуск «Праўдзівага Хлуда» й на першай-жа бачыне ўбачыў ілюстрацыю з прададзеных кагадзе «Праўдашукальнікаў». Усе пяцёра хлудаў на Манцелевай карціне, пачынаючы зь легендарнага Зазелы Карузы й скончваючы ягоным апошнім пераемнікам Болматам Самасуем, былі славутыя хлудзкія праўдашукальнікі. І ўсе яны, прагна ўзіраючыся ў далячынь, зладжаным шыхтом маршыравалі ў прышласьць, размытыя контуры якой былі вытрыманыя мастаком у нязвыклых карычнева-чырвоных танах…

Можа, колішняга Круцеля Манцеля і ўсьцешыла-б зьмешчаная ў газэце ілюстрацыя (як яшчэ адно сьведчаньне ягонай неспавянучай папулярнасьці), аднак цяперашні Манцель адно толькі сьлізгануў няўважным позіркам па натхнёных тварах шукальнікаў праўды й вярнуў газэту ў шапік. Цяперака ўсе канцы ягонага да бязглуздасьці заблытанага жыцьця вялі да Гарэзіі Набіванкі, і рассекчы гэты туга забэрсаны клубок магло толькі самагубства.

Але ў Краіне Хлудаў усё так няпраўдападобна й неістотна, замест пісталетаў тут дзіцячыя покаўкі, і калі

табе пашэнціць выпадкова застрэліцца ці ўтапіцца, дык гэта хутчэй будзе камэдыя, а ня драма.

...Сьвінцова-матавая паверхня Сажалкі адчужана й разам з тым прыцягальна сьвіцілася праз гольле прыбярэжных хмызоў. Ісьці далей па прысадах было небясьпечна, і Манцель падаўся ў абыход па зарослай дзіркастым лапушыньнем балацявіне. Перад Сажалкаю ён згорбіўся, а потым наўпрост па сьмярдзючай жыжцы — якраз тут праходзіла местачковая каналізацыя — папластаваў да адзінокага прыбярэжнага дрэва. І хоць спадыспаду агідна хлюпала й пырскала ёдкая гразь, думка пра тое, што менавіта з гэтага боку Сажалкі ніхто не падпільноўвае яго, надавала моцы й падахвочвала да дзеяньня.

Пад дрэвам адважны лазутнік умасьціўся на кукішкі й прыслухаўся да трывожлівага навакольля, высочваючы таго, хто й сёньня мог перашкодзіць зьдзяйсьненьню задуманага. Было ціха. Адно толькі дождж шалпатаў у разлапістых лапухах ды трымцеў на ветрыку прыбярэжны аер. З дрэва зрываліся халодныя кроплі й, трапляючы за каўнер, непрыемна казыталі сьпіну. Гідка было, наогул, сядзець так, быццам якому злодзею, скурчыўшыся за камлём, у ліпучых, перапэцканых тваньню споднiках. Аднак усе гэтыя непамыслоты былі дробязьзю ў параўнаньні з тым, што неўзабаве павінна было здарыцца, што собіла Манцеля на дзёрзкі крок.

Трэба зацеміць, што менавіта тут, у некалькіх кроках ад запаветнай Сажалкі, а дакладней — сьмерці, Манцель кожнага разу перажываў гэтае хоць і кароткае, але неацэннае ўзрушэньне. Усё існае раптам аддалялася ад яго, усе рэчы й сам ён танулі ў нейкім мораку, і заставаўся адно толькі безаблічны жах, жах

невядома перад чым. І хоць носьбітам гэтага жаху быў сам Круцель Манцель, але краем здранцьвелай сьвядомасьці ён разумеў, што жах тоіцца ў кожным хлудзе, толькі вось адчуць ягоны ледзяны подых могуць адзінцы, якія наважваюцца скінуць абрыдлыя путы быцьця й сыйсьці туды, адкуль ніхто не вяртаецца…

Сажалка з двух бакоў была надзейна затуленая мурамі Высокага квадратнага паркану, а падысьці да яе з боку Нясумных прысадаў можна было, толькі перасекшы даволі шырокую сьцяжыну, якая вілася ўздоўж топкага, аточанага аерам і асакою берага. Сьцяжыну гэтую працерабіў вядомы хлудзкі змагар за справядлівасьць Болмат Самасуй, зводмаладзь блукаючы тут у спадзяваньні каго-небудзь выратаваць. Начаваў Болмат зазвычай на лаўцы насупраць адзінага прыдатнага для купаньня месца, правільна разважыўшы, што эстэтны Круцель Манцель, краса й гонар местачковай багемы, які, паводле ягоных словаў, прагнуў толькі «чысьціні й прыгажосьці», — наўрад-ці адважыцца ўтапіцца ў нейкім іншым месцы.

Але гэтым раньнем праўдалюбца Болмат Самасуй відавочна памыліўся. Хоць абраная Манцелем тактыка й не адпавядала высокім вымогам ягонай натуры, ды, столькі разоў нахабна падмануты, ён быў гатовы на ўсё, абы толькі дапасьці нарэшце да пякуча-халодных абдымкаў так жаданай ім Сажалкі. І таму ён выцяг з дупліны прыхаваную ім надоечы цагліну, павoлі выпрастаўся, уважліва агледзеў сьцяжыну, па якой спорна цурбоніў вясновы дожджык, апошнім разам на ўсю поўніцу ўдыхнуў волкую хлудзкую атмасфэру й сьмела ламануўся наперад.

У тую самую хвілю з гушчэчы прыбярэжнага аеру, напярэймы яму, з трэскам сіганула даўгалыгая, у высокіх гумовіках і чорным пылавіку Болматава по-

стаць. Манцель ад такой неспадзяванкі пасьлізнуўся на мокрым карані, сьмешна ўзбрыкнуў нагамі й неяк нязручна, на бок, чмякнуўся вобзем.

Болмат Самасуй дапамог небараку-самагубцу падняцца й клапатліва падвёў яго да лаўкі. На лаўцы выратавальнік і выратаваны праседзелі даволі доўга, плячо ў плячо. Маўчалі й назіралі, як узьнікаюць і лопаюцца ў купальні бурбалкі. Пасьля таго, што здарылася, Манцель чуўся ніякавата, смылеў уцяты аб цагліну бок, цела было налітае зьнямогаю й мляўкасьцю. «Навыварат ня вывернеце болю: суцэльны ён і круглы, быццам шар…» — узгадаліся нейкія з тых рэдкіх радкоў Хіцера Зьміцера, якія падабаліся Манцелю.

— Толькі сам-насам з сваёю сьмерцю, а дакладней, Нічым, я зрэдзь магу пабыць самім сабою, — прызнаўся зьнячэўку ён і прыкусіў язык. Ды было ўжо позна.

— Ніхто ня мог-бы аспрэчыць, што сумна глядзець на сьвет чужымі вачыма й што самы горшы гатунак адзіноты ёсьць адзінота ў натоўпе. Аднак, як дасьведчаны знаўца, я не магу паблажліва ставіцца да такіх, як ты, бо самагубства — я шмат цяпер раздумваю пра ролю самагубцаў у жыцьці хлудзкага грамадзтва — пасыўны пратэст. Сцьвярджаць сваю асабовасьць трэба на іншы капыл: у паштодзённым дасканаленьні, у жаданьні стацца жывым уцелясьненьнем дабра й справядлівасьці…

Прамовіўшы так, праўдалюбца Болмат Самасуй прыязна ўсьміхнуўся Круцелю Манцелю. Але што можа быць звычайней за падобную ўсьмешку ў краіне, дзе ўсьмешка толькі спроба прыхаваць гаротную грымасу, а грымаса, у свой чарод, толькі кепскі грым на твары актора-небаракі? У краіне, дзе табою толькі

тады й цікавяцца, калі ты зьнянацку памрэш ці пакончыш з сабою?

— Мяркую, цяпер ты скеміў, як асланіцца ад спакусы сьмерці: ня трэба выпукліваць адну толькі гэтую заганную рыску сваёй натуры, — радзіў тымчасам Болмат, але Манцель не разумеў, пра што ён, як, зрэшты, не разумеў і сам радца.

Падчас доўгай Болматавай прамовы дождж нарэшце суняўся, і папяліста-шэрае наўкольле напоўнілася пяшчотным бледна-ружовым сьвячэньнем. На гольлі дрыжэлі кроплі вільгаці. Саладкавы пах першай зеляніны, зьмешаны з водарам ачунялай глебы, казытаў нос, сьлязіў вочы. Негустыя яшчэ шаты Нясумных прысадаў зрабіліся празрыстымі, і над імі запырхалі агністыя матылькі й смарагдзістыя вірлавокія стракозы. Над стракозамі й матылькамі імкліва праносіліся чорныя рызманы хмараў, а яшчэ вышэй, у прахонах паміж імі, нясьпешнымі сьлімакамі паўзьлі наздраватыя аблокі. «Сама вечнасьць прасачылася ў Краіну Хлудаў», — пранеслася ў галаве Круцеля Манцеля, калі ў тых белых аблоках засьвіціўся абмыты дажджом лапік блакіту, і ягоная нядаўняя заінтрыгаванасьць несамавітаю безданьню Нівечы мінулася й саступіла месца ціхай замілаванасьці й мяккаму поклічу намаляваць убачанае…

— Магу я сабе такое дазволіць? — абарваў Манцель чарговую казань свайго выратавальніка, рэзка падняўся з лаўкі й зьнік у трапяткім мроіве Нясумных прысадаў.

«Сама вечнасьць прасачылася ў Краіну Хлудаў», — прамармытаў пісьменьнік Цьвінтарэй і, зрабіўшы апошні акорд на клявіятуры друкаркі, скончыў чарговы разьдзел свайго чарговага раману «Скутыя адным

ланцугом». Пасля чаго паклікаў шынкара Лажбеля й зь ягонай дапамогаю запхнуў друкарку ў рэчмяшок.

— Магу я сабе такое дазволіць? — так пастаўленым рубам пытаньнем адказаў ён на запытальныя позіркі Лажбелевых наведнікаў, выходзячы з шынка «Грукат сэрца» на сьвежае паветра.

Новы раман, над якім Цьвінтарэй працаваў усю папярэднюю ноч, не задавальняў пісьменьніка. Не было ў ім сапраўдных стасункаў паміж хлудамі, не было ані каліўца цёплага пачуцьця й сардэчнай дабрыні. Аўтар нібыта наўмысна засланяўся ад усяго пачуцьцёвага ды, хваравіта згушчаючы фарбы, ува ўсім вышукваў і знаходзіў штосьці зьдзеклівае, нейкі не абгрунтаваны нічым фарс, танныя парадоксы дзеля парадоксаў. Ён кпіў з хлудаў, зь якімі быў у прыяцельскіх адносінах, насьміхаўся зь некалі каханай ім жанчыны. Раману, апроч таго, бракавала праўдзівых апісаньняў і неабходнай закручанасьці сюжэту. Дый галоўная тэма, тэма самагубства, была, у грунце рэчы, не раскручаная. Легкадумна-фрывольныя пасажы на гэты конт стваралі ўражаньне, што іхны аўтар ня ёсьць убелены сівізною хлуд, а нейкі фанабэрысты маладзён, які ані разу ў жыцьці не судакранаўся з ворашным подыхам Нівечы, з тым самым, знаёмым Цьвінтарэю подыхам, каторы толькі й надае жыцьцю сапраўдную каштоўнасьць.

У шапіку перад аркаю, празь якую ўваходзілася ў Нясумныя прысады, Цьвінтарэй набыў апошні выпуск «Нехлусьлівага хлуда». На першай-жа бачыне яму кінулася ў вочы каляровая ілюстрацыя з карціны Круцеля Манцеля «Праўдашукальнікі». Усе пяцёра з намаляваных на карціне хлудаў былі знакамітыя праўдашукальнікі, якія зладжаным шы-

хтом маршыравалі ў імглістую далячынь. «Круцель Манцель дасканаліцца, — не безь весялосьці зацеміў Цьвінтарэй, — хоць і ў ягоных працах праз усё наноснае праглядваецца тое самае кплівае стаўленьне да жыцьця й блазьнючы сьмех з усяго, што для хлудаў сьвятое».

У Нясумных прысадах пісьменьнік улаштаваўся якраз на той самай лаўцы, дзе кагадзе сядзелі поплеч праўдашукальнік Болмат Самасуй і мастак Круцель Манцель. Мляўкі водар першай зеляніны, зьмешаны з пахам абуджанай зямлі, казытаў Цьвінтарэю нос, сьлязіў вочы, замінаў засяродзіцца. Пісьменьнік прыгадаў свой утульны столік у «Грукаце сэрца», уздыхнуў, заткнуў вушы ватай і, паставіўшы друкарку на калені, запстрыкаў па ейных блішчоных клявішах:

«Зь Нясумных прысадаў да слыху Круцеля Манцеля далятала неперарыўнае шаргаценьне й тупат ног хлудаў, якія высыпалі на вечаровы шпацыр. У паветра раз-пораз узьляталі й лопаліся траскучыя фаервэркі глупстваў, якія, зрэшты, мелі тую перавагу, што не пакідалі сьлядоў. Ускрай спустошаны й абыякавы да ўсяго няўдаліца-самагубца цёгся пад зноў захмараным небам і нейкімі староньнімі вачыма бачыў, што дажджавыя струмкі, што цягнуліся долу, — гэта ніякія не струмкі, а ніткі ў руках Нябачнага і што Нябачны торгае іх — і ўсё прыходзіць у рух. І сам ён, і ўсе мінакі, рыхтык марыянэткі, усьміхаюцца, пераглядваюцца, ківаюць адно аднаму галовамі, абменьваюцца бязглуздымі рэплікамі…

Яны сустрэліся на заўсёдным месцы, пад аркаю, празь якую ўваходзілася ў Нясумныя прысады. Хлуды, якія папярэдне сабраліся тут, замёрлі ў чаканьні. Гарэзія глядзела на свайго абраньніка са звычайным сваім захапленьнем у вачох, з тым самым захаплень-

нем, якое ўдаецца адлюстраваць на твары толькі хлудкам, блізкім духам да багемаўцаў, і якое, несумненна, сьведчыць пра глыбінную сутнасьць ейных уладальніцаў. Хлуды чакалі, і непаўторная Гарэзія Набіванка кінулася свайму ідэалу на шыю, але спудлавала, бо ад празьмернага карыстаньня лярнэткаю — неабходнай дэталяй новай хлудзкай моды — кепска яшчэ арыентавалася ў прасторы й часе. «Як невыносна быць ідэалам увогуле, а быць ідэалам самой Гарэзіі Набіванкі — нясьцерпней удвая. Гэта ўсё адно, як паўсядзённае балянсаваньне на канаце, напятым над безданьню, куды ў кожны момант можна зваліцца й забіцца насьмерць», — хацеў быў прамовіць Круцель Манцель да пісьменьніка Цьвінтарэя, які дапамагаў арыстакратцы падняцца з ходніка, ды заблытаўся ва ўласных словах і таксама, магчыма, упаў-бы, каб Гарэзія не падтрымала яго паглядам, поўным захапленьня й каханьня.

На гэтым паказ закончыўся, і ўсе разышліся па дамох».

«На гэтым паказ закончыўся, і ўсе разышліся па дамох», — такім сказам закончыў Цьвінтарэй свой новы раман «Скутыя адным ланцугом». І яму добра было так пісаць, бо ягоная былая сяброўка, асьляпляльная Гарэзія Набіванка, на шчасьце, дасталася іншаму абранцу.

# КОЖНЫ РАЗЬВІТВАЕЦЦА ПА-СВОЙМУ

Гіцаль Валанцай таго ранку скінуў зь сябе коўдру акурат тады, калі першы сьмяцяр пратуркацеў па вуліцы сваёю зялезнаю тачкаю. Апусьціўшы на падлогу ногі, апошні рамантык са сьцятымі зубамі пахмура агледзеў чаравікі з камякамі не дасохлай за ноч гліны. Скрывеліўшыся, нацягнуў вільготныя палатняныя нагавіцы. Затым, сапучы ад напружаньня, выцягнуў з-пад ложка агромністы пляцак, туга наладаваны размаітым карысным снадзівам, асобныя часткі якога вытыркаліся наўспаверх і дазвалялі зрабіць выснову пра іхнае прызначэньне: цаўё кароткай сапёрнай рыдлёўкі, рукавятка альпэнштока, паўшар’е паходнага саганка. Пагрозьліва выглядвала загнутае вастрыё сталёвага кіпцюра, якімі карыстаюцца сьмецярымантэры, калі ўзлазяць на драўляныя слупы.

Надзеўшы цяжкі пляцак і зьлёгку нахіліўшыся наперад, Гіцаль Валанцай упэўненай хадою пашыбаваў прочкі з собскай хаты. Быў раньні час. Туман не разыходзіўся, і шараваты паўзмрок нібыта вэлюм ляжаў на ўсім, надаючы навакольлю ненатуральны немарачны выгляд. Цішыня, якую парушалі толькі крокі апошняга рамантыка, здавалася, нашчэнт выключае магчымасьць гучных зыкаў і рэзкіх пераменаў. Застыглая на апошняй ноце, цішыня гэтая зь незадаволеньнем віжавала за маленькім хлудам, які замахваўся на ейнае бязьмежнае панаваньне.

Раптам яшчэ адна невялічкая постаць вынырнула з ранішняй смугі й пачала паволі набліжацца. Яшчэ нехта, устаўшы зь цёмнага рана, увачавідкі меў намер зьдзейсьніць штосьці вельмі неадкладнае. Сагнуўшыся пад цяжарам бочкі з «Горкім палыном», проста на Гіцля, гледзячы на яго спадылба, сунуўся клышаногі, з чорнаю акладзістаю барадою хлуд Сугней Чурыла. Разысьціся на вуліцы Туманнага парадоксу было проста немагчыма.

— Сыходжу я ад вас, — прамовіў апошні рамантык і паправіў лямку ссунутага на бок плецака. — Назаўсёды!

Стомлена прысеўшы на бочку, Чурыла зайздросьліва скасавурыўся на шчытна наладаваны розным карысным начыньнем пляцак.

— Добры ў цябе струмэнт, — сказаў ён, памаўчаўшы. — Памяняцца не жадаеш? — і суглобамі пальцаў пастукаў па бочцы, якая азвалася глухім незадаволеным вуркатаньнем. — Хачу вось паставіць сабе паркан, а, сам знаеш, нічога нельга раздабыць.

— Гэта ня выйсьце! — зацеміў Гіцаль і таямніча ўталопіў вочы некуды высока-высока ў неба. Лоб ягоны перацяла гаротная зморшчына, першая вястунка высокай мэлянхалічнай журбы. — Ну, бывай! — бязь зьвязку з папярэднім дадаў ён.

Праз колькі хвіляў яны былі ўжо далёка адзін ад аднога.

Каля асабняка іншаземца Шампанскага апошні рамантык сьцішыў хаду. Старанна выцершы ногі, ён пастукаў у дзьверы з масыўнаю масянжоваю ручкаю. Адказу не было, аднак Гіцаль адчыніў дзьверы і ўпэўнена падняўся па цёмных сходах у прыймовы пакой

іншаземца. Было бачна, гэты шлях яму даводзілася праходзіць не ўпершыню.

Шампанскі нерухома сядзеў на сваім звычайным месцы перад камінкам. На ўсколенках у яго ляжаў ёмісты, у блакітнай вокладцы сшытак, густа сьпярэшчаны роўным дробным почыркам. Вочы іншаземца былі прыкутыя да карціны, што вісела пад старасьвецкім насьценным гадзіньнікам. На ёй зь дзівосным падабенствам быў намаляваны качан капусты.

— Сыходжу я ад вас, — замест прывітаньня прабасіў апошні рамантык.

Вейкі Шампанскага, вакол якіх залеглі сінія цені, уздрыгнулі, аднак погляд ягоны застаўся нерухомы. Гіцаль, крактануўшы, скінуў пляцак на падлогу й прысеў на яго. Бразгат мэталёвых прадметаў вывеў Шампанскага са стану прастрацыі. Па ягоным твары прабегла лёгкая дрыготка, затутнела блакітная жылка на скроні.

— Там заўсёды дзьме цёплы вецер і ўсё залітае сьляпуча-белым сонцам, — нібы ў самнамбулічным трансе прамармытаў ён.

— А мне якраз туды й трэба, — падхапіў апошні рамантык.

Канчаткова ачомаўшыся, іншаземец грэблівым позіркам акінуў агромністы пляцак і Гіцля Валанцая, які сядзеў на ім.

— Там, куды ты так прагна імкнесься, усё гэткае самае, што й тут. За Высокім квадратным парканам, хутчэй ад усяго, яшчэ адзін, ня менш высокі, паркан. А за тым — яшчэ адзін. І так да бясконцасьці... Сапраўдны сьвет тоіцца ў нас усярэдзіне, а тое, што звонку, — відмо, праекцыя, тэатар ценяў, мігадзея мігадзеяў...

Словы, бы сухія лісты, зьляталі з вуснаў Шампанскага, і гэта быў сапраўдны лістапад. Патануўшы ў гэтай ліставерці, Гіцаль з заклапочаным выглядам пачаў выцягваць з плецака вяровачную лесьвіцу. Хрыпаты бомкат ходзікаў змусіў іншаземца ўздрыгнуць, і, не прамовіўшы больш ні слова, ён скіраваў да карціны й пачаў дбайна сьціраць зь яе пыл. Гіцаль тымчасова намагаўся закінуць за сьпіну пляцак, аднак зрабіць гэта самастойна яму не ўдавалася. Шампанскі, перапыніўшы свой занятак, падышоў да Гіцля й, дапамогшы яму справіцца з наравістым плецаком, прыхільна падвёў да вакна. Гіцаль зачапіў канец вяровачнай лесьвіцы за наўмысна ўбіты ў падваконьне дзеля гэтага крук і пачаў паволі спускацца. Калі ён нарэшце дасягнуў долу, Шампанскі адчапіў лесьвіцу й акуратным рухам скінуў яе, прамовіўшы:

— Там, дзе бываю я, абыходзяцца бязь лесьвіцаў! Зрэшты, ляшчы ды акуні!

З гэтым зычэньнем ён з грукатам зачыніў вакно.

Можа, і дзіўна, але Гіцаль Валанцай пяшчотна любіў свайго бацьку. У гэтым сцьверджаньні сёе-тое, бадай, выглядае неверагодна, аднак трэба ўдакладніць, што бацькам апошняга рамантыка быў знакаміты прахвэсар ФКПІ Вух Перакінчык.

Галоўнаю асаблівасьцю Вуха Перакінчыка была ягоная надмерная, не зважаючы на зьменлівасьць самых прынцыпаў і ідэалаў, прыхільнасьць да прынцыпаў і ідэалаў, хаця, у грунце рэчы, нельга сцьвярджаць, што ідэалы ды прынцыпы — гэта штосьці ад пачатку заганнае. Больш за тое, уважаецца, што хлуд, у якога іх няма, увогуле яшчэ й ня хлуд, а нейкая хіба прыроды. Аднак чамусьці здараецца так, што той, у каго занадта многа ідэалаў і прынцыпаў, ня толькі не

жыве сам, але й замінае жыць іншым. Вось і прахвэсар Вух Перакінчык пры кожнай зручнай аказіі выцягваў на сьвет свае моцна зьедзеныя моляй прынцыпы й ідэалы ў якасьці апошняга аргумэнту ды круціў імі так і гэтак у залежнасьці ад абставінаў. Таму ня выключана, што, воляй лёсу зрабіўшыся сынам такога бацькі, Гіцлю нічога іншага не заставалася, як зрабіцца, у свой чарод, «хібаю прыроды», «геніем пакуты» й апошнім у Хлудзіі рамантыкам.

І ўсё-ж гарачае пачуцьцё любові да бацькі, якое таксама шмат хто лічыць хібаю прыроды, не згасала. Таму натуральна, што калі перад Гіцлем Валанцаем паўстаў шэры гмах Фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў, сэрца ягонае пачашчана затахкала. Гэтым ранішнім часам заняткі ў ФКПІ былі ў самым розруху. З разнасьцежаных вокнаў аўдыторыяў даносіўся глухі й гугнявы бацькаў голас: «Пры вымаўленьні “у” рот разяўлены трохі менш, чым пры вымаўленьні “о”, вусны яшчэ больш выцягваюцца піпцем наперад, корань языка яшчэ вышэй падымаецца да паднябеньня, канчар языка яшчэ далей адыходзіць ад зубоў...» Самога прахвэсара ў аўдыторыях, зразумела, не было дый быць не магло: голас ягоны зь безумоўнай дакладнасьцю перадаваўся навучэнцам цераз галасьнікі.

Гіцлю было ведама, што падчас заняткаў ягоны бацька дрэмле ў сваім пакойчыку на апошнім паверсе акадэміі. Дастаўшы з плецака кіпцюры, апошні рамантык доўга й старанна прыладжваў іх да ног, корпаючыся са шматлікімі спражкамі, сушпілкамі й паскамі. Справіўшыся з наравістымі прыстасаваньнямі, ён паклыпаў да вадасьцёкавай рыны, прычым кіпцюры пакідалі на зямлі крывыя, падобныя да мядзьведзевых, сьляды. Зачапіўшыся за рыну, Гіцаль пачаў замарачнае ўзыходжаньне да свайго бацькі.

Пафарбаваная ў серабрысты колер рына вібравала ў яго пад рукамі, а цяжкі пляцак здрадліва матляўся з боку ў бок і ў кожную хвілю мог зырваць адважнага рамантыка на брук вуліцы Каляровых думак. Хлудкі, што сядзелі ў слухальнях, як загіпнатызаваныя, не маглі адарваць ад яго позіркаў, у якіх сьвіціліся захапленьне й жах.

Нарэшце ягоны лоб прыціснуўся да шыбы, за якою — Гіцаль не сумняваўся — на канапе драмаў ягоны бацька. Зачапіўшыся за вадасьцёк ахоўным поясам, рамантык нягучна пастукаў у шыбу й глухім, запалым ад хваляваньня голасам прамовіў:

— Тата, адчыні. Гэта я!

Пачулася старэчае керханьне, бразнула засаўка, і ваканіца з рыпеньнем адчынілася. У пройме ўзьнік заспаны твар прахвэсара. Агледзеўшыся, прахвэсар убачыў сына, які з плецаком за плячыма нязручна вісеў на рыне.

— Ну, што табе? — незадаволена прабурчэў ён.

— Сыходжу я, — зьлёгку пахістваючыся ад ветру, сумна адказаў Гіцаль. У ягоных вачох штосьці здрадліва бліснула. — Назаўсёды!

— Ты сыходзіш у цяжкі для Хлудзіі час, сын мой, — урачыста ўскінуўшы рукі над галавою, пачаў прахвэсар. — Тут нашая радзіма! І мы ня маем права пакідаць яе ў цяжкую хвіліну выпрабаваньняў. — Пакамячаны прахвэсараў твар сьведчыў пра салодкі адпачынак, ад якога яго адарваў неспадзяваны візыт сына. — Ты бачыш, як цёмныя сілы, аб'яднаўшыся, не раўнуючы, як злыя сабакі, вострацць зубы на ўсё, што для нас сьвятое. Ведай-жа, што ёсьць абавязак, сумленьне, ідэалы, нарэшце, адрачыся ад якіх у такую хвілю сапраўднаму патрыёту было-б ганьбаю! — Апошнюю фразу прахвэсар ня вымавіў, а, хутчэй,

прароў. — А тым гнюсным здраднікам, якія агалілі клінкі сэпаратызму, літасьці ня будзе! Зямля Хлудзіі сьвятарная й непадзельная!

Усё сказанае было досыць дзіўнае, бо, наколькі было вядома Гіцлю, у цяперашні час Хлудзіі ні звонку, ні, пагатоў, знутры ніхто не пагражаў. Дзіўна было й іншае: прамовіўшы сваю палымяную філіпіку, прахвэсар не запрасіў сына ў пакой, а так і стаяў ля вакна ў тэпцях, чухаючы час ад часу леваю нагою правую, чаго Гіцаль, якому замінала падваконьне, бачыць ня мог. А скажы бацька: «Куды ты сабраўся, сынок?» ці хоцьбы «Ляшчы ды акуні!», як яму пажадаў Шампанскі, — дык ён, магчыма, і не схацеў-бы нікуды сыходзіць…

Аканіцы зачыніліся. На тым месцы, дзе кагадзе быў бацькаў твар, расплылася бялёсая пляма, якая раптам займела рысы твару, гэтым разам зусім не прахвэсаравага. Кашчавы, з рэзкімі зморшчынамі, ён быў аблямаваны вузенькаю сівою эспаньёлкаю. На незнаёмцу была нацубленая аксамітная стажковая шапка. Кароткія й доўгія зморшчыны ўздоўж і ўпоперак пераціналі гэты жахлівы твар, зьвіваючыся ў вычварную вязь крыптаграмы. Тонкія й ненатуральна чырвоныя губы без супыну рухаліся, аднак словаў не было чутно, а толькі нехта нібыта крэсьліў у Гіцлевых мазгох распаленыя сказы: «Усе гэтыя бясконцыя збудаваньні — адна толькі бездапаможная спроба хаця-б чым-колечы апраўдаць жывёльны страх перад жыцьцём. Схалястычныя гіпотэзы, самыя вытанчаныя высновы ня маюць нічога супольнага з тым, што адбываецца тут і цяпер. За іхнаю абалонкаю — той самы ўбогі й прымітыўны жах існаваньня, жах пустэчы быцьця, якая баіцца сама сябе, свайго самапранікненьня…»

У вадначасьсе з вокнаў слухальняў, што знаходзіліся пад нагамі апошняга рамантыка, узьнімаўся ў

паветра размножаны галасьнікамі голас бацькі: «Каб адчуць, як працуюць косыя цяглiцы падчарэўя, пакладзіце далонь на ягоную верхнюю частку й тройчы кашляніце…»

Яна жыла ў маленькім аднапакаёвым дамку на вуліцы Вернасьці разам з сваім цяперашнім абраньнікам мастаком Круцелем Манцелем. Гіцаль лёгенька пастукаў у парэпаную аканіцу, зачыненую, не зважаючы на дзённы час. Хаця стук быў вельмі кволы, арыстакратка Гарэзія Набіванка адразу зразумела, што гэта быў менавіта ён. Гіцлю нават не давялося паведаміць, што ён сыходзіць назаўжды: зразумеўшы ўсё з аднаго kіву, яна з размаху кінулася яму на грудзі, балюча ўкалоўшы яго пры гэтым ордэнам Ганаровага Легіёну, які зь нядаўняга часу насіла ў якасьці аздобы. У Хлудзіі арыстакратка Гарэзія ўважалася заканадацелькаю моды. У прыватнасьці, цяпер яна, у адрозьненьне ад астатніх хлудак, фарсіла ў галіхвэ з чырвонымі лямпасікамі і ў нейкім падабенстве вайсковага фрэнча з праўдзівым ордэнам Ганаровага Легіёну на грудзёх.

— Вазьмі мяне з сабою, малю цябе! — горача зашаптала яна. — Я больш не магу жыць зь ім, — яна кіўнула за плячо. — Абсалютна закончаны дэбіл, які ані трохі не разумеецца ў жывапісе. Ня можа адрозьніць сябе раньняга ад сябе позьняга. Дарэшты вытхнуўся, страціў пачуцьце каларыту, не карціны, а суцэльнае пэцканьне…

Цераз хвілю апошні рамантык, не пасьпеўшы нават скінуць пляцак, сядзеў на ўскрайку рыпучага незасьцеленага ложка поруч з арыстакраткаю. Тут-жа, за імі, загарнуўшыся ў парудзелую коўдру, з-пад якой тырчэлі босыя пяткі, пасопваў той, пра каго толькі

што выказваліся так непрынадна. На стале пры ложку ўзвышалася цэлая гара даўно ня мытага посуду. Паўсюль былі параскіданыя недакуркі, і ўсё было густа пасыпанае попелам уперамешку з пылам. Заклаўшы нага за нагу, арыстакратка грэбліва працягнула руку, стараючыся не датыкнуцца да ліпучага стала, разьліла ў каламутныя кілішкі рэшткі дзівам ацалелага ў бутэльцы «Горкага палыну». Выпілі. Закурылі. Гарэзія несупынна сакатала, не даючы Гіцлю ўставіць ні слова. Той, які спаў, павярнуўся на другі бок. Гіцлева суразмоўніца на хвілю прымоўкла, і, скарыстаўшы пярэрву, ён хуценька выдыхнуў:

— Ну, пойдзем, ці што?

— Не магу яго пакінуць. Прападзе ён безь мяне, — з горкасьцю адказала Гарэзія, пусьціўшы струмок дыму ў нерухомае цела мастака. — І прытым ён мяне пасапраўднаму кахае. Я стымулюю ў ім пачуцьце прыгожага. А малярства, ведаеш, — гэта такое мастацтва, вышэй ад якога нічога няма. — Яна зрабіла глыбокую зацяжку. — Але ты павінен верыць мне, памятаючы пра тое, што некалі было спаміж намі!

І Гарэзія горача прыхінулася да ягоных грудзей, другарадзь укалоўшы Гіцля ордэнам Ганаровага Легіёну.

Выпітая нашча чарка «Горкага палыну» падзейнічала менавіта так, як мае быць. Таму ня дзіўна, што наступным месцам, куды Гіцаль Валанцай выправіўся з мэтаю разьвітацца, быў шынок «Грукат сэрца». Умасьціўшыся пры століку, Гіцаль дастаў з кішэні даволі пакамячаныя красьлюнкі й, разаслаўшы іх, пачаў уважліва вывучаць. У шызых хвалях цыгарэтнага дыму, якія паволі калыхаліся над галовамі наведнікаў, Гіцаль нагадваў капітана, які адзначае на мапе маршрут плаваньня, робячы аднаму яму зразумелыя

пазнакі. Аднак ніхто не зважаў на таямнічы занятак капітана, і толькі шынкар Лажбель, паставіўшы перад ім пляшку «Горкага палыну», прыязна ўсьміхнуўся і, як заўсёды, запытаўся:

— Як маесься?

— Сыходжу я ад вас, — не адрываючыся ад красьлюнкаў, на якіх, як прыгледзецца, была схема муроў Высокага квадратнага паркану, азваўся апошні рамантык і, зрабіўшы яшчэ некалькі істотных пазнакаў, глуха дадаў: — Назаўсёды!

Лажбель, зрэшты, так і не пачуў гэтае апошняе: шырока ўсьміхаючыся й расставіўшы рукі, ён памчаўся насустрач народнаму пісьменьніку Цьвінтарэю, які заходзіў у залю ва ўсім ганаровым зьзяньні сваіх сівых валасоў і ў нацыянальнай хлудзкай сьвітцы. Сеўшы непадалёк Гіцля, пісьменьнік прагна накінуўся на клявіятуру друкаркі. Па залі разьляцелася дробнае сухое клекатаньне. Менавіта ў гэты час Цьвінтарэй завяршаў трылёгію «Скутыя адным ланцугом» пра местачковую багему, сьпісваючы яе, казаў той, з натуры.

Перарывістае клекатаньне Цьвінтарэевай друкаркі сталася сыгналам музыкам, і шынок ураз напоўніўся мудрагелістымі пасажамі хлудзкага нацыянальнага гімну. Закружыліся й зашаркалі туфлямі танцуючыя пары. Вусны апошняга рамантыка скрывіліся ў журботнай усьмешцы. Згарнуўшы красьлюнкі, ён запіхнуў іх назад у штармоўку, а затым, перакінуўшы руку цераз плячо, выцяг з плецака альпэншток.

— Вось гэтак-бы ўзяць дый пакончыць з усім! — бесстаронна, але досыць выразна вымавіў ён.

Забыўшыся, Гіцаль з размаху ўтачыў альпэншток у стол. Пачуўся драўляны хрумст. Кляцнула астатні раз друкарка. З жаласьлівым енкам захлынуўся на самай высокай ноце нацыянальны гімн. І апошні рамантык адчуў, што ўсе позіркі скіраваныя да яго.

Ён ганарліва выпрастаў сьпіну, і зьнячэўку цяжкі пляцак пераважыў Гіцля ды пацягнуў на падлогу. Гіцаль зразумеў сваю абмылку, аднак было ўжо позна. З хуткасьцю маланкі ягоныя ногі мільганулі над сталом, а затым і сам стол з грукатам перакуліўся.

Усьцівы шынкар дапамог апошняму рамантыку падняцца. Абапіраючыся на Лажбелева плячо й зьлёгку прыпадаючы на нагу, Гіцаль паклыгаў да выхаду. І толькі ў дзьвярох спыніўся й пахмура вымавіў:

— Альпэншток!

Лажбель, не марудзячы, кінуўся назад і вярнуўся з альпэнштокам, які адразу быў управаджаны на сваё заўсёднае месца. Апынуўшыся на вуліцы, Гіцаль закрыў далоньню вочы й прастаяў так некалькі імгненьняў.

Здаволены выгляд Чурылы, які, трымаючы пад пахаю нейкую скрыню, прыязна ўсьміхаўся яму, балюча разануў Гіцля Валанцая, хаця прычына ўсьміхацца так у Сугнея Чурылы мелася: у скрыні было снадзіва, якое ён толькі што выменяў у Сямейным інтэрнаце сьмецяроў на бочку «Горкага палыну».

— Ты куды? — па-сяброўску зьвярнуўся ён да апошняга рамантыка, які са скажоным ад болю тварам стаяў перад шынком.

Было цалкам відавочна, што сышліся два антыподы, і хаця ў абодвух быў набор снадзіва — прызначаліся яны для дыямэтральна супрацьлеглых мэтаў. Калі Чурыла задумаў адгарадзіцца ад усіх, паставіўшы вакол сваёй сядзібы собскі квадратны паркачык, дык апошняму рамантыку й генію пакуты Гіцлю Валанцаю быў брыдкі нават сам выгляд Высокага квадратнага паркану, і ён намерваўся пералезьці церазь яго з дапамогаю альпэнштока, вяровачнай лесьвіцы, мантэр-

скіх кіпцюроў ды іншых прыстасаваньняў і назаўсёды пакінуць Краіну Хлудаў. (Тут, дарэчы, трэба заўважыць, што кіпцюрамі апошні рамантык карыстаўся даволі добра, аблазіўшы на іх амаль усе дрэвы, якія расьлі ўздоўж бульвара Абяцанкаў-цацанкаў). Таму ня дзіўна, што Гіцаль глядзеў на Чурылу з жалем, як на хлуда, які задумаў цалкам безнадзейную справу.

Чурыла-ж, каторы ніяк ня мог усьвядоміць усёй велічы высокіх памкненьняў апошняга рамантыка, адчуваў да яго нават нейкую сымпатыю й павагу. Гэта тлумачылася тым, што Чурыла ўвогуле праз прастату сваёй натуры паважаў хлудаў, якія кемілі нешта ў інструмэнтарыі. І таму зразумела, што неўзадаўжкі антыподы, абняўшыся, выходзілі з шынка, прычым у аднаго зь іх за сьпінаю матляўся пляцак, а ў другога з-пад пахі вытыркалася скрыня. Галёкаючы песьню, антыподы дабраліся да хаціны Болмата Самасуя, змагара за ўсеагульную роўнасьць і справядлівасьць. Перад тым як разьвітацца, Чурыла доўга схіляў Гіцля, каб той аддаў яму альпэншток або хаця-б мантэрскія кіпцюры. І Гіцаль у нейкі момант ужо зьбіраўся быў аддаць свайму субутэльніку ня тое што альпэншток, а й пляцак з усім ягоным начыньнем, ды думка пра тое, колькі нядрэмных начэй правёў ён за пляценьнем вяровачнай лесьвіцы, колькі стараньняў паклаў на абдумваньне пляну ўцёкаў з Краіны Хлудаў, — утаймавала ягонае шчырае памкненьне. Ураз пасур’ёзьнеўшы, ён цьвёрда прамовіў:

— Сыходжу я ад вас! — І няцьвёрда дадаў: — Назаўсёды.

Знакаміты праўдалюбца Болмат Самасуй таго вечару пераплятаў у кардонную вокладку рукапіс свайго адзінага трактату «Справядлівасьць і шляхі

дасягненьня яе». Зрабіўшы апошні шывок, Болмат задаволена ўзважыў на руцэ ёмісты том, плён ягоных глыбокіх філязофскіх роздумаў і велічных мараў пра будучыню хлудзкага народу.

— Вось тое, што ўратуе Хлудзію! — урачыста абвесьціў ён, зьвяртаючыся да Гіцля, які сядзеў па другі ад расчыненага куфра бок.

— А мяне ці ўратуе? — Гіцаль ускінуў на Болмата сумны, поўны безнадзейнасьці позірк.

— Як ты ўвогуле можаш думаць пра сябе ў такі адказны для ўсяго існага час? Няўжо ня ведаеш, што ў самай сэрцані Сусьвету пралягае невідочная расколіна, якая падзяляе ўсё жывое на чорнае ваярства Скаламбухі й белае ваярства Нябачнага? І табе, мой малады сябра, самы час вызначыцца, у які стан перайсьці, да якога ваярства належаць. Менавіта ў гэтым тоіцца тваё, *нашае* выратаваньне, бо ведай, што праз сэрца таго, хто сёньня ня зробіць выбар, немінуча праляжа расколіна і ўрэшце зьнішчыць яго…

Вочы праўдашукальніка гарэлі агнём сьвятарнага экстазу, і было відавочна, што сам ён ужо зрабіў свой выбар і цалкам належыць менавіта да таго ваярства, якое ў кожны момант гатовае зьмесьці з твару Сусьвету цёмныя сілы хаосу й зла. Гіцаль-жа пачуваў сябе нібы тапелец пад шматмэтроваю тоўшчаю вады, і Болматавы словы выклікалі мо толькі кволае хваляваньне на паверхні тае тоўшчы. Аднак, як ні дзіўна, адчуваньне, што ягоны суразмоўнік нічым, у грунце, не адрозьніваецца ад яго, не пакідала апошняга рамантыка. Тую самую мёртвую, абыякавую да ўсяго цішыню ён неамыльна ўгадваў і пад палымянаю скарынкаю Болматавай прамовы. Розьніца палягала толькі ў тым, што Гіцаль пакорліва прымаў гэтую цішыню, а Болмат вёў зь ёю зацятае змаганьне, баючыся

й ненавідзячы яе. Ды марна было — Гіцаль інтуітыўна адчуваў і гэта — спрабаваць прабіць перакананасьць прамоўцы, якою той, нібыта панцырам, адгарадзіўся ад яе.

— Сыходжу я, — зь ціхаю безнадзейнасьцю прамовіў Гіцаль, хаця сыходзіць, як ён здагадваўся, не было куды.

Выходзячы з Болматавай хаты ў воглую начную цемру, Гіцаль усё яшчэ чуў за сьпінаю палкую казань няўрымснага праўдалюбцы, які, начыста забыўшыся на яго, звяртаўся, здаецца, да чагосьці разьлітага ў прасторы й часе.

Спатыкаючыся аб карані Нясумных прысадаў, апошні рамантык навобмацак прабіраўся да Высокага квадратнага паркану. Альпэншток глуха бразгаў аб днішча паходнага саганка, палохаючы крыклівых начных птушак: прылятаючы невядома адкуль, яны кожнага ранку адляталі немаведама куды.

Нельга сказаць, што ў часы гаспадараньня Вярэні Водае забаранялася набліжацца да муроў Высокага квадратнага паркану. У кожным разе, ні ў жаднай з тагачасных афіцыйных пастановаў ніякіх забаронаў на гэты конт не было. І ўсё-ж спахоўныя, але суворыя правілы хлудзкага этыкету не рэкамэндавалі занадта блізка падыходзіць да гарадзкіх муроў. Цяжка растлумачыць, чаму гэта было менавіта так, магчыма, сама тоўшча паркану, што пагрозьліва навісала над Краінаю Хлудаў, складзеная зь некалькіх радоў таўшчэзных бярвёнаў, валодала нейкаю загадкаваю сілаю адштурхваньня. Нездарма, кожнага разу апынаючыся тут, Гіцаль адчуваў, як штосьці невідочнае, але жорсткае й моцнае штурхае яго ў грудзі.

Скінуўшы на дол пляцак, ён адмерыў ад паркану некалькі крокаў і, мармычачы нешта пад нос, пачаў выкладваць усё неабходнае. Закончыўшы, сеў на траву й прыладзіў да ног мантэрскія кіпцюры. Хадзіць на кіпцюрох, безумоўна, вельмі нязручна. Аднак Гіцлю ўдалося пршкандыбаць некалькі мэтраў. Прычым цераз кожны мэтар ён забіваў у зямлю ўсколачак. Раскруціўшы вяровачную лесьвіцу, ён пачаў напінаць яе ад усколачка да ўсколачка так, што ў рэшце рэшт утварылася нешта накшталт вяровачнай павуціны. Затым, за дапамогай рулеткі, апошні рамантык дбайна абмерыў з усіх бакоў свае выгарадкі, што, як відаць, яго задаволіла. Зьняў з усколкаў лесьвіцу, зноў згарнуў яе ў сувой і запіхнуў назад у пляцак. Зь цяжкасьцю павярнуўся — кіпцюры надта заміналі руху — і некалькімі глухімі ўдарамі альпэнштока загнаў усколачкі ў зямлю. Затым правёў пальцам па гострым канцавіку альпэнштока і ў якасьці астатняга акорду з усяе моцы ўвагнаў яго ў глiністы дол. «Кола замкнулася!» — глуха прамовіў ён і ў стоме апусьціўся на кароткую, паголеную вожыкам траву. Ногі балюча смылелі. Апошні рамантык запаліў маленькую сьвечку, дастаў з кішэні аскалёпак люстэрка й занурыўся ў сузіраньне свайго твару. «Не! Не магу!» — вымавіў ён нарэшце. Зьняў кіпцюры, пачысьціў альпэншток, склаў усе свае прычындалы ў пляцак ды, ускінуўшы яго на плечы, разьвітальна глянуў на гузаваты грэбень Высокага квадратнага паркану, які аддзяляў яго ад запаветнага Запарканьня.

* * *

Гіцаль Валанцай таго ранку скінуў зь сябе коўдру акурат тады, калі першы сьмяцяр пратурукацеў па вуліцы сваёю зялезнаю тачкаю. Апусьціўшы на падлогу ногі, апошні рамантык са сьцятымі зубамі пахмура агледзеў чаравікі з камякамі не дасохлай за ноч гліны. Скрывеліўшыся, нацягнуў вільготныя палатняныя нагавіцы. Потым, сапучы ад напружаньня, выцягнуў з-пад ложка агромністы пляцак, туга наладаваны разнаітым снадзівам. Закінуўшы цяжкі пляцак за сьпіну й зьлёгку нахіліўшыся наперад, Гіцаль Валанцай цьвёрдым крокам пашыбаваў прочкі з собскае хаты.



# КУФАР

Змалку Болмат Самасуй моцна розьніўся ад іншых тым, што ня мог трываць аніякае няпраўды. Так, перад сьвяточным парадам, калі абшарпаны фасад Сямейнага інтэрната сьмецяроў запавешваўся агромністым плякатам, які заклікаў хлудзкі народ да новых зьдзяйсьненьняў ды перамогаў, — маленькі Болмат почасту залазіў за гэты плякат і, седзячы зь ліхтарыкам у цёмным закутку, уважліва вывучаў глыбокія зьвілістыя трэшчыны й падобныя да бародавак плямы сырасьці, якія густа пакрывалі інтэрнатаўскія муры. Ён пільна ўглядаўся ў іерогліфы рэпінаў і драпінаў, слухаў зыкі бадзёрага маршу, што даляталі з Пляцу, і сумна, зусім не па-дзіцячаму, усьміхаўся.

Пасталеўшы, Болмат Самасуй напісаў ліст гаспадару Вярэню Водае з просьбаю выслаць яго куды-небудзь у выгнаньне, лепш за ўсё — за межы Высокага квадратнага паркану. Аднак тадышні хлудзкі гаспадар, няправільна вытлумачыўшы палкае Болматава жаданьне, загадаў узнагародзіць яго ордэнам Ганаровага Легіёну — за гатоўнасьць да гераічнага самаахвяраваньня. Пра Болмата Самасуя нават надрукавалі артыкул у «Нехлусьлівым хлудзе», дзе ён быў абвешчаны афіцыйным барацьбітом за справядлівасьць. А яшчэ па нейкім часе і артыкул гэты, і сам Болмат Самасуй былі адданыя на забыцьцё.

А між тым цяга зьдзейсьніць справядлівы ўчынак яшчэ больш узмацнілася ў ім. На працягу ўсіх гадоў

забыцьця, як утрапёны, блукаў Болмат па сьцяжынах Нясумных прысадаў з неаслабным спадзяваньнем каго-небудзь выратаваць. Аднойчы, паабдзіраны, зарослы густою шчэцьцю, праходзіў ён каля Сажалкі. І раптам пачуў гучны плёскат і нейкае невымоўнае лапатаньне. Памкнуўшыся да вады, Болмат убачыў маленькую, аблепленую цінаю істоту, якая бездапаможна балохталася непадалёк берага. Па грудзі ўвайшоўшы ў ледзяную ваду — была раньняя вясна, — праўдашукальнік падхапіў тую істотку на рукі ды, поўны радасьці, падняў яе над галавою. І зьнянацку вялізная жаба, як віхраслуп, распырскваючы вакол сябе ваду, узьвілася ў паветра й павісла, учаперыўшыся пашчай за Болматава запясьце. Аднак, не зважаючы на боль, Болмат не аддаў выратаванага й зьмерыў пачвару пагрозьлівым поглядам. Пачвара, у свой чарод выгаліўшы лупатыя зекры, гнеўна ўталопілася ў таго, хто адбіраў у яе законную здабычу. На працягу некалькіх хвіляў супары сьвідравалі адно аднога вачыма. Жаба ня вытрымала першая й зь немым крэктам плюхнулася назад у Сажалку. Болмат пяшчотна прыціснуў аціхлую істотку да грудзей і вынес яе на бераг.

Калі ён абабраў ціну, якая густа аблеплівала выратаванага з ног да галавы, дык убачыў зусім голага чалавечка ў глухіх, непранікальна-чорных акулярах. Раскінуўшы рукі, непрытомны, ляжаў ён на траве. Расчулены Болмат зноў узяў яго на рукі ды прытуліў так, што акуляры малечы ўпёрліся яму ў грудзіну. Любоў і шкадаваньне да ўсіх няшчасных, пакрыўджаных і кволых апанавалі праўдашукальніка. Здавалася, гэтыя пачуцьці ўзьнімалі Болмата Самасуя вышэй за самыя высокія дрэвы Нясумных прысадаў, вышэй за Высокі квадратны паркан, вышэй

за наздраватыя хмары, што змрочным натоўпам плылі ў яго над галавою.

Шчыгульнаю рысаю Болматавай сьвядомасьці быў ейны сусьветны маштаб. Такой яна была насуперак, ці, хутчэй, дзякуючы таму, што Болмат Самасуй нарадзіўся ў краіне, абнесенай Высокім квадратным парканам, бо толькі на вельмі маленькім і да таго-ж замкнёным з усіх бакоў лапіку зямлі па-сапраўднаму можна адчуць усю безьмеж бясконцасьці. Мабыць, з тае прычыны, якая-б прыгода ні здаралася з Болматам, яна абавязкова прымала ў ягонай сьвядомасьці характар сусьветнага катаклізму. З гэтым, зразумела, можна не пагадзіцца, аднак-жа мы ўжо ведаем, што, адабраўшы ў жабы чалавечка ў чорных акулярах, Болмат Самасуй кардынальна зьмяніў усю гісторыю Краіны Хлудаў.

Як-бы там ні было, сэрца праўдалюбцы часта й моцна тахкала. Думаў-жа ён прыблізна гэтак: «Вось падрасьце хлопчык, уяўляю, як будзе дзячыць мне, калі даведаецца, што гэта я, рызыкуючы жыцьцём, выратаваў яго з цападлаў драпежнай жабы. А зрэшты, нічога ня буду яму распавядаць. Навошта? Галоўнае для мяне — справядлівасьць!»

Чалавечак-жа, які даўно апрытомнеў, вісеў паміж небам і зямлёю й думаў прыблізна гэтак: «Што за ёлупень мяне цягне й куды? Цікава, што яму ад мяне трэба?» Чалавечку было вельмі сорамна, што ён цалкам голы, апроч таго ён быў надта гідлівы й страшэнна пакутаваў ад дотыку потных Болматавых далоняў. Раздражняла яго таксама й натхнёнае тахканьне вялікага Болматавага сэрца.

Болмат Самасуй жыў у пахілай і адзінай на вуліцы Зарослай пустазельлем хаціне. Прысьвячаючы ўсё сваё жыцьцё пошукам справядлівасьці, ён аніяк ня

мог адрапараваць яе. Падышоўшы да збуцьвелых дзьвярэй, Болмат насцаком разнасьцежыў іх: так ён уваходзіў у сваё жытло нават тады, калі ягоныя рукі бывалі вольныя ад покладзі.

Першае ўражаньне было такое, нібыта Болматава хата пасьля нейкага даўняга землятрусу так ні разу й не аглядалася. Рассунуўшы разнастайныя рэчы, якія грувасьціліся на стале, Болмат пасадзіў чалавечка й паспрабаваў быў зьняць зь яго акуляры. Ды літаральна зароў ад болю: чалавечак спрытна высьлізнуў з-пад рукі, падскочыў і ўчаперыўся зубамі ў ягонае запясьце. Ад крыку затрымцела шыбіна й зазьвінелі немаведама калі мытыя шклянкі, аднак ніводны сабака ня гаўкнуў у адказ, бо на вуліцы Зарослай пустазельлем, дый ва ўсёй Хлудзіі спракавеку не было сабакаў.

Болмат адчайным рухам страсянуў чалавечка на падлогу й, загневаны, пачаў быў выцягваць з нагавіцаў папругу. Але чалавечак нікольні не спалохаўся й нават падрыхтаваўся даць адпор.

— Ну, ды маленькіх ня б'ю, — расьсьмяяўся Болмат і паблажліва дадаў: — Будзеш маім прыёмным сынам!

— Яшчэ невядома, хто каму ў сыны гадзіцца, — прабурчэў пад нос чалавечак.

І хоць Болмат Самасуй, пачуўшы сказанае, зноўку расьсьмяяўся, ён ніколі ўжо не адважваўся зьняць з Цмока — так звалі чалавечка — ягоныя чорныя акуляры.

У куце Болматавага жытла стаяў акуты меднымі абручамі куфар, які перайшоў у спадчыну да Болмата Самасуя ад ягоных далёкіх продкаў. Куфар быў адзінай прыстойнай, дыхтоўна зробленай рэччу ў хаце. Адчыніўшы куфар так, што зь ягонага века з грукатам скаціліся пустыя пляшкі, Болмат дастаў зь яго ржавыя нажніцы й стары суконны плашч-пылавік. Адным махам адцяўшы ад крыса пылавіка

ладны шматок брунатнай тканіны і выразаўшы ў ім дзьве дзіркі для рук і большую дзірку для галавы, Болмат прачула прамовіў: «Сынок, вось кавалак таго самага плашча, які насіў мой, а цяпер і твой, далёкі продак Насяканік Сьмелы, адважны змагар за свабоду й справядлівасьць. Насі й ганарыся ім!» З гэтымі словамі ён падаў Цмоку нешта накшталт маленькага балахоніка-касталаніка. Пасінелы ад холаду чалавечак, які марна стараўся сагрэцца, паляпваючы сябе па плячох і грудзёх, ня кажучы ні слова, схапіў сваё адзеньне з рук навасьпечанага бацькі.

Апрануўшы сына, Болмат пашыбаваў на варыўню, і неўзабаве стуль даляцеў пах прыгарэлай кашы ўперамешку з лаянкай, якая сьведчыла пра тыя цяжкасьці, якія сустракаў Болмат Самасуй у час, калі быў вольны ад змаганьня за справядлівасьць. Празь якую гадзіну зь ня надта чыстым ручніком на плячы й місаю ў руках ён вярнуўся ў залю й са зьдзівам убачыў, што ягоны несын пасьпеў перакроіць шматок дзедавага пылавіка ў нейкае падабенства вайсковага фрэнча, які шчытна аблягаў ягоную маленькую каржакаватую паставу. Зьнячэўку Болмату памірсьцілася, што перад ім хаця й маленькі, але цалкам дарослы мужчына. Ды, пераадолеўшы сумнеў, ён лагодна прабасіў: «Ну што, сынок, падсілкуйся крыху!» Цмок моўчкі ўскараскаўся на Болматавы калені і ўлаштаваўся там з выглядам, які адлюстроўваў складаную гаму пачуцьцяў, дзе галоўным было пачуцьце голаду, аднак ня меншае месца займала й грэблівасьць. Між тым Болмат зачэрпнуў поўную лыжку кашы і, паднёсшы яе да рота Цмока, расчулена прамовіў: «Ну, гамай, сынку, а тата табе казачку раскажа!»

У казцы, а дакладней, у вядомай усім легендзе, апавядалася пра агромністую ненажэрную жабу

Скаламбуху, якая, паводле легенды, пранікла ў Краіну Хлудаў аднекуль з-за Высокага квадратнага паркану. (У «Запаветах Нябачнага», аднак, ёсьць даволі цьмянае для разуменьня месца, якое можна тарнаваць такім чынам, нібыта Скаламбуха была ў старажытныя часы збудаваная самімі хлудамі.) Цэлых тры тысячагодзьдзі Скаламбуха палявала ўдзень на хлудаў, нечакана зьлізваючы іх сваім чырвоным і доўгім, не раўнуючы, дывановы ходнік, языком, а ўночы жудліва крактала, наганяючы на жыхароў мястэчка адчуваньне тугі ды безвыходнасьці. У рэшце рэшт, хлуды страцілі ўсялякую здольнасьць да супраціву, і, магчыма, краіна неўзабаве канчаткова абясхлудзела-б, калі-б не далёкі продак Болмата Насяканік Сьмелы. Неяк на дасьвецьці ён незаўважна падкраўся да логава жабы-хлудаедкі, якая ў той момант якраз пераструўлівала апошняга супрацоўніка Міністэрства хлудзкай абароны, з крыкам «За Айчыну!» асядлаў пачвару ды пачаў лупцаваць яе адмыслова змайстраваным дзеля гэтага сталёвым венікам. Звар'яцелая ад болю й нечаканасьці пачвара, роспачна кумкаючы й зносячы ўсё на сваім шляху, віхурай пранеслася па бульвары Абяцанкаў-цацанкаў, брыкаючыся й імкнучыся скінуць з карку сьмелага вершніка. Насяканік гнаў яе да Сажалкі. І вось, нарэшце, скрываўленая й ашалелая ад няспыннай лупцоўкі патароча зь дзікім енкам абрынулася ў ваду й камянём пайшла на дно. Разам зь ёю патануў і далёкі продак Болмата, нязломны барацьбіт за справядлівасьць Насяканік Сьмелы…

Падчас апавяданьня на твары Болмата й на твары ягонага несына блукалі самыя разнастайныя пачуцьці. Прычым, калі на бацькавым твары сьвяцілася ўсьмешка, твар у Цмока рабіўся пахмуры, а калі Болмат сумна ўздыхаў, Цмокавы грудзі ўзрадавана

і ўсхвалявана прыўздымаліся. І толькі напрыканцы аповеду, нібы паддаўшыся супольнаму памкненьню, бацька й сын суладна зашморгалі насамі. «Бедны дзядуля!» — усхліпваў Болмат. «Бедная бабуля!» — ледзь чутна шаптаў Цмок.

У спадчынным куфры Болмата Самасуя захоўвалася шмат незвычайнага. Побач з фаліянтамі хлудзкіх зьвездароў там ляжала дакладная копія таго самага сталёвага веніка, з дапамогай якога Насяканік Сьмелы перамог лютую жабу. Старадаўні парцалянавы посуд суседзіў з рэшткамі прадзедавага пылавіка: Цмок рос як на дрожджох і штотыдзень пераніцоўваў свой напаўвайсковы фрэнч. У куфры захоўвалася мармуровае вуха, якое, паводле сьведчаньняў знаўцаў мастацтва, несумненна было высечанае знакамітым скульптарам старажытнасьці, аднак каму яно належала, выявіць так і не ўдалося. Быў тут і цудоўны, рукі невядомага жывапісца, жаночы партрэт. Як быццам неўміручая казань гатовая была вылецець з шырока разяўленай пашчы чаравіка, стаптанага некалі першым хлудзкім вестуном справядлівасьці Зазелам Карузам, — ад яго Болмат вёў сваё духовае паходжаньне. А на самым версе ляжаў ёмісты рукапіс адзінага трактату самога Болмата Самасуя «Справядлівасьць і шляхі дасягненьня яе».

«Кім-бы мы ўсе былі бяз гэтага куфра? — часьцяком казаў Болмат. — Як-бы мы даведаліся, адкуль паходзім, што было да нас і хто былі нашыя сівыя продкі?» Мовячы гэтак, Болмат зь пяшчотаю пагладжваў века куфра, не раўнуючы, як той гаспадар, які гладзіць свайго адданага сабаку. Ад шматлікіх пагладжваньняў паверхня куфра зрабілася гладкая, быццам адшліфаваная. Калі прыгадаць вэрхал, які

панаваў у Болматавай хаце, дык ня дзіва, што блішчасты, надзейна зроблены куфар зь першага-ж дня прыцягнуў увагу Цмока.

Аднойчы, калі Болмат вярнуўся з чарговай экспэдыцыі, прысьвечанай росшукам праўды, ён, як агаломшаны, зьнерухомеў на парозе. Ягоны несын, скрыжаваўшы рукі на грудзёх, стаяў на куфры й праваю нагою канвульсыўна адбіваў па вечку сухі покатны дробат. Здавалася, Цмок да нечага прыслухоўваецца, бо на твары ягоным ляжала тая асаблівая адчужанасьць, зь якой хлуды звычайна слухаюць сымфанічную музыку. Чорныя Цмокавы акуляры натхнёна блішчэлі, а вусны варушыліся, нібыта штосьці вялікае, шукаючы выйсьця, высьпявала ў ім. І раптам вось яно! «Зва-жай! Тыл-фронт! У два шыхты ста-вай!» — невыносным для вуха сталёвым дыскантам заверашчэў Цмок. Болмат ад неспадзеўкі скалануўся, і рукі ягоныя паміма волі выпрасталіся ўздоўж тулава. Уся ягоная істота запоўнілася неадольным жаданьнем выгукнуць дагодлівае «Ёсьць!», ды чырвань заліла ягоны твар, і барацьбіт за справядлівасьць, як апараны, выскачыў з собскае хаты.

Тае начы Болмат Самасуй так і не вярнуўся дадому. Як п’яны, блукаў ён па местачковых вулках, залітых прывідным сьвятлом ліхтароў. У рэшце рэшт, зьняможаны й спустошаны, ён упаў на купіну балотнай травы. Як назнарок, Болмат патрапіў на тое самае месца, дзе зусім яшчэ нядаўна здымаў ціну з маленькага непрытомнага чалавечка ў акулярах, якога меўся зрабіць сваім наступцам, каму мог-бы перадаць свой запаветны куфар.

І прысьнілася Болмату, што нясе ён на руках свайго несына, нясе назад — у Сажалку. Па шчоках ягоных

коцяцца сьлёзы, але ён ня можа спыніцца, баіцца не пасьпець, бо Цмок расьце проста ў яго на руках і робіцца ўсё цяжэйшы й цяжэйшы. А вось, нарэшце, і Сажалка. Пад празрыстаю тоўшчаю нерухомай вады Болмат бачыць расплывістыя мясістыя абрысы велізманнай жабы, бачыць ейныя пукатыя вірлы, што палаюць чырвоным агнём. А на жабінай сьпіне сядзіць нехта яшчэ ды зацята перыць страхаморлівую Скаламбуху бліскучым металёвым спакменем. «Ды гэта-ж венік!» — здагадваецца Болмат. Ён спрабуе адарваць ад сябе ўчэпістыя цападлы Цмока, ды яму не стае моцы. «Ня кідай мяне, тата!» — жаласьліва хрыпіць Цмок, і зьнячэўку халодныя пальцы габаюць Болмата за горла. Чорныя акуляры спадаюць з Цмокавага твару, і Болмат замест вачэй бачыць вузкія зіхатлівыя прарэзы. Яны ўсутыч набліжаюцца да твару, асьляпляюць яго… І ўсё рассыпаецца на сьціжмы зыркіх ашкелкаў.

Мільганула й зьнікла апошняя яска начнога трызьненьня. У шарым прыцемку паблісквае матавая паверхня Сажалкі. Змакрэлы ад поту, Болмат паволі вяртаецца да жыцьця. Ён цяжка ўстае ды, мацаючы на горле балючыя сьляды начнога змаганьня, хістаючыся, шкандыбае дадому.

Яшчэ здалёку Болмат заўважыў каля хаты кучу нейкіх да болесьці знаёмых яму рэчаў. Падышоўшы бліжэй, ён пазнаў усё тое, што яшчэ ўчора складала зьмесьціва ягонага жытла, а дакладней, ягонага існаваньня. Калекцыя бляшанак са стракатымі налепкамі, трэснутае люстра ў цёмнай старадаўняй аправе, фільцовы капялюш — падарунак даўно памерлай каханкі — ды шмат чаго іншага было ў бязладзьдзі згарушчана пад вакном. Хвіліну Болмат няўцямна

глядзеў на кучу рэчаў, што яшчэ ўчора надавалі ягонаму існаваньню такую маляўнічую й мілую сэрцу няўтуліцу, а затым, як-бы з прымусу, падышоў да дзьвярэй і мо ўпершыню сьцярожка адчыніў іх рукою.

Хата, амаль страціўшы свой колішні выгляд, непазнавальна зьмянілася. Паміж павыскрабаных да бляску масьнічынаў чарнелі шырокія, зь няроўнымі краямі шчыліны, зь якіх патыхала шматгадоваю волкасьцю й стыньню. Са сьценаў былі садраныя каляровыя літаграфіі, і тыя мясьціны, дзе не было тынкоўкі, нагадвалі жывое мяса, зь якога зьдзёрлі скуру. Шэрая столь панура навісала над галавою. Праз шыбы, шчытна заклееныя пажоўклымі газэтамі, цадзілася чэзлае сьвятло, якое фарбавала пакой у мярцьвяны колер. З усіх Болматавых рэчаў ацалеў толькі куфар ды стары спружынавы ложак.

Цмок стаяў сьпінаю да Болмата й корпаўся ў куфры. Заняты сваёю працаю, ён нават не пачуў крокаў бацькі. І толькі тут, у пустой і няжытнай хаце, Болмат выразна ўбачыў, як вырас ягоны несын. Магутныя плечы, нібы жорны, рухаліся пад трэснутым на сьпіне фрэнчам, таўсматая шыя акораным пацурбалкам выглядала з вузкага ёй каўняра, дужыя, падобныя да жабіных лапаў рукі тырчэлі з кароткіх рукавоў.

— Ты што робіш?! — запытаўся Болмат.

Цмок крута павярнуўся. У адной руцэ ён трымаў рэшткі пылавіка знакамітага продка, у другой — дакладную копію ягонага сталёвага веніка.

— Фрэнч зноў лопнуў, — панура прамармытаў Цмок.

І тут Болмата прарвала.

— Хто табе дазволіў корпацца ў маім куфры?! — залямантаваў ён. — Ану, пакладзі венік на месца!

Некалькі хвіляў Цмок вагаўся, а затым нехаця апусьціў венік у куфар. Па твары Болмата каціліся халодныя кроплі. Ён падышоў да куфра, падняў з падлогі замок, замкнуў куфар і, у зьнямозе прысеўшы на яго, прамовіў да Цмока:

— Чаго стаіш? Сядай. Сьнедаць будзема!

Прыхапіўшы міску з халоднаю кашаю, бамбіза Цмок плюхнуўся на Болматавы калені. Болмат зачэрпнуў поўную лыжку й звыклым рухам паднёс яе да Цмокавага рота. І раптам скалануўся: паміж двума шыхтамі вострых белых зубоў самотна блішчэла залатая каронка... Валавяная лыжка зь ценькім дзынканьнем пакацілася па падлозе.

Болмат прыўзьняў голаў. Цмок ціха пасопваў на падлозе каля ложка. Чорныя акуляры перакрэсьлівалі ягоны нібы з валуна высечаны твар. Стараючыся не рыпець, Болмат зьлез з ложка й на дыбачках пракраўся да куфра. Абчапеліўшы куфар рукамі, ён зь цяжкасьцю адарваў яго ад падлогі й панёс да дзьвярэй.

У зарасьцях лапушыньня, што буяла ў лагчыне непадалёк ад хаты, Болмат з гучным выдыхам апусьціў куфар на зямлю. Потым, папляваўшы на далоні, штомоцы ўвагнаў у дзірван іржавую рыдлёўку й выкалупаў першы камяк...

Неўзабаве Болмат быў ужо на дне глыбокай прастакутнай яміны. Адставіўшы рыдлёўку, ён у стоме прыхінуўся да прахалоднага стромага зрэзу. Некалькі дробных каменьчыкаў скацілася згары, і зьнячэўку ўся пяшчаная сьцяна з глухім шоргатам зьехала на Болмата Самасуя, зьбіла яго з ног і накрыла з галавою. Нейкім неверагодным высілкам Болмат аслабаніў галаву й рукі, ды тут цяжкі куфар імкліва споўз па

адхоне ды, нібыта зялезны бот, шыбануў яго пад рэбры, намёртва прыцяў да зямлі.

Як быццам скавышом павыдзімала з Болматавай сьвядомасьці ўсе думкі, і нібыта разнасьцежыліся аканіцы, якія перашкаджалі яму бачыць. Перад Болматам паўстала панарама невялічкага мястэчка ці нават цэлай краіны. Там віравала нейкая незразумелая яму праца. Болмат праходзіў паўз будынкі, якія наўвоч, паверх за паверхам, расьлі ў неба. Абмінаў парасткі, што зьяўляліся з-пад зямлі і ўвачавідкі пераўтвараліся ў высокія разгалістыя дрэвы. Аднак усё, што адбывалася, здавалася Болмату надта ўжо марудным. Ён нахіліўся над адным з парасткаў, ухапіўся за ягоную макаўку ды, дапамагаючы дрэўцу расьці, пачаў штомоцы цягнуць парастак угору. Пачуўся трэск. Парастак покнуў. І з разрыву лінула жоўта-брунатная цякоміна, што, не пасьпяваючы расьцячыся, застывала на зямлі густым бурым месівам…

Болмат абглядзеўся. Аніякае ствральнае працы ўжо не было. З гмахаў паволі спаўзала дахоўка. Па сьценах віліся чорныя вілаваціны, зь якіх вывальваліся цагліны. Скурчваліся й засыхалі дрэвы… І ў гэты момант усё патанула ў непрагляднай каламуці, быццам Нябачны штурхануў аканіцы і з пранозным скрыгатам яны зачыніліся назаўсёды.

Цмок выцягнуў зь яміны куфар, дастаў з куфра сталёвы венік, а астатняе ягонае зьмесьціва вывернуў на зьнявечаныя парэшткі Болмата Самасуя. Узяўся быў за рыдлёўку ды, нешта прыгадаўшы, зноў сышоў у яміну й адшукаў у кучы старызны ёмісты рукапіс. Садзьмуў з кардоннай вокладкі пясок і па складох прачытаў: «Справядлівасьць і шляхі дасягненьня яе».

Закапаўшы бацьку, Цмок з куфрам вярнуўся ў хату. Кракнуўшы, паставіў куфар на ранейшае месца, а зьверху паклаў сталёвы венік і пульхны бацькаў трактат пра справядлівасьць. Потым падышоў да сьцяны, дастаў з кішэні кавалак крэйды ды пачаў нешта крэмзаць на парэпаным тынку. Ён соп ад напружаньня, але, было бачна, атрымліваў ад працы вялікую насалоду.

Надвячоркам на сьцяне праступіў відарыс, які, несумненна, захоўваў падабенства з арыгіналам: гэта быў Цмокаў бацька, які калісь выцягнуў яго з Сажалкі, выкарміў і выгадаваў яго, непахісны барацьбіт за справядлівасьць Болмат Самасуй. Цмок некалькі хвіляў задаволена глядзеў на бацькаў партрэт, затым крута павярнуўся й, выразна адбіваючы крок, скіраваў да дзьвярной праймы, за якою ў імглістых прысьмерках ляжала Краіна Хлудаў...

На пустэльнай вуліцы Зараслай пустазельлем ён убачыў наперадзе нясклёпістую постаць у капелюшы й з кіем у руцэ. Па-бычынаму схіліўшы галаў, Цмок Калывок пайшоў проста на яе.

# НАЧНАЯ ПТУШКА

Непрызнаны паэт Хіцер Зьміцер шпурнуў на пісьмовы стол стос танюткіх публікатак, сеў на ўслон і прыціснуў сваю вершаваную прадукцыю магутнаю пяцярнёю.

— І гэта плён майго жыцьця! — змрочна канстатаваў ён.

Зрэшты, слова «змрочна» не зусім пасавала толькі што сказанаму. Хіцер ніколі не ўсьміхаўся, ягоны нібыта высечаны з валуна твар заўсёды заставаўся нерухомы, ён амаль заўсёды маўчаў, і гэткая ягоная неверагодная вытрыманасьць зьдзіўляла хлудаў, а шмат хто нават пабойваўся паэта. Гэты безуяўны страх грунтаваўся ня толькі на тым, што паэт быў уладальнікам непамерна вялікіх кулакоў ды шырокіх рамёнаў: хлуды інтуітыўна адчувалі за ягонаю грубаю вонкавасьцю нейкую незвычайную нутраную моц, якая ў кожную хвілю магла вырвацца вонкі й зьмесьці ўсё і ўсіх на сваім шляху.

Гэтую страшлівую моц Хіцер змалку адчуваў у сабе й сам. Зрэшты, усе ягоныя вершаваныя «практыкаваньні» (так называў свае творы сам Хіцер) у бальшыні сваёй былі праявамі тае моцы, дакладней, разрадкаю яе ў сярэдзіну сябе самой. Прыкладам, у Хіцеравых паэтычных вызглыбежах у сівую мінуўшчыну (паэма «Самародкі») носьбіты такой адмысловай нутраной моцы бязь лішніх развагаў выплюхвалі яе зь нетраў

сваёй шчодрай натуры на навакольны сьвет і на ўсё жывое ў ім. Яны, індывідуўмы вышэйшай хлудзкай пароды, сваёй жыцьцядайнаю моцаю й зялезнаю воляю крышылі й дратавалі чужыя ім парадкі й packоны, ствараючы свае, новыя парадакі, нішчачы або перайначваючы ўсё і ўсіх на свой собскі каленкор. Яны або гінулі, або мацнелі ў неперарыўных войнах і змаганьнях адзін з адным, накідваючы на пераможаных сваё права й сваю мараль, апірышчам якое было іхнае уласнае, гераічнае й поўнае небясьпекі жыцьцё. Яны без усялякіх згрызотаў сумленьня прыўлашчвалі чужое, слабейшае, менш каштоўнае, прырастаючы яшчэ большаю моцаю. Яны былі й застаюцца дагэтуль найкаштоўнейшымі самародкамі залатой пароды хлудаў.

І сам Хіцер Зьміцер — ён адчуваў гэтае ўсёй сваёй істотаю — быў ці не апошні самародак спасярод радовішча нікчэмных спакрэвічаў: баязьлівых, але нахабных балбатуноў пра свабоду волі, парапсыхалёгію, дэмакратыю, мастацтва, вольнае каханьне й правы асобы, — пустамалотаў, якія ў сапраўднасьці толькі й маюць права быць пакорлівым статкам ды падатным матар'ялам для вялікіх Хіцеравых задумаў і зьдзяйсьненьняў.

Так ці інакш, для выкананьня задуманага ім без «жывога матар'ялу» абысьціся было немагчыма. І найбольш трывалым «матар'ялам», на думку Хіцера, былі сьмецяры: працавітыя ад прыроды, здаровыя й не сапсутыя залішняй адукацыяй. Штопраўды, надмернае ўжываньне «Горкага палыну» рабіла іх часам непрыдатнымі для колечы-якой дзейнасьці. Але…

— Але й мне не замінула-б кульнуць сёньня чарку-другую на знак майго гістарычнага зьмеркаваньня! — Хіцер пяцярнёю змахнуў публікаткі са стала, і «плён» ягонага жыцьця, жалобна прашапацеўшы ў паветры

папяровымі старонкамі, стракатым вахляром лёг на глінабітную падлогу. (Паэт атрымліваў за свае публікацыі ў «Нехлусьлівым хлудзе» мізэрныя ганарары й таму аніяк ня мог замасьціць падлогу дошкамі.) Падняўшыся з услону, Хіцер згроб публікаткі ў кучу й пстрыкнуў запальнічкаю. Кволае полымца ўскінулася над публікаткамі, у якіх было ўсё, што ён напісаў у былым жыцьці, а калі агонь надзейна апанаваў згарушчанае на падлозе, Хіцер памацаў у кішэні апошні асьмак і, ні разу не азірнуўшыся, выйшаў з дому.

Пражываў Хіцер Зьміцер на вуліцы Туманнага парадоксу неўздалёк Сямейнага інтэрната сьмецяроў, і найкаротшы для яго шлях да шынка «Грукат сэрца» пралягаў па бульвары Абяцанкаў-цацанкаў. На Пляцы, на адным баку якога высіўся сьпічасты Палац гаспадароў, а з адваротнага боку прыцягваў увагу пафарбаваны ў жоўтае асабняк іншаземца Шампанскага, ён спыніўся.

Зразумела, сёньня яму не зашкодзіла-б зноў наведаць Палац, куды ён заходзіў даволі часта й не без дай прычыны. Стары прыдзьвернік (іншай абслугі й аховы ў Палацы не было) гасьцінна разнасьцежваў перад ім дзьверы, праводзіў па кіліме да мармуровых сходаў і вяртаўся на сваё заўсёднае месца. Хіцер падымаўся на другі паверх у галярэю, муры якой былі аздобленыя вялікімі партрэтамі ў пазлацаных рамах. Гэта, зразумела, былі партрэты гаспадароў Хлудзіі: ад першага, легендарнага, Вісуса Прапаснага да цяперашняга гаспадара Вярэні Водае. Хіцера цікавіў толькі першы партрэт, бо менавіта ад Вісуса Прапаснага вёў ён своё радавое паходжаньне, што было абсалютна ясна нават без адмыслова складзенага з тае нагоды местачковым архіварыюсам «Радаводу Зьміцераў». І самога Хіцера,

і ўсіх іншых наведнікаў галярэі дзівіла неверагоднае вонкавае падабенства паміж Хіцерам і ягоным далёкім продкам: тыя самыя агромністыя кулакі, магутныя, як жорны, плечы, якія, здавалася, не зьмяшчаліся ў падумяную золатам камізэльку, шыя, што акораным пацурбалкам выпірала з вузкага ёй каўняра, як з валуна высечаны твар з сувора сьціснутымі вуснамі, шырокім носам і халодным паглядам блакітных вачэй…

Які гэта быў кантраст з гаспадаром Вярэнем Водае! Цяперашні гаспадар Палаца, абраны хлудамі на пасад праз ягоную прыродную няздольнасьць прымаць пастановы й надзвычайную прастату й лагоднасьць, ад раньня да зьмярканьня праз усё сваё доўгае, хутка дваццацігадовае, гаспадараньне бестурботна драмаў у Троннай залі, ціха калыхаючыся ў змайстраваным пад яго троне-гушкаўцы. Калі ссутоньвалася, Вярэня, заспаны і ў халаце, выходзіў у галярэю, няўклюдна сунуўся паўз партрэты сваіх папярэднікаў, пляскаючы ў мёртвай цішыні скуранымі сьціжэмкамі й ветліва ківаючы рэдкім вечаровым наведнікам пляхатаю галавою. Сыходзіў па мармуровах сходах у вітальню й надоўга зьнікаў у бакоўцы старога прыдзьверніка, да ранку гуляючы зь ім у паддаўкі (шашачная гульня). І ў гэтым, калі ня браць пад увагу ягоных «хаджэньняў у народ» (наведаньняў шынка «Грукат сэрца») палягала, бадай, уся ягоная дзяржаўная чыннасьць. Карона Вісуса Прапаснага была прычынаю плеха на Вярэневай галаве й так абрыдзела Вярэню, што ён, парушаючы старажытны хлудзкі этыкет, даўна ўжо не надзяваў яе.

Прастаяўшы ў няпэўнасьці колькі хвіляў, узважаючы, відаць, два альтэрнатыўныя варыянты адзначаньня гістарычнай для ягонай біяграфіі падзеі, Хіцер

крута павярнуўся сьпінаю да Палаца гаспадароў і скіраваў да асабняка іншаземца Шампанскага.

— Sorry! — замест звычайнага вітаньня з парога прамовіў да яго іншаземец. — А дзе твае чорныя акуляры? Ты выглядаў надоечы як сапраўдны салдафон!

— Кола замкнулася! — адказаў яму на гэта Хіцер, ведаючы пра завядзёнку арыстакрата зьбіваць з тропу наведнікаў асабняка сваімі рэплікамі (нечаканымі й бязглуздымі, а часам і трапнымі сказамі), якія, на думку іншаземца, маглі выклікаць у ягоных візытэраў эфэкт прасьвятленьня.

Безумоўна, Хіцер цудоўна разумеў, што словы й іхнае значэньне часта не супадаюць і такога эфэкту, пры адпаведнай расстаноўцы словаў, дасягнуць можна, але што яму да ўсіх гэтых мудрагелістых слоўных гульняў і прасьвятленьняў, калі ўсё можа разьвязаць адна толькі сьляпая, да апошняга крэсу сканцэнтраваная ў ім моц, квантумы (хлудзкае слова) якой былі разьлітыя ва ўсім, што жыве й рухаецца, а нават і ў нежывых камянях, гліне, вадзе, паветры, мурох Высокага квадратнага паркану — ва ўсім Сусьвеце. Гэтая першабытная моц або канцэнтравалася, або разрэджвалася ды імкнула па часавым коле, паўтараючы тыя самыя, старыя, як сьвет, камбінацыі. Ніколі не існавала й не існуе ніякіх іншасьветаў, і гэтак званыя прасьвятленьні, мэдытацыі ды іншасьветы ёсьць толькі адзін з спосабаў слабейшых адгарадзіцца ад больш дужага, больш паўнавартаснага індывідуўма, ад ягонай спапяляючай усе іхныя каноны і ўстанаўленьні моцы. (Дарэчы, гэтыя «рахманыя бажоны», калі ім надараецца ўсім схлупам паваліць ды запрыгоніць свайго суперніка, самі робяцца куды больш бязьлітаснымі гаспадарамі, якія нявечаць пераможанага сваімі

злакаманнымі інсынуацыямі ды паступова ператвараюць яго ў маральнага звырода й нэўрастэніка.)

Штопраўды, арыстакратычны й хваравіты ад прыроды Шампанскі (можа стацца, у гэтай прыроднай хваравітасьці й трэба шукаць прычыну ягоных трансцэндэнтных практыкаваньняў) ніколі не замінаў жыць іншым, не назаляў нікому (як, напрыклад, назаляюць прыхільнікі Нябачнага й ягоных «Запаветаў» сваімі павядакамі-раздабарамі пра «выратаваньне душы», «вечнае жыцьцё», «грэх», «віну», «нячыстае сумленьне», «спачуваньне», «гардыню»), і мо таму Хіцер Зьміцер, не зважаючы на сваю татальную адзіноту, мог некаторы час трываць залішнюю блізкасьць іншаземца. Таму ня дзіўна, што іхныя столікі суседзелі ў «Грукаце сэрца», і па некаторым часе яны абодва сядзелі там.

Таго адвячорку ў шынку сабралася ледзьве ня ўся местачковая багема. У шызых хвалях цыгарэтнага дыму столікі, пры якіх улаштаваліся багемаўцы, здаваліся маленькімі падводнымі субмарынамі. Закураныя скляпеньні залі адбівалі аднастайны гул галасоў, і збоку магло падацца, што заўсёднікі шынка, ня слухаючы й перапыняючы адно аднога, выказваюць самыя неверагодныя й супярэчлівыя думкі й меркаваньні, даўно ўжо не разумеючы, пра што, уласна, ідзе гаворка.

Троху збоку ад Хіцера й Шампанскага зладжанай купкай весяліліся маладыя хлудзкія паэты й паэткі, якія пры іхным зьяўленьні загаварылі ня так гучна, а неўзабаве ў зьбянтэжанасьці пакінулі залю.

— Паэзія дый уся літаратура нічога ня значаць, а паэты — проста блазны, — заўважыў Хіцер.

— Так, — пагадзіўся Шампанскі, — аднак ты таксама пішаш.

Хіцер прапусьціў гэта паўз вуха.

— Пры маім продку Вісусе Прапасным, — упарта працягваў ён, — месца паэтаў было воддаль бяседнага стала, а іхнае прызначэньне — цешыць сэрца гаспадара й ягоных высакародных гасьцей сагамі пра войны, вычыны ды паляваньні.

— Тое было даўно... Аднак ты таксама пішаш, — паўтарыў суразмоўнік.

— Ужо не пішу. Кола замкнулася! — з гэтымі словамі былы паэт безь нічога ніякага рэзка падняўся з крэсла й скіраваў да выхаду.

У сутонлівых, даволі вузкіх, не разысьціся, сенцах шынка проста на яго сунулася, цяжка тупаючы, каржакаватая постаць хлуда ў непранікальна-чорных акулярах апраненага ў брунатнага колеру напаўвайсковы фрэнч. Абодва ад нечаканасьці спыніліся й пачалі пільна абглядаць адзін аднаго. І Хіцеру здалося, што ён ужо бачыў недзе гэтага незнаёмца, больш за тое, не аднаго разу спатыкаўся зь ім. Прастаяўшы так колькі хвіляў, абглядальнікі, кожны сьпінай да сваёй сьцяны, трымаючы напагатове каля грудзіны па-баксёрску складзеныя рукі, нібыта баючыся атрымаць нечаканы кухталь пад здухавіну ці ў сківіцу, моўчкі прасунуліся кожны ў сваім кірунку.

— Інтэлігенты, зважай! — пачуў за сьпінай на выйсьці з шынка Хіцер нечакана верасклівы голас дзівачнага незнаёмца.

«З такім трэба самому трымаць дыстанцыю», — падумалася былому паэту, і ўпершыню крывая ўсьмешка прабегла па ягоных сьціснутых вуснах, відаць, даўночаканае зьяўленьне вартага суперніка ўсьцешыла яго.

На вуліцы Вернасьці, па якой Хіцер выправіўся пашпацыраваць уздож Нясумных прысадаў да

Сажалкі, ён сустрэў зьбітага на горкі яблык прахвэсара ФКПІ й галоўнага рэдактара «Нехлусьлівага хлуда» Вуха Перакінчыка ў атачэньні навучэнцаў акадэміі, якія паволі вялі прахвэсара ў бок сваёй альма-матэр. Моўчкі абмінуўшы Хіцера ды адышоўшыся на бясьпечную адскочку, уся гэтая стракатая гурма раптам спынілася, павярнулася да Хіцера й пачала, размахваючы кулакамі, выкрыкваць чамусьці яму, Хіцеру, страшныя пагрозы, хаця адрасаваліся яны, хутчэй ад усяго, таму бамбізу ў напаўвайсковым фрэнчы.

Хіцер яшчэ раз парадаваўся нядаўняму спатканьню ў сенцах «Грукату сэрца», бо бамбіза зрабіў тое, што ён не аднаго разу намерваўся зрабіць сам. Прахвэсар Вух Перакінчык рэдка друкаваў ягоныя зборнікі, а калі й друкаваў, выплочваў за іх мізэрныя ганарары. Складвалася ўражаньне, што й выпускаў ён у сьвет Хіцеравы «практыкаваньні» толькі дзеля таго, каб адразу-ж па іх выхадзе абрынуцца на паэта з разгромнымі артыкуламі, абвінавачваючы апошняга ў амаралізме, жорсткасьці, грамадзкай абыякавасьці, індывідуалізме, вандалізме ды ва ўсіх іншых сьмяротных грахах, не забываючы, аднак, пры гэтым прадэманстраваць сваю шырокую вучонасьць, начытанасьць ды дэмакратычнасьць поглядаў, якія цяпер сярод хлудзкай эліты ўбіраліся ў моду. Зрэшты, усё тое, у чым абвінавачваў знакаміты хлудзкі прахвэсар непрызнанага паэта, акурат і зьяўлялася самым цымусам ягонай творчасьці. Адно толькі, што хлуды зь іхнымі кволымі натурамі не маглі асвойтацца ў Хіцеравым сьвеце, які здаваўся ім жудасным і падробленым, а вялікія ісьціны, якія зь неахвотаю прачыняў ім самотны паэт-пустэльнік у сваіх нешматслоўных творах, непрыемна ўражвалі іх. Гэтае непрыемнае для хлудаў уражаньне Хіцер таксама ўважаў за станоўчы

момант свае творчасьці. Адно не задавальняла яго — велічыня атрыманых ганарараў.

Ідучы па беразе Сажалкі, Хіцер спыніўся каля адзінага не зарослага раскаю й гарлачыкамі месца, дзе хлуды ўлетку почасту бавіліся купаньнем. Ён зірнуў на сваё адлюстраваньне ў вадзе й раптам дапяў, чаму яму падалося, быццам ён не аднойчы спатыкаўся з тым бамбізам у напаўвайсковым фрэнчы. Бамбіза быў дакладнай копіяй самога Хіцера Зьміцера! Нешта занепакоіла былога паэта, і ён ужо куды хутчэй пашыбаваў па вуліцы Туманнага парадоксу ў бок Сямейнага інтэрната сьмецяроў. Аднак на паўдарозе яму зноў давялося спыніцца.

На абочыне ляжала падбітая кімсьці, хутчэй ад усяго падпітым сьмецяром, чубатая, са стракатым апярэньнем птушка, адна з тых, якія ноччу прылятаюць немаведама адкуль у Нясумныя прысады, тужліва крычаць ў высокіх шатах дрэваў, а на золку зьнікаюць немаведама дзе. Хіцер упершыню ўбачыў начную птушку ва ўсёй ейнай красе, хоць была яна моцна падраненая. Чубатка, лежачы на баку, махала зрэдку адным крылом, глядзела на яго незьмігутным смарагдавым вокам, у якім маглі змясьціцца смутак і скруха ўсяго свету, ды зявіла крывую глюгу, спрабуючы, мабыць, паведаміць нешта хлуду, які схіліўся над ёю. Штосьці падобнае да шкадаваньня кальнула халоднае сэрца Хіцера. Але ён адразу заглушыў гэтае нечаканае для яго пачуцьцё. Выпрастаўся й, каб птушка ня мучылася, падноскам пантофля расчавіў чубатую галоўку.

Зь Сямейнага інтэрната сьмецяроў даносілася дзынканьне шклянак, узрадаваныя воклічы й бяседныя песьні ягоных насельнікаў. Пачуўшы сярод

вясёлага гармідару ўжо знаёмы верасклівы голас, Хіцер зразумеў, што безнадзейна спазьніўся. «Не, мы пойдзем іншым шляхам!» — уголас сказаў ён і крута павярнуў да сваёй хаціны. Трохі адышоўшыся, ён спатыкнуўся з Сугнеем Чурылам, які, з рыдлёўкаю на плячы, цягнуў пад пахаю зь Нясумных прысадаў даволі важкае бервяно. Хіцер адабраў у яго рыдлёўку й, не сказаўшы ні слова, пашыбаваў далей.

* * *

Наступнага ранку іншаземец Шампанскі прачнуўся ад нязвыклых выгукаў: «Права-руш! Лева-руш! У два шыхты ста-вай!» Са зьдзівам прыслухоўваючыся да непрыемнага, як скрыгат спружынавага ложка, голасу, Шампанскі выглянуў у вакно й быў вельмі ўражаны, убачыўшы сьмецяроў, якія кароткімі перабежкамі, угінкам, нібыта хаваючыся ад нябачнага ворага, з усіх бакоў набліжаліся да Палаца гаспадароў. З характэрнага бляску ў хмызьняку, што рос перад ягоным вакном, Шампанскі пазнаў пазаўчарашняга бамбізу ў напаўвайсковым фрэнчы, зь якім ён лоб у лоб сутыкнуўся на вуліцы Зарослай пустазельлем: так маглі блішчэць толькі ягоныя непранікальна-чорныя акуляры.

А Хіцер Зьміцер таго самага ранку пачаў капаць на земляной падлозе сваёй хаціны падпольле. Назаўтра падпольле было выкапанае й там, акурат праз тыдзень пасьля дзяржаўнага перакруту, была разьмешчаная рэдакцыя адзінай дазволенай у краіне падпольнай газэты «Адраджэньне» й друкарскае абсталяваньне, на якім друкавалася газэта, а таксама ўлёткі з заклікам зьнішчыць ненавідную дыктатуру Цмока Калывока (так звалі новага хлудзкага гаспадара) ды вярнуць хлудам іхную волю й незалежнасьць. На

жаль, большасьць накладу газэтных нумароў і ўлётак так і засталася ў падпольлі: распаўсюджаньне небясьпечнай для новай улады друкаванай прадукцыі было раптоўна спыненае вельмі раньняю зімою й зьвязанай зь ейным прыходам зімовай сьпячкай. Кажуць таксама, што друкарскае абсталяваньне няўрымсны барацьбіт за волю й незалежнасьць хлудзкага народу Хіцер Зьміцер і ягоныя паплечнікі («рухавыя») собскімі рукамі перацягнулі цераз даволі вузкі лёх, пракапаны імі ў Запарканьне у непасрэднай блізкасьці ад таго месца, дзе знаходзіўся Вялікі квадратны паркан.

# ПАРТРЭТ

Гіцаль Валанцай перасмыкнуў плячыма. Звычка да працы не ратавала ад холаду. Ёдкія струмкі забіраліся пад лядачую сьмяцярскую сьвітку, паўзьлі па схуднелых баках былога рамантыка, дакраналіся да ягонага жывата. Суха храбусьцела пад рыдлёўкаю ўзятая першым марозам скарынка зямлі. Здавалася, цэлае жыцьцё прайшло ад той пары, як ён апынуўся тут, на будаўніцтве канала, і Гіцаль не спадзяваўся ўжо калі-небудзь выкараскацца з гэтага жахлівага месца, і роспач ад жудаснай несправядлівасьці таго, што адбывалася, больш не прыгнятала яго. Засталася толькі праца й нічога апроч яе. І былы рамантычны герой і геній пакуты торгаўся й зьвіваўся разам з усімі іншымі будаўнікамі, не раўнуючы, як часьцінка рассечанага на кавалкі чарвяка.

Кожная выкапаная ім яміна здавалася Гіцлю яшчэ адным крокам да таго, чаго ён ужо даўно не баяўся. Чым глыбей закопваўся ён у стылую непадатную зямлю, тым выразьней уяўляў, як у нейкую апошнюю хвілю, канчаткова страціўшы жаданьне жыць, ён адкіне рыдлёўку, сядзе на дно яміны, прыхінецца шчакою да сьцюдзёнага зрэзу і… Рыдлёўка глуха чмякнулася на груд сьвежавыкапанай зямлі. Гіцаль у стоме сеў на дно, сеў менавіта так, як яму неаднойчы мірсьцілася, выпрастаў ногі й прыціснуўся скроняй да халоднага шурпатага зрэзу.

Раптам штосьці вострае балюча ўкалола яго ў шыю. Неахвотна расплюшчыўшы вочы, Гіцаль убачыў, што проста насупраць шыі з глебы вытыркаецца рог нейкага пляскатага прадмета. Аблупленая пазалота, што захавалася на ім, дзівачна кантраставала з панылаю бясколернасьцю, якая ахутвала навакольле. Думка пра забыцьцё неяк незаўважна саступіла месца цікаўнасьці, і Гіцаль асьцярожна, каб не пашкодзіць сваёй знаходкі, пачаў разграбаць пясок вакол яе.

Па некаторым часе ён трымаў перад сабою аблеплены вільготным пяском прастакутнік, а яшчэ па некалькіх хвілях, калі счысьціў зь яго пясок, зразумеў, што ў ягоных руках карціна, дакладней, партрэт нейкай жанчыны. Ейны твар здаўся Гіцлю вельмі знаёмым, хоць партрэт быў моцна папсаваны сырасьцю: на ягонай паверхні распаўзьліся рудыя пляміны, фарба ў шмат якіх мясьцінах адлушчылася, пазалота ашмоцьцем зьвісала з аблезлай рамы.

І зьнянацку ён успомніў усё.

...У хаце, дзе пануе маляўнічы беспарадак, адзін насупраць аднога сядзяць двое: ён, апошні рамантык Гіцаль Валанцай, і няўрымсны праўдашукальнік Болмат Самасуй. У Болматавых руках сталёвы венік, на падлозе паміж імі стаіць куфар з адкінутым векам. Болмат, як заўжды, далдоніць нешта пра справядлівасьць — гэта адзінае, што цікавіць і хвалюе яго, — а Гіцаль, каб толькі не маўчаць, лена спрачаецца зь ім, хоць наперад ведае, што пераўпэўніць суразмоўніка немагчыма. А той гарачыцца, у запале патрасае над сабою венікам і сьцьвярджае, што бяз гэтага веніка справядлівасьці не дасягнуць ніколі й нідзе. Затым ён нахіляецца над куфрам і дастае стуль досыць пульхны манускрыпт — рукапіс, якому ён прысьвяціў

большую частку свайго жыцьця — разгортвае яго на сярэдзіне й чытае, урачыста й трошкі гугнява. Гіцаль дрэнна слухае Болмата, аднак разумее, што гаворка, зноў-жа, ідзе пра той самы сталёвы венік, з дапамогаю якога знакаміты праўдашукальнік намерваецца ашчасьлівіць хлудаў. І Гіцлю зьнячэўку мірсьціцца, што Болмат стаіць па калена ў крыві, а над ягонаю галавою зьзяе залаты німб.

Зрэшты, цераз хвілю Болмат робіцца самім сабою. «Ну, што? Цяпер разумееш?» — лагодна ўсьміхаецца ён Гіцлю Валанцаю. Рамантык дзеля прыклепу згаджаецца, ківае галавою, але думае аб іншым. Яго цягне зірнуць на рэч, дзеля якой ён, уласна, і прыходзіць сюды. Нічым не выкрываючы свайго хваляваньня, апошні рамантык няўзнак працягвае руку да куфра й бярэ стуль невялікі ў пазлацанай раме партрэт.

...Яе нельга назваць прыгожай, аднак калі Гіцаль глядзіць на ейны твар, ён адчувае дзіўнае, чыста фізычнае ўзрушэньне. Гэта, бадай, можна параўнаць з адчуваньнем, якое агортвае цябе, калі стаіш на самым брыжы прадоньня й глядзіш на незвычайны краявід, пекны, зацягнуты блакітнаю смугою, які адкрываецца на дне. Відок гэты такі прыцягальны, што пачынаеш баяцца свайго ўсё больш моцнага жаданьня скочыць уніз і загінуць — але адысьці ад стромы не стае моцы.

Цікава, што Болмат нічога асаблівага ў гэтым партрэце не знаходзіў, дый, увогуле, для яго партрэт быў ня больш каштоўны, чым, напрыклад, мармуровае вуха назаўсёды зьніклай скульптуры, вычасанай старажытным скульптарам, якое таксама захоўвалася ў куфры. Аднак, калі Гіцаль папрасіў аднойчы, каб Болмат аддаў яму партрэт, той катэгарычна адмовіў. «Ты не ўяўляеш, — сказаў ён пры гэтым, — *што* гэта за куфар. У ім-жа ня толькі партрэт: там процьма

ўсялякіх іншых рэчаў, і ніводная зь іх, нават такая драбяза, як партрэт, ня можа зьнікнуць з куфра без таго, каб у Хлудзіі не адбыліся вялікія, можа нават непапраўныя, няшчасьці. Гэта ўсё, што я ведаю. Аднак мне невядомыя ані роля й прызначэньне кожнай асобнай рэчы, ані роля й значэньне іхнага спалучэньня ў куфры. Можа стацца, што менавіта партрэт тут нічога ня значыць, і ўсё-ж я не хачу, дакладней, ня маю права рызыкаваць...»

Гіцаль пяшчотна правёў рукою па паверхні запаветнага партрэта. Цяпер партрэт быў ягонай уласнасьцю, аднак гэта чамусьці ня радавала яго. Запхнуўшы партрэт за пазуху, Гіцаль, нібы спадзеючыся яшчэ нешта знайсьці, сунуў руку ва ўтвораную ў пяшчанай сьцяне пячурку. І зьнянацку ўся сьцяна з глухім шоргатам ссунулася на дно яміны.

У грудзе пяска перад сабою Гіцаль убачыў некалькі касьцей і хлудзкі чэрап. Ляжалі там і іншыя рэчы: мармуровае вуха, аскалёпкі нейкае парцалянавае пасудзіны, саржавелыя нажніцы. Сумненьняў не было: Гіцаль натрапіў на парэшткі свайго прыяцеля Болмата Самасуя ўперамешку са зьмесьцівам ягонага знакамітага куфра. Канал, які быў задуманы Цмокам як першы крок да гэтак званага Новага Жыцьця, прайшоў акурат праз магілу таго, хто першы абвесьціў ягонае будучае прыйсьце.

Выбраўшыся з магілы, Гіцаль агледзеўся. Паводле кантрасту са сьнегам, які белаю каростаю пакрываў навакольле, асабліва выразна быў бачны навіслы над галавою грэбень Высокага квадратнага паркану. Усьцяж паркану чорнымі праплешынамі пракідваліся яміны, у якіх, быццам краты, корпаліся высланыя на будаўніцтва канала багемаўцы. Іх ніхто не вартаваў,

бо ўцячы ўсё адно не было куды: ня ўзьнімесься-ж, сапраўды, у гэты сьвінцовы квадрат, адкуль без супыну падаюць мокрыя, бясформныя хлапякі сьнегу.

За дзесяць крокаў ад Гіцля цемнілася закіданая камлыгамі й сьмецьцем вуліца, якая ў мінуласьці называлася Зарослая пустазельлем. Пустазельле на ёй больш не расло — яго зьелі будаўнікі канала. Самотна й змрочна грамадзілася пры дарозе хата Болмата Самасуя, падобная да скамянелага, са складзенымі крыламі кажана. І хаця самога Болмата ўжо не было, а значыць, ні дом, ні партрэт не належалі яму, — Гіцлю, які некалі так прагнуў мець гэты партрэт, раптоўна захацелася пакласьці яго на ранейшае месца, у куфар. Апанаваны гэтым незразумелым яму самому жаданьнем, ён пашкандыбаў да Болматавай хаціны.

З глыбіні хаты на Гіцля патыхнула затхаю й сырасьцю няжытнага, даўно пакінутага памяшканьня. Здавалася, нешта горшае за сьмерць таілася пад згнілым парогам, у чарноцьці шчылінаў, якія зеўралі паміж збрасьнелых ад часу масьнічынаў, у страшлівых цёмных кутах. Калі вочы крыху прызвычаіліся да цемені, ён пачаў адрозьніваць асобныя прадметы, якіх, зрэшты, было няшмат: стол, табурэт, зялезны ложак. І раптам сэрца ягонае ёкнула: усімі чатырма гранямі са змроку выпіраў масыўны прастакутны прадмет.

Першае, на што Гіцаль зьвярнуў увагу, была ненатуральная ў параўнаньні зь іншай надобаю чысьціня куфра. Усё ў хаце было пакрытае павутою й пылам, а куфар выглядаў як новы, нібыта ён толькі што выйшаў з рук майстра, і нават медныя заклёпкі на ягоных абручах блішчэлі ў сутоньні. Века куфра было незамкнёнае й адчынілася лёгка, без адзінага гуку. Нясьцерпнае сьвятло змусіла Гіцля заплюшчыць вочы. Калі-ж ён

зноўку іх расплюшчыў, зіхценьне ў куфры паменшала, і адкрываўца ўбачыў, што крыніцаю сьвятла зьяўляецца венік, а дакладней, невыносна-зіхотныя пруткі, якія ўліваліся ў не такое яркае сталёвае цаўё. Побач зь венікам ляжаў таўсматы том у чырвоным абкладзе, на якім злавесна блішчэла залатое цісьненьне загалоўка: «Справядлівасьць і шляхі дасягненьня яе» — трактат Болмата Самасуя.

Наважыўшыся дастаць кнігу, Гіцаль пацягнуўся рукою ў куфар, ды, выпадкова дакрануўшыся да веніка, скрывеліўся й адсунуў руку. На руцэ чырванела й распаўзалася пляма апёку. Чарговую спробу ён зрабіў з большаю асьцярогаю, аднак, хоць кніга, здавалася, вольна ляжала на сподзе куфра, нейкая невядомая моц быццам цьвікамі прыманджуліла яе да днішча. Стараючыся больш ні пра што ня думаць, Гіцаль выцягнуў з-за пазухі партрэт і, мімаходзь зірнуўшы ў твар жанчыне, апусьціў партрэт у разяўленую пашчу куфра. Вочы жанчыны, нібыта напоўніўшыся сьлязьмі, бліснулі з глыбіні куфра, і раптам века са скрыгатам зачынілася — ледзьве Гіцаль пасьпеў адсунуць руку.

У памяшканьні адразу пацямнела. Куфар наўвоч пакрыўся нарасьцю пылу й цьвілі, прасеў і нібыта рассохся. Цяпер ён быў тым самым куфрам, які Гіцаль не аднаго разу бачыў у хаце свайго былога прыяцеля. Знаёмы здаўна замок іржавеў на ягоным абшарпаным баку.

Ад удару табурэтам адна пятля абарвалася, і замок павіс на другой. Гіцаль другарадзь адкінуў века. На дне, побач з паржавелым сталёвым венікам, жаўцеў пульхны стос аркушаў у кардоннай вокладцы, на якой размашыстым почыркам Болматавай рукі было напісана: «Справядлівасьць і шляхі дасягненьня яе». Так

і не адважыўшыся зірнуць на партрэт, Гіцаль зачыніў куфар і выйшаў з хаты.

Штосьці няўлоўна зьмянілася: ці-то пацяплела, ці-то пасьвятлела ад сьнегу, які на дзіва хутка, пакуль Гіцаль быў у хаце, тоўстым покрывам заслаў Краіну Хлудаў. Здалёк да Гіцля набліжалася, размахваючы рукамі, маленькая чорная постаць. Пісьменьнік Цьвінтарэй — гэта быў ён, — штосьці гучна й няцямна выкрыкваючы, падбег да Гіцля, абшчапеліў яго рукамі за плечы й хрыпла наўзроў заплакаў, толькі пасьпеўшы выціснуць зь сябе: «Цмок…»

…Цьвінтарэй разьняў рукі й разгублена агледзеўся. Ён быў адзін. Гіцаль Валанцай, якога ён толькі што абдымаў і якому меўся паведаміць радасную вестку пра нечаканае зьнікненьне Цмока, таксама зьнік, нібыта выпарыўся зь ягоных рук. Адно толькі за тры крокі ад пісьменьніка, на самым брыжы запоўненай сьнегам яміны, тырчэла рыдлёўка. А на ейным адшліфаваным цаўі… зелянелі дробныя пяшчотныя парасткі, такія непраўдападобныя й недарэчныя на белай асноведзі сакавіцкага сьнегу.

# ВЯЛІКІ МАГІСТАР

У самым факце, што хтосьці адначасна знаходзіцца ў двух геаграфічна адрозных пунктах, няма, безумоўна, нічога дзіўнага, таму што экспэрымэнтальна гэтае сьцьверджаньне зьняпраўдзіць немагчыма. І нават калі неадступна сачыць за іншаземцам Шампанскім, пільнаваць, як ён выходзіць на свой заўсёдны ранішні шпацыр, як абедае, кладзецца спаць, як ён пачынае лысець, як у яго паступова выпадаюць зубы, — гэта зусім не зьяўляецца адкліканьнем таго, што ў той самы момант ён можа знаходзіцца недзе яшчэ, магчыма, нават па-за межамі Высокага квадратнага паркану. Вось і цяпер, не зважаючы на тое, што за Шампанскім, які шпацыруе па вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў, віжуе тысячавокая працэсія, — нішто не замінае яму ў аднальчасьсе быць зусім на іншай вуліцы іншага гораду.

Калі тут Шампанскага з усіх бакоў абступаюць плякаты й транспаранты, дык там абыходзяцца бяз гэткіх вось раскрамзоленых гаслаў, а замест іх на асноведзі цёмна-сіняга мора прывабна блішчаць гірлянды разьвешаных уздоўж набярэжнай ліхтароў.

Калі тут на бруку валяюцца перакуленыя сьметніцы, дык там абапал чысьцюткіх вулак па-сяброўску сьвецяцца вокны ўтульных, часьцей за ўсё аднапавярховых камяніцаў.

Калі тут ад манатоннага цяжкога гулу натоўпу пачуваеш сябе агаломшанаю рыбінаю, дык там у мяккім

прыцемку таямніча міргаюць у глыбіні маленькіх, амаль цацачных кавярняў ліхтарыкі-начнікі, а ў зручных фатэлях сядзіць адзін, насамбольш два наведнікі.

Калі гэтая вуліца ўпіраецца ў парэпаны мур Фабрыкі-кухні парадаксальных ідэяў, дык там вулка паволі ўзьнімаецца ўгору й губляецца сярод невысокіх, бэзавых ад згасальнага сонца гарах, сьпярэшчаных глыбокімі цёмнымі расколінамі.

«Усё гэта менавіта так!» — кінуў Шампанскі гурме, якая неадчэпна суправаджала яго й гіканьнем ды сьвістам рэагавала на кожнае сказанае ім слова. Зрэшты, ніхто з маніхвэстантаў не насьмельваўся даць волю кулакам, бо Шампанскі па-ранейшаму ўважаўся «пэрсонаю грата», а гэта ня так ужо й мала, бо адсутнасьць адзінага на ўсю Хлудзію сапраўднага іншаземца магло-б прывесьці да неспадзяваных вынікаў. Апошняе ня мае патрэбы ў доказах: зразумела й так, што існаваньне карэннай прыгнечанай большасьці вынікае з наяўнасьці некарэннай меншасьці іншаземцаў-эксплёататараў. Апрача гэтага самавідавочнага факту, у выпадку зьнікненьня Шампанскага гульліваму натоўпу хлудаў-маніхвэстантаў не было-б аніякага сэнсу гергетаць, сьвістаць ды размахваць перад ягоным тварам сваімі нацыянальнымі сьвятынямі.

«Такім парадкам, — працягваў, зьвяртаючыся да ўсіх і не зьвяртаючыся ні да каго, Шампанскі, — там заўсёды дзьме цёплы вецер, і ўсё навокал залітае сьпякотным сонцам, ад якога так прыемна схавацца ў волкім прыцемку якогась храма, ці-то цэркаўкі, што бялеецца за купаю экзатычных дрэваў, і разглядаць на замшэлых мурох мудрагелістыя герогліфы, якія, тым ня менш, здаюцца знаёмымі ці-то зь дзіцячых успамінаў, ці-то з жыцьцяў, пражытых задоўга да твайго жыцьця…»

Апынуўшыся ў сваім асабняку, Шампанскі першнаперш шчытна занавесіў вокны, прычым натоўп вакол асабняка яшчэ доўга не разыходзіўся, даючы іншаземцу зразумець, што ягонае знаходжаньне ў Хлудзіі ёсьць залішняе. Сёй-той нават жангляваў важкаю цаглінаю, робячы выгляд, што вось-вось шпурне ёю ў вакно асабняка праклятага іншаземца й арыстакрата, аднак Шампанскі спакойна ўлаштаваўся ў фатэль, хаця ягоныя дачыненьні з карэнным насельніцтвам заставаліся вельмі й вельмі напружаныя.

Гэтаму нямала паспрыялі нядаўнія артыкулы на старонках «Нехлусьлівага хлуда», якія ставілі пад сумнеў палітычную ляяльнасьць іншаземца. Падліў смалы ў вагонь і гістарычны эсэй Вуха Перакідніка, прахвэсара ФКПІ, у якім «тысячагадовыя беды хлудзкага народу» тарнаваліся як вынік дзейнасьці таямнічай арганізацыі, на чале якой стаяў іншаземец Шампанскі. Тая арганізацыя была нават больш старажытная, чым сама хлудзкая дзяржава, і Шампанскі яшчэ ў тыя спракаветныя часіны быў ейным Вялікім Магістрам.

Менавіта яму прыпісваўся й вельмі двухсэнсоўны гонар вынаходзтва «Горкага палыну», улюбёнага трунку хлудаў. Твор прахвэсара быў багата ілюстраваны: на першай-жа старонцы быў намаляваны Вялікі Магістар, у чырвонай мантыі на велізарнай бочцы «Горкага палыну». На галаве Магістра красавалася востраканцовая шапка ерэтыка, а доўгая сівая барада даставала ледзьве не да каленяў. Вялікі Магістар цеміўся з-пад далоні ў замглёны далягляд, чакаючы, ці ня зьявіцца дзе там першы хлуд-прасьцяк.

Годная ўвагі й такая ілюстрацыя: два дужыя памагатыя Вялікага Магістра — у іхным аблічны лёгка

можна было распазнаць дыктатара Цмока й шынкара Лажбеля — зялезным спохапам трымаюць скурчанага небараку-хлуда, якому Шампанскі з д’ябальскаю ўсьмешкаю ўлівае ў рот з бутля «Горкі палын». Ілюстрацыя была выкананая з такою натуральнасьцю і вытанчанасьцю, што, здавалася, нябожчык Круцель Манцель, знакаміты мастак Хлудзіі, дакрануўся да яе сваім неўміручым пэндзлем. (Неабходна адзначыць, што менавіта дзякуючы гэтай ілюстрацыі эсэй Вуха Перакінчыца прыдбаў надзвычайную папулярнасьць сярод малапісьменных сьмецяроў, хоць і невядома, што іменна прываблівала іх: любоў да мастацтва ці туга па «Горкім палыне», які зь невядомых прычынаў раптам зьнік з прылаўкаў краіны.)

Усё багацьце хлудзкай гісторыі зводзілася, паводле эсэя, да дзьвюх фазаў: фазы Пагалоўнага п’янства й фазы Ўсеагульнай цьвярозасьці, якія пэрыядычна зьмяняюць адна адну. Падчас Пагалоўнага п’янства пануе Вялікі Магістар і ягоныя саўдзельнікі, якія маюць наўмэце развал Хлудзіі з далейшая татальнай акупацыяй яе. Хлуды тады забываюцца на тое, як іх клічуць, калі й дзе яны нарадзіліся і якая ў іх гісторыя ды геаграфія. На іх больш не ўплывае «закон роду», і ў п’яным ачмурэньні яны клянуцца адзін аднаму ў вечнай любові, патрабуючы зруйнаваць муры Высокага квадратнага паркану.

У часе Ўсеагульнай цьвярозасьці тыя, хто яшчэ ўчора качаўся пад плотам, надзяваюць накрухмаленыя кашулі й называюць адзін аднаго «дарагі супляменьнік». Усе без вынятку вывучаюць сваю гісторыю й геаграфію, а ў вольны ад заняткаў час замуроўваюць трэшчыны ў Высокім квадратным паркане. Шампанскі дзеля ўсяго дзеля зразае сваю даўгую сівую бараду, хавае яе ў камоду да лепшых дзён і вельмі ўдала ма-

скуецца пад звычайнага хлуда, мэтадычна, дарэчы, расьпіваючы «Горкі палын». Аднак яго можна лёгка выкрыць, бо пры выглядзе нацыянальнага хлудзкага трыкалёру валасы ў яго становяцца дыбарам, у зьвязку з чым ён ніколі не здымае свой капялюш, хаця сапраўдныя ягоныя намеры ні для каго не зьяўляюцца таямніцаю.

Эсэй завершваўся знакаваю фразаю: «І гэтак будзе заўсёды. Хлудам ніколі не пабудаваць Тысячагадовага валадарства Ўсеагульнай цьвярозасьці, пакуль Хіцер Зьміцер, ці колечы-які іншы хлудзкі гаспадар, ня зьвернецца з заклікам да карэннага насельніцтва й ня вызваліцца ад мэнтарства прыстаўленых да яго лялькаводаў, — пакуль ня будзе праведзеная цалкавітая *дэшампанізацыя* краіны, а затым ейнае поўнае вызваленьне ад іншаземнай акупацыі. Гэта будзе нашмат больш сур'ёзна, чым нават перамога Насяканіка Сьмелага над жабаю Скаламбухаю, якая, як і дыктатар Цмок, была толькі адным са зьвёнаў сакрэтнай агентуры Вялікага Магістра».

Шампанскі адклаў асадку й разгледзеўся. Вечарэла. На сьценах прыйменю глянцавата блішчэлі прастакутнікі карцінаў, напісаных асабіста ім. Уласна, пісаў ён іх ня дзеля славы — Шампанскі ніколі не ўважаў сябе за мастака, — проста неабходна было выказаць тое, што дзеялася ў ім. Большасьць карцінаў, калі пільна ў іх углядацца, уяўлялі нейкія цьмяныя й расплывістыя краявіды, вытрыманыя ў танах, якія нідзе й ніколі ў Краіне Хлудаў не сустракаліся. Аднак за вонкаваю мімалётнасьцю й размытасьцю намаляванага тоілася нейкая невытлумачальная глыбіня й халодны спакой.

Каля старога, відавочна антыкварнага, насьценнага гадзіньніка месьцілася яшчэ адна карціна, чые

яркія й сакавітыя фарбы прыкметна кантраставалі з астатнімі палотнамі. Амаль усю плошчу карціны займаў звычайны качан капусты, нібыта толькі што зрэзаны зь ляхі. Сьвежасьць і чысьціня ягоных абрысаў стваралі ўражаньне незвычайнай дакладнасьці й жыцьцёвасьці ярка-зялёных лістоў — здавалася дзіўным, што гэтая рэч, напісаная з такою выключнаю моцаю, магла належаць пэндзлю дылетанта: качан нібыта рыхтаваўся скаціцца з палатна й з глухім храбусьценьнем чмякнуцца на падлогу. Карціна называлася «Іпастасі нутранога Я» й сымбалізавала нейкі гіпатэтычны «качан» нутранога сьвету Шампанскага. Адзін за адным адслойваліся храбусткія сакавітыя лісты, абалонкі аднаго й таго самага, а ў сярэдзіне цьмілася нейкая спажыўная пустэча, нешта накшталт жыцьцядайнай сутнасьці ўсяго на сьвеце.

Да слова кажучы, гэткая шматслойнасьць была ўласьцівая ня толькі й не выключна аднаму Шампанскаму: самое параўнаньне нутранога сьвету з качаном капусты, якая, дарэчы, не расьце ў Хлудзіі, было пачутае ім у шынку «Грукат сэрца» ад лішняга хлуда і дысыдэнта Дзяньгуба Мыліцы. Розьніца паміж Шампанскім ды іншымі хлудамі палягала менавіта ў прыродзе той пустэчы, якая хавалася за «капуснымі лістамі». Калі для іншых яна была проста нейкім фізычным «кантыніюмам» (хлудзкае слова), а ў грунце рэчы — нічым, дык для Шампанскага тая пустэча была зіхотным, напоўненым трапяткім дыханьнем вечнасьці пачаткам, краінаю, бледныя копіі якой цьмяна паблісквалі на сьценах ягонага прыйменю. Пустэча тая была для яго ўрадліваю глебаю ўсяго існага, наблізіцца да якой, аднак, груба абрываючы лісты, — бязглузды й нават небясьпечны занятак: можна толькі асьцярожна й спакойна разьвінаць іх. І яшчэ адно. Тут, на шматку

зямлі, абнесеным Высокім квадратным парканам, існавалі толькі «лісьцьвяныя абалонкі» Шампанскага, а таямнічая сярэдзіна «качана» належала зусім іншай, неабдымнай і бязьмежнай, краіне…

Глухія стукі над галавою вывелі Шампанскага са стану глыбокай мэдытацыі: хтосьці, цяжка тупаючы, лез па бляшаным даху ягонага асабняка. Шампанскі няхоцькі выйшаў на вуліцу й, задраўшы галаў, без асаблівага зьдзіўленьня ўбачыў на самым вільчаку даху зухаватага чупрыністага хлуда, які прымацоўваў да коміна асабняка нацыянальны хлудзкі трыкалёр. Агромністы натоўп, задраўшы, як і Шампанскі, галовы, з ухвалаю сачыў за працаю сьмелуна. Радуючыся як дзеці, хлуды-назіральнікі ляпалі сябе па баках, прытанцоўвалі, а іншыя дык пнуліся нават зацягнуць нялёгкую мэлёдыю хлудзкага гімну. «Вікторыя! Вікторыя!» — гучэлі раз-пораз зладжаныя скандаваньні. На чым менавіта палягала тая «Вікторыя» («Перамога»), не дапінала сьвядомасьці іншаземца, бо ён ані словам, ані жэстам не замінаў хлуду-энтузіясту прымацоўваць сьцяг да коміна свайго дому.

І тут ледзьве не здарылася непапраўнае. Зрабіўшы сваю справу, рызыкант, адчуваючы сябе, напэўна, героем, расправіў плечы й ступіў так сьмела, нібыта ён знаходзіўся не на стромым гладкім даху, а на роўным, нядаўна адрамантаваным бруку прашпэкта Энтузіястаў. У тую самую хвілю, пасьлізнуўшыся й недарэчна ўзбрыкнуўшы нагамі, ён з грукатам пакаціўся па бляшаным адхоне. Натоўп, які толькі што скандаваў «Вікторыя! Вікторыя!», падаўся назад і разам прысеў. Адзін толькі арыстакрат Шампанскі з чыста іншаземнаю вытрымкаю зрабіў два неабходныя крокі насустрач небараку і ўлёт падхапіў яго. Натоўп

з палёгкаю загуў, а выратаваны, якога Шампанскі сьцярожка паставіў на дол, на працягу хвіліны ня мог нічога вымавіць і толькі соп ды вытрэшчваў вочы. Затым, канчаткова пераканаўшыся, што ён ацалеў, грэблівым рухам выслабаніўся з рук выратавальніка ды, нібыта ненаўмысна наступіўшы яму на нагу, пакрыўджана прасіпеў: «Ну, вось яшчэ! Ня сунь носа не ў сваё проса!» Нічога не адказаўшы, Шампанскі крута павярнуўся й зьнік за дзьвярыма.

Да гораду падступалі невысокія горы. Зялёная даліна непрыкметна пераварвалася ў пустэльню. Залітая спрэс шалёным сонцам, мёртвая тая пустэльня была, аднак, поўная нейкай невымоўнай радасьці. Крамяністыя, дзівосныя формай вяршыні навісалі над галавою й здаваліся жывымі. І сам краявід, пры ўсёй сваёй фантастычнасьці, быў насычаны нейкай дзіўнай энэргіяй. Здавалася, тысячагодзьдзі навечна захрасьлі тут, у гэтых гарах і ходзяць па заганным коле вакол самотнага вока трагічна-пекнага, аточанага белым вейкам солі возера, дзе не магла-б выжыць ніводная бацыля…

На гадзіньніку хрыпата прабіла шэсьць гадзінаў. «Ага!» — прамовіў Шампанскі й, стаўшы перад люстрам, прымерыў свой улюбёны фільцовы капялюш. «Ёлупні!» — прабурчэў ён, невядома да каго зьвяртаючыся. Крыва ўсьміхнуўшыся свайму адлюстраваньню, ён адзначыў, што фрак на ягонай сухарлявай паставе сядзіць ня горш, чым зазвычай. «З днём народзінаў, шаноўны іншаземец Шампанскі!» — з пэўнаю доляю сарказму, аднак і не без урачыстасьці, павіншаваў ён сябе.

Неўзабаве, прыхапіўшы на ўсякі выпадак замежны пашпарт, вокладку якога аздабляў круглявы за-

лацiста-зялёны герб, якi, безумоўна, быў дакладнай маленькай копiяй верхпамянёнага «качана капусты», i згорнуты ў сувой сшытак, куды iншаземец штодня занатоўваў назiраньнi за самiм сабою, — ён падаўся на вулiцу. «Нi адсутнасьць “Горкага палыну”, нi гэтак званае Адраджэньне не перашкодзяць мне, iншаземцу Шампанскаму, адсьвяткаваць як мае быць уласны дзень нараджэньня!» — прыблiзна так думаў ён, iдучы па бульвары Абяцанкаў-цацанкаў у кiрунку шынка «Грукат сэрца».

…Празь бяз мала тры гадзiны iншаземец, увачавiдкi не ў гуморы й бяз сшытка-дзёньнiка, вярнуўся ў асабняк. Прычым пад правым вокам у яго квiтнеў агромнiсты сiняк, якi нагадваў i колерам, i хвормаю вяргiню, што цьвiла ў яго пад вакном. Стаўшы насупраць люстра, Шампанскi доўга i ўважлiва вывучаў абрысы сiняка, не раўнуючы, як той чарнакнiжнiк, што пнецца разгадаць таямнiчы сэнс старажытнае крыптаграмы. «Кола замкнулася!» — выдыхнуў ён нарэшце пахмура, i было бачна, што гэтым разам пахмурасьць ягоная была не ўдаваная й што сказана было тое ня дзеля толькi прыгожых словаў.

Зь цяжкасьцю адарваўшы позiрк ад люстра, Шампанскi памкнуўся быў да свайго пiсьмовага стала зь вiдавочным намерам працягваць тое, чым ён штовечар займаўся: запаўняць старонкi свайго дзёньнiка. Ды на паўдарозе спынiўся й застыў у нерухомасьцi. Прычым на твары ягоным зьявiўся нейкi новы выраз.

Асьляпляльны зыгзаг маланкi распароў шчыльную коўдру хлудзкай ночы. Гахнуў пярун. Шрот буйных дажджынак абрынуўся на бляшаны дах асабняка. I стары гадзiньнiк, у апошнi раз хiтнуўшы масянжо-

вымківачом, замёр у прадчуваньні нейкіх жудлівых пераменаў. У атрамантавым сутоньні, на карціне каля гадзіньніка, заварушыліся, як жывыя, лісты качана. Здавалася, страшэнная разбуральная моц расьпірае качан знутры. Хвіліна — і па ягонай паверхні пралегла раскепіна, і стуль шуганула халоднае шэрае полымя, а па брыжы раскепіны завіравалі мітусьлівыя, але дзіўным чынам спарадкаваныя токі. У самой-жа раскепіне, як на экране, праносіліся то крамяністыя верхавіны гораў, то зіхотная роўнядзь мёртвага возера, то лапік сінеглыбокага неба. Праносіліся — і адразу зьнікалі: толькі кручэньне токаў рабілася ўсё хутчэйшым і хутчэйшым.

Прывідны цень, з растрэпанаю сівою барадою і ў конусападобнай, апушчанай на вочы шапцы, вырваўся, нібыта сталёвая спружына, зь цела застылага ў коме Шампанскага. Вырваўся, быццам са зношанай цеснай вопраткі, і, працяўшы, як шыла, столь і дах, уваткнуўся ў спаласаванае артэрыямі маланак неба. Вастрыё шапкі апынулася ў глыбіні клублівых хмараў, а сухарлявыя рукі старога растапырыліся над Хлудзіяй, нібы супрацьлеглыя крылы вялізнага крыжа, і ўпёрліся ў заходні і ўсходні муры Высокага квадратнага паркану. Цела волата задрыжэла й дробна залекацела ад тытанічных высілкаў — і, быццам папяровыя, затрэсьліся таўсматыя, пакрытыя шматвекавою цьвільлю, старажытныя гарадзкія муры…

Так, з волі Вялікага Магістра, пачаўся землятрус, які ледзьве ня зьвёў Хлудзію са сьвету. У сумятні, якая апанавала ў тую ноч жыхароў краіны, і сам Шампанскі, зьбялелы ад жаху, мітусіўся па асабняку, ліхаманкава запіхваючы ў валізкі ў безладзі параскіданыя рэчы. «Зьеду, зьеду, зьеду», — ня чуючы самога

сябе й сьціскаючы ў потнай руцэ замежны пашпарт, прыгаворваў ён.

Пасьля землятрусу цікавасьць хлудаў да Шампанскага й ягонага асабняка прыкметна зьнізілася. Асьлеплы й аглухлы, абклееены спрэс пажоўклымі ўлёткамі, з выцьвілым трыкалёрам над комінам стаяў асабняк, падобны да ізгоя спасярод страсянутае да самых падмуркаў Краіны Хлудаў. І ніхто не зважаў на яго, бо кожны ў тыя дні займаўся сваім: выносіў аскалёпкі посуду, устаўляў шкло ў пабітыя шыбы, заладжваў рэпіны ў сьценах і столі, загойваў ранкі й гузакі.

Ды неўзабаве зноў пачуліся галасы, чаму гэта ў нялёгкі для хлудзкага народу час выпрабаваньняў не паступіла аніякае дапамогі ад іншаземнае дзяржавы, грамадзянінам якое быў Шампанскі? Яшчэ больш дыхту задаў своечасовы, як заўсёды, памфлет Вуха Перакінчыка «З кім вы, спадары іншаземцы?». Калі адкінуць чыста навуковую аргумэнтацыю, сэнс Вухавага памфлету зводзіўся да таго, што асабняк іншаземца павінен быць тэрмінова нацыяналізаваны, паколькі ён знаходзіцца па-за гістарычнай тэрыторыяй, дзе спрадвеку жылі ўсе іншаземцы (вуліца Зарослая пустазельлем). Аднак дзеля таго, каб хлуды не забываліся на тое, хто менавіта складае карэннае насельніцтва Хлудзіі, неабходна абавязаць Шампанскага штовечару шпацыраваць па Пляцы пад неапусным наглядам хлудзкага трыкалёру на сьпічаку Палаца гаспадароў. Асабняк-жа іншаземца прахвэсар заклікаў перадаць на спаконвечнае карыстаньне сем'ям найбольш пацярпелых ад стыхіі карэнных жыхароў.

Пасьля гэтага заклiку неабходнасьць рашучых захадаў што да ненавіднага іншаземца-прыгнятальніка

ня мог-бы аспрэчыць ніхто. Таму ня дзіўна, што па першым сьнезе, сабраўшы подпісы ўсіх зацікаўленых у гэтым, зладжаная калёна маніхвэстантаў скіравала да асабняка Шампанскага. Вераемна, для таго, каб падбадзёрыць сябе, маніхвэстанты раз-пораз спорна выгуквалі: «Мы ў сябе дома!» і «Шампанскі, вымятайся ў свой дом!». Апошні лёзунг зусім не ўважаў, што Шампанскі й так знаходзіўся ў сябе дома. Некалькі самых адчайнадушных хлудаў, не зважаючы на шматлікія ўгаворы, пастанавілі абвесьціць галадоўку. Аб'яднаўшыся ў невялікую, але згуртаваную купку, яны селі проста на сьнег і заявілі, што лепш памруць з голаду, чым дазволяць розным прыхадням смактаць кроў са шматпакутнага хлудзкага народу.

Падчас усяго гэтага гармідару з асабняка не далятала ані гуку, так што невядома было, жывы ці мёртвы славуты іншаземец, які выклікаў у народзе такое хваляваньне. І зьнячэўку дзьверы асабняка зарыпелі й прачыніліся, утварыўшы паміж створкаю й вушаком вузенькую шчыліну. Усе галасы, як на загад, змоўклі, і сотні вачэй з прагным нецярпеньнем уталопіліся на хаця й абшарпаныя, але з арыстакратычнаю масянжоваю ручкаю дзьверы. Прайшло ўсяго некалькі хвіляў, а здавалася, што ўжо цэлую вечнасьць яны стаяць вось так, у напружанай, як струна, цішыні. Зь неахвотаю, як на запаволеных кадрах кіно, дзьверы расчыніліся. Дрыготка жаху прабегла па скуры ўсіх прысутных, і быццам рапт ветру астудзіў іхныя разгарачаныя твары: сьмяротна-бледны, на парозе собскага асабняка стаяў Вялікі Магістар, ён-жа — таямнічы іншаземец і арыстакрат Шампанскі. Ад патыліцы й да пятаў на ім не было ані знаку ніякага адзеньня. Апошняе азначала, што Шампанскі быў гольма голы…

# АДЗІН ДЗЕНЬ ПІСЬМЕНЬНІКА ЦЬВІНТАРЭЯ

Хлуды ўвогуле любяць паразважаць пры кілішку «Горкага палыну» пра свабоду духу й свае самыя запаветныя жаданьні. Аднак спытайся ў кожнага зь іх, чаго яму хочацца цяпер, менавіта ў гэтую хвілю, дык наўрад ці хто адкажа нешта цямнае ды перакануўчае. І толькі Сугней Чурыла меў цалкам акрэсьленае жаданьне: ён прагнуў адгарадзіцца. Адгарадзіцца ад усіх глухім парканам.

У зьвязку з гэткім сваім палкім жаданьнем ён яшчэ за праўленьне Вярэні Водае выменяў у Сямейным інтэрнаце сьмецяроў бочку «Горкага палыну» на сякеру, пілу, гэблік ды іншае карыснае снадзіва, загарнуў яго ў прашмараваную анучу й закапаў пад прызбаю сваёй хаціны.

Падчас крывавай Цмокавай тыраніі Сугней нацягаў з нацыяналізаваных Нясумных прысадаў, якія тады раскарчоўваліся пад канал, шмат усялякай драўніны ды схаваў яе на гарышчы да лепшых дзён. Як толькі Краіна Хлудаў ступіла на парог Адраджэньня, Сугней выцягнуў на падворак прыхаванае й нарыхтаваў вялізны штабель роўных і гладкіх дошак. Пасьля землятрусу й таго вэрхалу, які запанаваў у Хлудзіі з нагоды зацятай барацьбы «рухавых» і «нерухомых», няўрымсьлівы мраяр за адну ноч абгарадзіў сваю сядзібу глухім дашчаным парканам…

Тае начы праз сон да пісьменьніка Цьвінтарэя даляцеў мерны стук Чурылавага малатка. Цьвінтарэй замыляў вуснамі й ціха заенчыў. Яму хацелася прачнуцца, аднак замест сон ягоны зрабіўся яшчэ больш трывожны. Глухі й назольны стук, які далятаў знадворку, перанёс пісьменьніка ў нядаўнюю мінуласьць, на дно глыбокага высталага канала.

Цьвінтарэй длубае кайлом скалелую зямлю, а паабапал яго стаяць двое: рабаціністы, з плехам і шырокаю барадою карантыш і падхорцісты даўгяла, гладка паголены, у пэнснэ й капелюшы. Калі пісьменьнік спыняе працу, каб пахукаць на задубелыя ад сьцюжы рукі, карантыш і даўгяла бяруць яго пад локці ды, як на загад, пачынаюць штосьці казаць, дакладней, лапатаць на незнаёмай яму мове. Для таго каб дастаць да Цьвінтарэевага вуха, карантыш робіць усё магчымае: становіцца на дыбкі, падскоквае, а пасьля, пераканаўшыся, што ў яго нічога не атрымліваецца, цярэбіцца проста на Цьвінтарэя. Безбароды, у свой чарод, складваецца ледзь не напалам, гладкае й халоднае падбародзьдзе датыкаецца да Цьвінтарэевай шчакі, змушаючы Цьвінтарэя ўздрыгваць і пакрывацца ліпучым потам. Адначасна барада карантыша казыча ягонае вуха.

Цьвінтарэй не разумее ніводнага слова з таго, пра што дудняць ягоныя дзіўныя напарнікі, аднак здагадваецца, што яны ва ўсім адзін адному пярэчаць. Зьнізу, пад нагамі, чуюцца глухія стукі, нібыта хтосьці чацьверты капае акурат пад ім тунэль, і карантыш спаўзае зь пісьменьніка, а даўгяла выпростваецца.

Цьвінтарэй хоча ўзяцца за кайло, аднак ні той, ні гэты не выпускаюць ягоныя локці. Карантыш балмоча нешта непамыснае й паказвае пальцам на абсыпаны каменьчыкамі й ашкелкамі дол, а гладкапаголены

фацэт, наадварот, тыцкае вольнаю рукою ўгору, змушае пісьменьніка зірнуць на грэбень Высокага квадратнага паркану, церазь які, быццам хванды разьдзьмутага чэрава, перавальваюцца атрутна-жоўтыя хмары. І абодва марна й настойліва імкнуцца штосьці растлумачыць Цьвінтарэю…

Цьвінтарэй расплюшчыў вочы й зразумеў, што сёньня абавязкова нешта здарыцца. Там, дзе ён быў і адкуль нядаўна вярнуўся, ён паступова навучыўся давяраць сваім вычуваньням, якія зрабіліся вострымі, як лязо, і амаль заўсёды збываліся. Пісьменьнік зьлез з кучменя рукапісаў, на якім цяпер спаў, падышоў да сьвітальнага вакна й зьнерухомеў: у прыцемку, засланяючы сьцямнелы ад часу мур Высокага квадратнага паркану, бялеў новенькі дашчаны парканчык. Ня верачы сваім вачам, Цьвінтарэй выбег на вуліцу ды пераканаўся, што не абмыліўся: вакол сядзібы ягонага суседа Сугнея Чурылы ўзвышаўся глухі, бяз брамы й без адзінае шчыліны плот, маленькая копія Высокага квадратнага паркану. Гэтае відовішча настолькі ўразіла былога народнага пісьменьніка, што ён нават не зазлаваў, калі ўбачыў, што сусед, адгарадзіўшыся, прыхапіў і ладны кавалак агароду, які спаконвеку належаў роду Цьвінтарэяў.

Тут трэба адзначыць, што нішто не магло-б так уразіць хлуда, як выгляд звычайнага плоту, бо жыхары Хлудзіі ніколі не стаўлялі платоў. Не стаўлялі з тае прычыны, што ў краіне, абнесенай з пракаветных часінаў Высокім квадратным парканам, які надзейна бараніў хлудаў ад варожага Запарканьня, нікому ні разу не набягала на памяць ставіць уласны, дадатковы парканчык.

Больш таго, калі хмызы пад вокнамі хатаў разрасталіся так, што заміналі хлудам бачыць гарадзкія муры, яны адразу зразалі лішнія галіны. І пасьля чарговай зімовай сьпячкі перад тым, як намагляваца й прычасацца, заспаныя хлуды перш-наперш падыходзілі да вокнаў, каб пераканацца, што зь любым іхнаму сэрцу парканам нічога ня здарылася і ён па-ранейшаму стаіць там, дзе й стаяў ва ўсе часы пакручастае хлудзкае гісторыі.

Таму зразумелае зьдзіўленьне пісьменьніка Цьвінтарэя, які, не адрываючыся, разглядаў дзіўную спаруду, пастаўленую ягоным суседам Чурылам. Між тым і іншыя насельнікі мястэчка, не раўнуючы, як тыя крумкачы да сьметніку, зьляталіся да дзівавіднай пабудовы, зьбіваліся ў купкі й шэптам выказвалі самыя неверагодныя вэрсіі здарэньня, ніводная зь якіх, аднак, не здалася Цьвінтарэю праўдзіваю. Характэрна, што хлуды, якія прызвычаіліся падчас дыктатуры Цмока ўсяго баяцца й нічому не пярэчыць, у апошнія дні, адчуўшы смак волі, прыкметна пасьмялелі, а іншыя дык праяўлялі нават пэўнае нахабства.

Аднак цяпер, у абставінах, калі ім трэба было зрабіць самастойны крок да дашчанага плоту, яны перапалохаліся ды, зьбіўшыся ў купкі, стаялі на адскочцы. У адрозьненьне ад прысутных Цьвінтарэй прыдбаў на будаўніцтве канала досьвед, які ставіў яго шмат вышэй гэтых нахабна-баязьлівых істотаў, дзяцей таго часу, які яны сёньня так зацята адмаўлялі. Бязь лішніх словаў ён наблізіўся да плоту й некалькі разоў грымнуў у дошку кулаком.

Усталявалася цяглівае маўчаньне. І раптам з-за плоту вырваўся, рэжучы напружаную цішыню знаёмы ўсім Чурылаў голас. «Кожны сапраўдны хлуд павінен ведаць ад самай калыскі: Хлудзія — лепшая зь леп-

шых краінаў у сьвеце няблізкім!» — хрыпата выводзіў Чурыла мэлёдыю хлудзкага нацыянальнага гімну.

Безумоўна, сьпеваку ў гэты шчасьлівы момант, калі спраўдзілася ягонае запаветнае жаданьне, карцела сьпяваць зусім іншую, роднасную ягонай простай душы песьню, аднак, на жаль, такой песьні ён ня ведаў і быў змушаны сьпяваць хлудзкі гімн — адзіную песьню, першы слупок якой ён помніў ад першага да апошняга слова. Быццам курыца, якая ўзгадала, што яна таксама птушка, браў Чурылаў голас недасяжныя вяршыні гімну й, абдзіраючы пер'е, з усяго размаху скочваўся долу. Дзеля гэтага трэба было мець нямала мужнасьці, і, відаць, сьпявак за плотам у дастатковасьці меў яе.

Скончыўшы першы слупок, Чурыла адкерхаўся й нанова зацягнуў тое самае: «Кожны сапраўдны хлуд павінен…» А потым яшчэ раз усё спачатку. На чацьвертым разе Цьвінтарэй пачаў плішчыцца цераз натоўп слухачоў, якія шчытнаю заслонаю атачылі Чурылаў плот. Прадзіраючыся, пісьменьнік заглядваў у твары тых, хто зь нейкаю незвычайнаю павагаю слухаў хрыпаты голас, і яго ўразіў здаўна знаёмы яму выраз, які, быццам копія адной і той самай маскі, ляжала на большасьці твараў. «Кола замкнулася!» — нечакана пранеслася ў галаве пісьменьніка, і халодная пустка цёмнага бязглуздага жыцьця атуліла яго. На тварах хлудаў, на іхнай вопратцы, на будынках праступіла тонкая наслань трухленьня, — і ўсё навокал афарбавалася ў мярцьвяна-жоўты колер…

Цьвінтарэй выйшаў за горад і спыніўся на пакрытай пнеўем ды камлыгамі пустцы, дзе калісь зелянелі Нясумныя прысады. Пранізьлівы вецер цягаў па збрыджаным доле featured рознае сьмецьце, камячачы

яго, шпурляў у парэпанае, зьвільжэлае бярвеньне Высокага квадратнага паркану. І камякі сьмецьця не адразу падалі ўніз, а, крыху павісеўшы на паркане, неахвотна спаўзалі долу. Здавалася, дарэшты састарыўся Высокі квадратны паркан — састарылася сама хлудзкая дзяржава. «Радзіма!» — зь цяжкім і горкім пачуцьцём прашаптаў Цьвінтарэй.

Пасьля нядаўняга землятрусу паміж бярвёнамі паркану па ўсім ягоным абводзе ўтварылася вілаватая трэшчына, зь якой некалькі дзён запар тачылася жаўтлявая вадкасьць са звабным пахам «Горкага палыну». Па нядоўгім часе вадкасьць тая зацьвярдзела й зрабілася напаўпразрыстаю. Цяпер цераз шчыліну ў паркане можна было, як праз грубае шкло, зазірнуць у таямнічае для хлудаў Запарканьне. І таму пад парканам зьбіралася шмат цікаўных.

У мінуласьці за такую забаву можна было страціць ня толькі вока, але й галаву, ды цяперака й не такое сыходзіла з рук. Зрэшты, ніхто з тых, хто бачыў загадкавы запарканавы сьвет, ня мог сказаць пра яго нічога дакладнага, аднак усе пагаджаліся, што бачанае звонку намнога лепшае ад таго, што знаходзіцца ў сярэдзіне. «Прастора й час хлудаў абмежаваныя не парканам, а спракаветным сумам і маласьцю самога сьвету. Яны, бы ржою, зьедзеныя суцэльнай інэртнасьцю жыцьця й бясконцым вяртаньнем да таго самага…» — знывдзела думаў Цьвінтарэй, абмінаючы прыніклых да шчыліны ў паркане скалелых салапякаў, якія, перамінаючыся з нагі на нагу, сузіралі нечакана адкрытае ім Запарканьне.

Тым часам вецер суцішыўся. Прыкметна пахаладала, і зямля пакрылася плеўкаю шэрані, прыгожай і недарэчнай. Шарэла. З Пляцу далятаў глухі, як шум прыбою, рэхат. Стараючыся больш ні пра што ня ду-

маць, пісьменьнік павярнуў туды, дзе адзіночныя галасы зьліваліся ў нязладжанае й цяжкое буркатаньне.

Падысьці да асабняка Шампанскага было няпроста. «Мы ў сябе дома!» — гучэла з усіх бакоў. Няцямна разглядаючыся, Цьвінтарэй пратачыўся-такі праз шчытныя шэрагі маніхвэстантаў да ганку знаёмага яму зь дзяцінства асабняка. Велічная паводле сваёй архітэктуры камяніца была стракатая ад наклееных на мурох улётак. «Шампанскі, вымятайся ў свой дом!» — заскандаваў між тым натоўп.

І раптам зь неахвотаю, як на запаволеных кадрах кіно, прачыніліся дзьверы асабняка. Усе, як адзін, замоўклі, а потым з гучным выдыхам падаліся назад. Зь цёмнай праймы дзьвярэй на ганак ступіла знаёмая даўгалыгая постаць. Сьмяротна бледны, у шэрым прыцемку перад маніхвэстантамі паўстаў іншаземец Шампанскі. Ад патыліцы й да пятаў на ім не было ані знаку ніякага адзеньня. Адным словам, Шампанскі быў гольма голы…

Пачуліся прыглушаныя крыкі: гэта пярэднія, у паніцы кінуўшыся ад ганку, дратавалі задніх. Неўзабаве на Пляцы, апрача некалькіх расьціснутых небаракаў, што нерухома ляжалі на сьнезе, засталіся толькі пісьменьнік Цьвінтарэй ды іншаземец Шампанскі. Нібыта не заўважаючы свайго даўняга прыяцеля, Шампанскі сышоў з ганку і ўпэўненаю хадою пашыбаваў па Пляцы, абыякава пераступаючы здратаваных. Цьвінтарэй праводзіў яго зьдзіўленым позіркам, пацёр пальцамі скроні й паныла пацёгся дадому.

З-за Чурылавага плоту ляцелі тлустыя чорныя камякі зямлі, якія адразу пасьля падзеньня рассыпаліся на падшэрхлым бруку вуліцы Туманнага па-

радоксу. «Іншаземцы спаілі хлудзкі народ! Сьмерць Шампанскаму!» — кінулася ў вочы Цьвінтарэю на хапка нашкрабанае на сьвежых дошках. І ён падумаў, што бадай усе шматлікія пачыны ў Хлудзіі, нягледзячы на іхнае вонкавае непадабенства, скончваюцца гэткімі вось непадуладнымі часу заклікамі, — і ад усяго сэрца пашкадаваў іншаземца Шампанскага.

Учаперыўшыся ў грэбень не такога ўжо й высокага плоту, Цьвінтарэй падцягнуўся на руках і зазірнуў у двор свайго суседа. У сутоньні ён зацеміў маленькую каржакаватую постаць з рыдлёўкаю. Ягоны сусед апантана працаваў, пракапваючы ўздоўж плоту вузкую, але даволі глыбокую траншэю. Заўважыўшы над плотам сівую Цьвінтарэеву галаву, Чурыла штомоцы шпурнуў у яе з рыдлёўкі камяком зямлі й, не спудлаваўшы, дзіка зарагатаў. Аднак у наступную хвілю, пазнаўшы Цьвінтарэя, сеў на брыж траншэі й бязгучна заплакаў, выціраючы сьлёзы тыльным бокам сваёй спрацаванай далані.

І пісьменьнік ад усяго сэрца пашкадаваў Сугнея Чурылу, які, адгарадзіўшыся ад хлудаў, не надумаў нічога лепшага, як пракапаць уздоўж свайго парканчыка траншэю — дакладную копію таго самага канала, які меўся злучыць Сажалку саму з сабою й на будоўлі якога Цьвінтарэй страціў столькі жыцьця й здароўя.

Пісьменьнік саскочыў долу, ацёр з твару бруд і пашкандыбаў у сваю хаціну. Галава ў яго нясьцерпна смылела, быццам маленькія малаткі перылі аднекуль знутры па патыліцы, па лобе, па скронях. Ён прамінуў волкую цямрэчу сенцаў, і рэзьлівае сьвятло з вакна, якое проста фізычна ціснула на павекі, абдало яго непрыемным халадком. Цьвінтарэй падышоў да шыбіны й, не высьвятляючы, адкуль шыбала тое сьвятло, зашморгнуў фіранку. Толькі адзін праменьчык прабіў-

ся цераз запавесу й намаляваў на кучмені рукапісаў зыркую бліскаўку. Пісьменьнік, як зачараваны, згадаўшы нешта важнае, пачаў разграбаць збрасьнелы, прапахлы цьвільлю папяровы груд. Рука ягоная нарэшце натрапіла на тое, што ён шукаў: на таўшчэзны, у пабітым моляй скураным абкладзе фаліянт.

Старонкі кнігі высахлі, а радкі, напісаныя каляровым атрамантам і фарбамі — залатой, чырвонай і чорнай, — перакасіліся й напаўзалі адзін на адзін. Сэнс-жа гэтых радкоў высьлізгваў ад Цьвінтарэя, як, бывае, маленькая порсткая яшчарка высьлізгвае з рук. Вочы ад напружаньня сьлязіліся, і пісьменьнік адчуў, як кроў роўнымі штуршкамі тутнее ў скронь. Зьнянацку яму здалося, быццам ён даўным-даўно блукае ў сутонлівых лёхах і ўжо прамінуў самыя змрочныя сутарэньні і бачыць, што наперадзе цьміцца выйсьце. Тое, пра што гаварылася, пачало пакрысе дапінаць ягонай сьвядомасьці.

Нябачны, пра якога апавядалася ў старажытнай кнізе, уявіўся Цьвінтарэю падобным да сьвежага ветрыку. Толькі калыхаў гэты ветрык не траву, а ягоныя, Цьвінтарэевы, пачуцьці, нібыта таласа прабягала па нерухомай дагэтуль роўнядзі сэрца. Нябачны быў у кожнай каморачцы ягонага цела, у кожнай жывой істоце: ён ня слухаў, а чуў, не глядзеў, а бачыў. Сугней Чурыла, іншаземец Шампанскі й сам ён, Цьвінтарэй, апынуліся раптам адзін у адным, і не было ўжо ні Чурылы, ні Цьвінтарэя, ні Шампанскага, — была толькі адна незвычайная істота, падобная й непадобная да ўсіх іх разам узятых.

Цьвінтарэй перагарнуў апошнюю старонку фаліянта, і зь яго выпаў нейкі аркушок. Пісьменьнік адклаў фаліянт, падняў паперчыну ды паднёс яе да твару. Гэта было чатырохрадкоўе, ім-жа калісьці й напісанае:

*— Скажы, дзе Нябачны знайшоў спакой,*
*І да яго палячу я!*
*— Ён ціхаю музыкай стаў за імглой,*
*Якую ніхто не пачуе…*

Стары пісьменьнік накінуў на сябе выцерты ад доўгага карыстаньня коц, лёг на кучмень рукапісаў і заплюшчыў вочы. Дыханьне ягонае было цяжкое й перарывістае, сон усё ніяк не прыходзіў. Пісьменьнік доўга варочаўся з боку на бок, устаў, разаслаў на падлозе коц і, кінуўшы на яго стос рукапісаў, завязаў іх у хатуль. Падышоў да дзівам ацалелай у хаце шафы й, пакорпаўшыся ў ёй, дастаў пляшку «Горкага палыну». Сьцярожка прыціскаючы яе да грудзей, скіраваў да дзьвярэй, прыхапіўшы вольнаю рукою хатуль з рукапісамі.

* * *

Апоўначы на беразе Сажалкі можна было назіраць дзівачную кумпанію. Перад вогнішчам, ля якога паблісквала напалову выпітая пляшка, сядзелі трое: рабаціністы, з плехам і шырокаю барадою карантыш, каржакаваты, з рэдкімі сівымі валасамі й запалымі шчокамі стары й кашчавы, захутаны ў выцерты коц, даўганосы даўгяла. Карантыш і стары неміргаючы глядзелі на дрыготкія языкі полымя, а даўганосы плюскаў вачыма, дрыжэў і дробна званіў зубамі — усё ніяк ня мог сагрэцца. Усе маўчалі, і твары ўсіх трох былі пафарбаваныя чырвонымі водсьветамі агню. Сівавалосы зрэдку прыўставаў, выцягваў з-пад сябе колькі сшыткаў і кідаў іх у вогнішча. І тады ў чарноцьце лістападаўскага неба ўскідваліся зыркія ланцужкі ясак, якія праз хвілю гасьлі й бязь сьледу зьнікалі. А зь неба на плечы гэтае маляўнічае кумпаніі падалі й павольна раставалі пушастыя хлапякі першага сьнегу…

# ПРЫГОДЫ ДЗЯНЬГУБА

Асабняк Дзяньгуба Мыліцы суседзіў на вуліцы Туманнага парадоксу з хатаю Хіцера Зьміцера. Аднак апрача гэтага выпадковага супадзеньня паміж будовамі не было нічога агульнага ні звонку, ні тым больш знутры. Напрыклад, калі перакошаныя дзьверы жытла Хіцера Зьміцера ніколі не зачыняліся на замок і па некалькі разоў у дзень весела віталі свайго гаспадара ржавым і пранізьлівым візгатам, дык масыўныя, абабітыя тоўстымі мэталёвымі лістамі дзьверы асабняка Дзяньгуба Мыліцы ня мелі звычкі адчыняцца, паколькі былі пастаянна замкнёныя знутры. Таму здавалася, што дзьверы асабняка Мыліцы зайздросьліва прыслухоўваюцца да рэзкага й ні трохі не падобнага на іхнае заўсёднае маўчаньне візгату завесаў сваіх свабодалюбных суседак.

Калі сьцены абэржы Хіцера былі, наогул, нават ня сьценамі, а проста насьпех прыбітымі адзін да аднаго гіпсалітавымі шчытамі, замест шпалераў абкленымі пажоўклымі ад часу асобнікамі «Праўдзівага хлуда», дык, складзеныя з тоўстых бярвёнаў сьцены асабняка Дзяньгуба нагадвалі агароджу нейкай сярэднявечнай вежы, узьведзенай для абароны ад ваяўнічых суседзяў. Знутры гэтыя сьцены былі абабітыя тоўстым слоем цёплага й мяккага навобмацак лямцу.

Калі праз пэрыядычна разнасьцежаныя дзьверы й аздобленыя рэшткамі павыбіванага шкла вокны

жытла Хіцера Зьміцера можна было пастаянна назіраць камлюкаватую постаць непрызнанага паэта, якая, цяжка тупаючы, соўгалася з кута ў кут або, згорбіўшыся пры стале, крэмзала на пакамячаным аркушы якіясь нікому не зразумелыя крамзолі, дык густа закратаваныя, заўсёды запавешаныя фіранкамі вокны асабняка Дзяньгуба Мыліцы не прапускалі ніводнага праменьчыка пахмурага хлудзкага сьвятла і, зразумела, не давалі магчымасьці разгледзець хаця-б нейкі фрагмэнт таго, што адбывалася знутры. Мёртвая цішыня за гэтымі вокнамі міжволі наводзіла на думку, што ў асабняку даўно ўжо ніхто не жыве, а магчыма, у ім наогул ніколі й нікога зроду не бывала.

Зрэшты, адна дэталь у апісанай канструкцыі прымушала ўсё-ж думаць інакш. У абабітых тоўстым мэталёвым лістом дзьвярах асабняка Дзяньгуба Мыліцы мелася разьмешчаная на вышыні хлудзкага росту вузкая, спэцыяльна прарэзаная падобная да амбразуры прастакутная шчыліна. Празь яе адбываліся кантакты Дзяньгуба з навакольным сьветам. Адбывалася гэта так: штораніцы непадалёку ад дзьвярэй асабняка спынялася зялезная тачка, з каптуром напоўненая нейкімі падоўжанымі пакункамі. Тачка зьяўлялася, зразумела, не сама сабою — яе, сапучы й заліваючыся потам, прыкочваў клышаногі й каржакаваты хлуд Сугней Чурыла. Зрабіўшы апошні высілак, ён зь цяжкасьцю спыняў тачку, пасьля чаго падоўгу старанна выціраў пот з твару. Затым суглобамі пальцаў некалькі разоў пастукваў у напаўгерметычную засланку, вераемна, спэцыяльна падвешаную над проразкаю.

Па некаторым часе засланка бязгучна адкідвалася, і ў проразцы зьяўляліся нечыя поўныя падозранасьці й насьцярожанасьці вочы. Іхны ўладальнік на працягу

некалькіх хвілінаў вывучаў госьця, затым з проразкі пачыналі вывальвацца пакункі, дакладным падабенствам якіх была наладаваная вышэйпамянёная зялезная тачка. Чурыла зьбіраў іх усе да аднаго, грамадзячы затым іх у невялікую горку ў непасрэднай блізкасьці ад тачкі. Наступны этап работы складаўся ў акуратным прасоўваньні нанова прыбылых пакункаў у проразку і перамяшчэньне гэткіх самых, відавочна ўжо выкарыстаных, на тую самую тачку.

Сакрэту, зрэшты, тут ніякага не было: проста такім чынам Дзяньгуб Мыліца атрымліваў неабходны яму для нармальнай жыцьцядзейнасьці харч і пляшку «Горкага палыну» ў дадатак, набытыя для яго Чурылам у адзінай на ўсю Краіну Хлудаў харчовай краме, а таксама старанна выпрасаваную бялізну ды іншыя неабходныя прычындалы. На гэтым працэс прыходзіў да свайго немінучага завяршэньня, каб з матэматычнай дакладнасьцю пачацца з нуля і ў дакладна вызначаны час паўтарыцца наступнаю раніцою. Фінансаваньне такога цыклічнага гандлёвага абароту, зразумела, было забавязаньнем Дзяньгуба Мыліцы. Уласна кажучы, да гэтага й зводзіліся ўсе разнастайныя й складаныя кантакты Дзяньгуба й атуляючага яго сьвету.

Хто-ж такі быў Дзяньгуб Мыліца? На гэтае пытаньне адказаць нялёгка. З маленства ён баяўся любой непрыемнасьці, любога дробнага канфлікту і таму глыбока занурыўся ў сябе самога, дый там і застаўся. Атайбаваўшыся ў спадчынным асабняку й атрымаўшы ад бацькоў значнае багацьце (некалькі сотняў тысяч асьмакоў), Дзяньгуб абслютна не ўяўляў, як выкарыстаць гэтыя, на той час вельмі вялікія, грошы.

Паступова ён пераўтварыўся ў самага сапраўднага «лішняга хлуда» й дысыдэнта.

Гаворка пра тое, што Дзяньгуб Мыліца, агулам кажучы, быў хлудам надзвычай сарамяжлівым і карадлівым, ён унікаў найменшай непрыемнасьці і сутыкненьня з кім-бы тое ні было. Ён атрымаў у спадчыну ад бацькоў ня толькі асабняк і грошы, але й яшчэ нейкае, хутчэй ад усяго спадчыннае, захворваньне. Больш за ўсё на сьвеце ён баяўся, што хтосьці ці штосьці нечакана датыкнецца да яго. Яшчэ ў раньнім юнацтве ў тых рэдкіх выпадках, калі ён адважваўся зьдзяйсьняць караценькія шпацыры па вуліцы Туманнага парадоксу, яму часам здавалася, што хтосьці або штосьці вось-вось дакранецца да яго, залезе яму пад адзеньне, а там ужо зусім недалёка да мяккай, гладкай, нічым не абароненай плоці. Вастракутны, некамфартабельны і абыякавы да ягоных пакутаў сьвет у такія моманты абрыньваўся на яго ўсёй сваёй масай. Таму Дзяньгубу Мыліцы, па-сутнасьці, нічога іншага не заставалася, як, зачыніўшыся ў асабняку, аддацца спакою, цішыні і адсутнасьці ўсялякага кантакту з усім, што атуляла яго. На ягоную просьбу Сугней Чурыла зрабіў пэўныя работы па ўмацаваньні асабняка: абабіў яго з усіх бакоў зялезнымі лістамі, загарадзіў вокны чыгуннымі кратамі і замяніў сасновыя дзьверы на больш моцныя — дубовыя. А таму што ў яго, як казаў той, былі «рукі на ўсе штукі», Дзяньгуб Мыліца неяк насьмеліўся даверыць яму выслаць увесь дом знутры лямцам. Нечага й казаць, што такая работа абышлася яму ў капейку. У сярэдзіне-ж столі Чурыла, згодна са спэцыяльным указаньнем Дзяньгуба, выпілаваў невялікае прастакутнае вакно, надзейна абароненае масыўным непрабівальным шклом.

На гэтым рэпарацыя закончылася, і Сугней Чурыла узяў на сябе рэгулярныя пастаўкі харчу, безь якіх пустэльнік-зачнік ужо ніяк ня мог абысьціся, а Дзяньгуб Мыліца перадаў зьвязку ключэй ад замкоў асабняка свайму адзінаму даверніку Чурылу і даручыў яму выкінуць іх на гарадзкі сьметнік. Дзьверы ў асабняку былі ўладкаваныя так, што выйсьці вонкі, не адкрыўшы замок, было немагчыма, і, такім чынам, выхад у пагрозьлівы Дзяньгубу навакольны сьвет быў нарэшце канчаткова адрэзаны. Гэты завяршальны крок прынёс яму некаторае адноснае супакаеньне.

З ранку да вечару праседжваў Дзяньгуб Мыліца, прыняўшы таямнічую паставу — гэтак званую паставу лотасу — уладкаваўшыся ў геамэтрычным цэнтры прастакутніка на ўяўным перакрыжаваньні ягоных раўнасечных. Гэты прастакутнік быў не што іншае, як сноп блядага сьвятла, што падаў згары з зашклёнай прастакутнай праймы. Закінуўшы галаў, ён, практычна не міргаючы, сузіраў адкрытую яму праз прастакутнік у столі бясконцасьць, дзе, як ён уважаў, знаходзілася нядрэмнае й поўнае спагады да яго Вока Нябачнага. Дзяньгуб уяўляў сябе ягонаю мікраскапічнаю часьцінкаю, ягонай у мільён разоў паменшанай копіяй і ў той самы час лічыў сябе ягоным сынам. Іншыя хлуды таксама былі ягонымі сынамі, вось толькі іх зацягнула ў вір бязглуздага змаганьня за месца пад сонцам (калі-б такое зазірала ў студню Вялікага квадратнага паркану), а таксама грубая й неўнікнёная паўсядзённасьць, празь якую яны страцілі найменшую здольнасьць адчуць штосьці па-сапраўднаму ўзьнёслае. Захлынуўшыся ў быце, іншыя хлуды не маглі і ўявіць, што ісьціна — гэта не бессэнсоўная варожасьць і пастаянны клопат пра пляшку «Горкага палыну», а нешта зусім іншае: духовая радасьць, нутраны спа-

кой, адсутнасьць жаданьняў, а ў выніку — зьліцьцё зь Нябачным.

Аднаго ранку, акурат пасьля чарговае зімовае сьпячкі, Дзяньгуб, як і кожны хлуд у гэтай сытуацыі, пастанавіў каўтнуць дзеля бадзёру глыток «Горкага палыну». Аднак пераварушыўшы ўсе прывезеныя Чурылам пакункі, ён не знайшоў галоўнага — запаветнай пляшкі. Таго дня, замест нерухомага сядзеньня ва ўлюбёнай паставе лотасу, Дзяньгуб нэрвова прасоўгаўся з кута ў кут па лямцы, які шчытна пакрываў усю падлогу ягонага прасторнага асабняка. Да яго ніяк не дапінала, што, уласна, магло парушыць звыклы, мілы сэрцу, усталяваны, здавалася-б, на доўгія гады лад жыцьця. Безумоўна, павінна было адбыцца нешта надзвычайнае. Аднак што менавіта, ён, седзячы ў наглуха зачыненым доме, зразумела, ня мог вызначыць.

Падышоўшы да дзьвярэй, ён прынік да «амбразуры», якая перацінала абабітую мэталем паверхню, і прачыніў засланку. На падлогу павольна споўз аркушок, які зь вялікай цяжкасьцю можна было назваць белым, настолькі ён быў пакамячаны й зашмальцаваны. Пасьля доўгіх намаганьняў Дзяньгубу ўдалося разабраць каравыя крамзолі Сугнея Чурылы й паспрабаваць усьвядоміць прачытанае.

«Рэвалюцыя! — пісаў Чурыла. — Усё пайшло ў глум! Якісьці бамбіза, клічуць Цмокам Калывокам, прыбіў гаспадара да сьмерці, і ўсё паляцела ў тартарары. “Горкага палыну” як не бывала: пустыя паліцы. Якуюсь ежу раздабыў і, пакуль мог, прыцягваў. Ужо пачалі былі прызвычайвацца, але, як на зло, умяшаўся твой сусед, паэт няшчасны. Пэўна, пісаць абрыдзела, дык ён і палез у палітыку. Цяпер харчу таксама

не дашукацца, пра “Горкі палын” няма чаго й казаць. Усё, сыходжу, ключы шукай у бялізьне».

Дзяньгуб пакорпаўся ў прывезеных Сугнеем пакунках зь бялізнаю й знайшоў ключы, якія ягоны спагадлівы давернік ня выкінуў на гарадзкі сьметнік.

Дні пацягнуліся марудна й сумна. Дзяньгубу давялося перайсьці на аднаразовае харчаваньне, дый яно зводзілася выключна да напаўсырой аўсянай кашы, якую ён сяк-так навучыўся гатаваць. Прыкладна да лістапада нічога істотнага не адбывалася. Паставу лотасу Дзяньгуб пачаў выкарыстоўваць усё радзей і радзей.

Аднойчы ноччу яго разбудзілі раскаты грому й крывыя зыгзагі маланак, якія суцэльнай вогненнай сеткай павісьлі над проймаю ў столі ягонага асабняка. Лямцавае пакрыцьцё пачало мяняць свой колер, перабіраючы ўсе адценьні ад чорнага да асьляпляна-белага. І раптам нібыта дарыжэр махнуў дручком — грамавы аркестар змоўк, маланкі пагасьлі. І на некалькі хвіляў усталявалася магільная цішыня. Затым падлога пад нагамі Дзяньгуба заварушылася, як жывая істота, лямец стаў дыбарам і пачаў нагадваць паверхню мора, па якім гуляюць разьюшаныя хвалі. Яны зьбілі Дзяньгуба з ног і некуды павалаклі, а з той нагоды, што плаваць ён так і не навучыўся, яму толькі й заставалася, што нема лямантаваць і пры гэтам торгаць хаатычна й адначасова ўсімі сваімі канечнасьцямі.

Як потым высьветлілася, гэта быў той самы землятрус, які ледзьве ня сьцёр Хлудзію зь зямлі. Зрэшты, землятрус доўжыўся зусім нядоўга, лічаныя хвіліны, інакш асабняк Дзяньгуба, як-бы моцна ён ні быў зьбіты, наўрад ці выстаяў-бы. Лежачы на сьпіне, Дзяньгуб

няўцямна вытарэшчваўся ў праясьнелы і цяпер густа засыпаны зоркамі лапік неба, які толькі й дазваляў яму ўбачыць зашклёны прастакутнік над галавою. Рот ягоны бязгучна адкрываўся й закрываўся, як створкі вустрыцы, але было няцяжка здагадацца, што ён паўтарае словы малітвы, дзякуючы Нябачнаму за цудадзейнае выратаваньне.

Пасьля землятрусу Чурыла так і не зьявіўся (як мы ведаем, зьніклы распачаў даўно заплянаваную ім пабудову вакол свае сядзібы собскага квадратнага парканчыка — дакладнай копіі Высокага квадратнага паркану). Яшчэ цэлы тыдзень праседзеў Дзяньгуб у паставе лотасу, практычна нічым не сілкуючыся. Праз увесь гэты час ён ні на хвілю не перапыняў кансультацыі з сваім духовым Бацькам, пытаючыся ў яго, якім найбольш прыдатным чынам ён мог-бы, будучы ўлюбёным сынам Нябачнага, выйсьці з атугі, у якой ён апынуўся. Ці-то сысьці з дому ў пошуках харчу, прыхапіўшы з сабою наладаваную манетамі торбу, ці-то, падпарадкаваўшыся лёсу, памерці галоднай сьмерцю, правёўшы рэштку дзён у малітвах і пяяньні псальмоў у гонар Нябачнага. Паступова яму пачало здавацца, што ён чуе голас Бацькі, які навучае яго, што выходзіць на вуліцу ня мае сэнсу, таму што галодная сьмерць дазволіць яму, ва ўсялякім разе, захаваць сваю самасьць, не азмрочыўшы пры гэтым яму аднаму адкрываныя вечныя ісьціны, і сканаць, прыняўшы сьвятарную паставу лотасу.

Амаль схіліўшыся да такога рашэньня, Дзяньгуб Мыліца нечакана ўздрыгнуў, выведзены са стану прастрацыі гучным і нахабным стукам у абабітыя ліставым зялезам дзьверы. Зь цяжкасьцю адсунуўшы засланку, змучаны голадам і смагаю сын Нябачнага

убачыў каля парога першага ў сваім жыцьці «рухавага». Каранасты, калматы, з павязанай вакол шыі бэзавай хусткай невядомы яму суб'ект сьціскаў паміж масыўнымі сківіцамі самакрутку пад назваю «казіная ножка». Выпусьціўшы колца дыму, рухавы працэдзіў проста ў зблажэлую фізіяномію Дяньгуба:

— Ты, як я пагляджу, дэкадэнт. Выходзь, сёньня нам патрэбна хаця-б парачку такіх, як ты.

— На жаль, не магу, — прасіпеў, узрушаны такім грубым уварваньнем у ягонае асабістае жыцьцё, Дзяньгуб, — бо я з дня майго нараджэньня тут і цяпер.

— Чаго-о-о? — Такога адказу рухомы яўна не чакаў. — Пагавары яшчэ мне!

Разьвярнуўшыся на сто восемдзесят градусаў, ён, валюхаючыся, скіраваў да невялікай купкі сваіх таварышоў, таксама калматых і павязаных гэткімі самымі, як і ў яго, бэзавымі хусткамі.

Цераз «амбразуру» Дзяньгуб са зьдзівам назіраў, як на загад ягонага нядаўняга візытэра стракатая гурма рухомых спачатку рассыпалася, а потым вышыхтавалася ў некалькі зладжаных шыхтоў — колькі іменна, праз проразку было цяжка зьлічыць. Пабраўшыся за рукі, яны пачалі, паступова нарошчваючы тэмп, тупаць у троп адзін аднаму чобатамі па бруку. Затым адначасова, усе як адзін, падскочылі й хрыпла праравулі: «Сьмерць! Сьмерць!» Тупат перайшоў у дробат і несупынна нарастаў. Здавалася, агромністы статак разьюшаных бізонаў лавінаю імчыць на асабняк Дзяньгуба Мыліцы. А калі выканаўцы страшлівых скокаў пачалі круціць вірлыкамі выгаленых вачэй і, не раўнуючы жаба Скаламбуха, вызінаць на Дзяньгуба доўгія, чырвоныя, трэніраваныя дзеля гэтага языкі, ён у жаху адхінуўся ад ваконца й зачыніў засланку. І зрабіў гэтае ў свой час: на дзьверы, сьцены й бляша-

ны дах асабняка з грукатам абрынуўся град камянёў і фаервэрк палаючых недакуркаў.

Тупат і грозныя выкрыкі, якія перамяжоўваліся з дробатам каменнага граду па бляшаным даху асабняка, доўжыліся да глыбокай ночы. І натуральна, што Дзяньгуб ня мог заснуць пад такі акампанемэнт, хаця трываламу асабняку ўсё гэта ні трохі не магло пашкодзіць. Але сядзець, склаўшыся ў звыклую паставу лотасу, было таксама цалкам немагчыма. Замест гэтага ён, ахоплены нэрвовым прыпадкам, да самага золку пракачаўся па падлозе. Пры гэтым ён абедзьвюма рукамі скроб галаву, торгаў сябе за валасы й час ад часу ўсклікваў нешта няцямнае.

Магчыма, ягоная рэакцыя была-б іншай, калі-б яму хто-небудзь паведаміў, што «рухавыя» выканалі перад ягоным жытлом звычайны ўжо для іх баявы рытуальны танец, сцэнар якога асабіста распрацаваў, дакладней, узнавіў вялікі знаўца першабытных хлудзкіх традыцыяў прахвэсар ФКПІ Вух Перакінчык. Гэткі ваяўнічы танец продкі хлудаў выконвалі кожнага разу перад нападам ненажэрнай жабы Скаламбухі. Зладжаны й аглушальна нарастаючы рытм павінен быў нагнаць на пачвару страх, стварыўшы ў яе ўражаньне, што ня некалькі дзясяткаў сьмелуноў, а агромністае войска набліжаецца да ейнага лежбішча. Кручэньнем-жа выгаленых вірлыкаў, вызінутымі языкамі й адрывістымі крыкамі продкі распалялі сваю сьмеласьць і нянавісьць.

Наступнага ранку, ледзь толькі спакутаваны Дзяньгуб забыўся нарэшце салодкім сном, нехта зноў гучна й нахабна загрукацеў у дзьверы:

— Гаспадар, ты ў хаце?

Дзяньгуб сьцепануўся. Ён ня быў аматарам старажытных рытуальных скокаў, і яму не хацелася зноў перажыць учарашняе. Нехаця ён прашкандыбаў да дзьвярэй і адсунуў засланку над проразкаю. Нехта, хто характарам і зьнешнасьцю нагадваў папярэдняга наведніка, таптаўся на парозе. Была бачная толькі ягоная паголеная галава, кашуля наросхрыст, дзенідзе насьпех зацыраваная каляровымі ніткамі, ды ўсё тая самая казіная ножка, якая перамяшчалася справа налева паміж глуха сьціснутымі, але гладка паголенымі квадратнымі сківіцамі.

— Я пра цябе чуў. Ты Дзяньгуб Мыліца, знакаміты дэкадэнт ці то дысыдэнт, ужо не памятаю. Асабіста мне ты не падабаесься. Аднак ворагі маіх ворагаў — нашы сябры. Можаш выходзіць, абарону я табе гарантую! — прабурчэў першы ўбачаны ім «нерухомы».

За сьпінаю «нерухомага» маўкліва чакала адказу некалькі дзясяткаў гэткіх самых аббамбераных нагала таварышоў, спаміж якіх ускрай зьдзіўлены Дзяньгуб пазнаў былую арыстакратку Гарэзію Набіванку, таксама налыса паголеную, з папяроскаю ў зубах. Дзяньгуб адзначыў пра сябе, што ейная новая прычоска ніколькі не псуе яе. Лысыя галовы матава паблісквалі. А крыху далей зьбіваліся ў рухлівую зграю ведамыя яму з учарашніх дзікунскіх скокаў калматагаловыя з бэзавымі хусткамі на шыях «рухавыя».

Вераемна, наяўнасьць у гурме «нерухомых» добра знаёмай яму Гарэзіі Набіванкі падштурхнула Дзяньгуба да адважнага дзеяньня. Цераз некалькі хвілінаў, якія спатрэбіліся Дзяньгубу справіцца з заржавелымі без ужытку замкамі, абабітыя мэталем дзьверы пачалі павольна адчыняцца. Падхорцістая, бледнатварая, зь вялікімі шэрымі вачыма постаць Дзяньгуба Мыліцы высьлізнула зь дзьвярэй на ганак

наўпрост у ногі камлюкаватаму ачольніку «нерухомых». Некалькі дзясяткаў вачэй пільна ўталопіліся ў яго. І тут ачольнік бесцырымонна падхапіў Дзяньгуба на рукі й перадаў свайму суседу. Як балерына, праплыў Дзяньгуб над скопішчам паголеных да люстранога бляску галоваў, пасьля чаго апынуўся ў самым ягоным эпіцэнтры.

Тым часам з таго месца, дзе згрувасьціліся зацятыя ворагі «нерухомых», пачуўся разьмераны тупат, які з кожнаю хвіляю пачашчаўся й мацнеў. «Сьмерць! Сьмерць!» — разанула паветра. Маса, якая абараняла яго, яшчэ больш ушчыльнілася. Спачатку Дзяньгуб Мыліца ледзь не крычэў ад жаху й роспачы свайго становішча, адчуваючы агідную для яго блізкасьць сотняў чужародных целаў. Аднак у нейкі момант яму зрабілася раптам добра. Дзяньгуб, які нядаўна баяўся больш за ўсё чужога дотыку, адчуў абсалютна нечаканае для сябе нейкае задавальненьне. Цяпер ён быў не адзін, і гэта нават прыемна. Можна перастаць думаць, можна падпарадкавацца чужой волі, пры гэтым волі ваяўнічай, — ды гэта-ж зусім някепска! Дзяньгуб зрабіўся складанай часьцінкаю маналітнай масы, адзінкавай выяваю ейнай шчыльнасьці й моцы. І чым даўжэй маса «нерухомых» заставалася нерухомай, тым мацней адчуваў ён ейную й сваю цьвёрдасьць і моц…

Доўга нічога не адбывалася, аднак пад нарастаючы тупат ног і выгукі «рухавых» і ў натоўпе «нерухомых» — Дзяньгуб кожнай каморкаю цела адчуваў гэта — патрэба ў рашучых захадах немінуча нарастала. І вось яно! З крыкамі й гіканьнем маналітная да гэтага супольнасьць ягоных паплечнікаў расслабанілася, а затым рынула насустрач зладжаных варожых шыхтоў. Прытном падабегшы да іх, «нерухомыя» рэзка спыніліся й пачалі закідваць ворагаў нязгаслымі недакур-

камі й палаючымі запалкамі. І гэта быў сапраўдны фаервэрк, дзеля якога варта было нарадзіцца на сьвет! І Дзяньгуб Мыліца на ўсю поўніцу крычэў, падскокваў, шпурляў разам зь іншымі ў «рухавых» запалкі ды недакуркі і ўпершыню ў жыцьці рагатаў з радасьці. І разам зь ім рагатаў — ён раптам усёй істотаю адчуў гэта — ягоны Нябачны Бацька.

Зрэшты, да сапраўднага пабоішча гэтым разам не дайшло. Зацятыя ворагі нехаця дамовіліся пра дату апошніх перагавораў і пачалі паціху разыходзіцца. Арыстакратка, шчоўкаючы маленькімі дамскімі нажніцамі, прапанавала Дзяньгубу пастрыгчыся нагала, і ён з радасьцю згадзіўся. Папярэдне пачаставаўшы аббамберанага Дзяньгуба піражком з бульбаю і ўсе да аднаго перацалаваўшыся зь ім на разьвітаньне, новыя сябры нарэшце дазволілі яму вярнуцца дамоў.

Шчасьлівы й апалены з усіх бакоў непрыяцелем, Дзяньгуб вярнуўся ў свой асабняк. Аднак сьветлы прастакутнік, які пакідаў па сабе сноп няіснага сяйва, што тачылася згары, бясьсьледна зьнік, і падобна, што назаўсёды. Склаўшыся ў звыклую паставу лотасу, Дзяньгуб задзёр твар у кірунку чорнага прастакутнага вакна ў столі. Але чарната не расьсейвалася. Маліцца таксама чамусьці ўжо не хацелася. Гэтым разам, замест спагаднага й нядрэмнага Вока, зь бясконцасьці на яго зеўрала пусьцінёю чорная дзюра, якая абыякава цікавала за невялічкім шматком прасторы, што называлася Краінаю Хлудаў. І тут ён дапяў: Нябачны пакінуў свайго ўлюбёнага сына. Богаабранасьці Дзяньгуба Мыліцы прыйшоў канец.

Яму зрабілася самотна й непамысна ў радзінным, калісьці такім утульным і недасяжным для чужакоў, асабняку, і ён адчуў неадольную, нейкую нават нар-

катычную патрэбу зноў зьліцца зь нерухомаю масаю, дзе ўсе роўныя, дзе няма ніякіх адрозьненьняў, ніякае дыстанцыі, да якой так і хочацца прытуліцца й стаяць поплеч з сваімі ідэйнымі патужнікамі, набіраючыся моцы й бяз страху гледзячы ў твар невядомасьці й небясьпекі, а потым разам з усімі закідваць заклятых недаваркаў палаючымі недакуркамі й запалкамі… І ніяк ня мог дачакацца сьветлага заўтра.

* * *

Ніхто ня ведаў дакладна, адкуль узяўся агонь, які спапяліў Краіну Хлудаў да пня. Хутчэй ад усяго кажанаваты, з квадратнымі сківіцамі «рухавы» шпурнуў у лядашчага «нерухомага» Дзяньгуба Мыліцу канчаром непагаслай цыгарэты, а той, дзеля прынцыпу, не пагасіў яго. Вось да чаго могуць давесьці прынцыпы!

# КАЛЕЙДАСКОП

Агонь падкрадаўся да хаціны Цьвінтарэя мякка й няўхільна, быццам тыгр, які заўважыў здабычу ды падбіраецца да яе на нячутных вуху спружыністых лапах. Вось згаладалы зьвер языком лізнуў друкарку, і толькі што надрукаванае палыснула зыркім цяпельцам і папяловым дажджом асыпалася на стол. Цьвінтарэй заперхаў ад дыму, адсунуў ад сябе друкарку й высунуўся ў яшчэ не ахопленае полымем вакно.

Вуліцу запоўніў вялізазны натоўп хлудаў і хлудак. Яны стаялі, узяўшыся за рукі, — рыхт у рыхт спалоханыя агнём дзеці. Яны больш не былі «рухавыя» або «нерухомыя»: куды толькі падзелася іхная нядаўняя варожасьць! Учарашнія зацятыя ворагі, агорненыя жахам, глядзелі ўгару, куды ўзьнімаўся дым і адкуль спускалася жоўтая наздраватая хмара. І хаця агонь разгараўся, рабілася ўсё халадней і халадней…

Цьвінтарэй перасмыкнуў плячыма й пашкадаваў, што апошнюю ягоную аповесьць «Калейдаскоп» ні сам ён і ніхто з хлудаў ніколі ўжо не прачытае. Хоць, безумоўна, аповесьць пісалася ім на хапка, аднак такое глыбіні, такіх яркіх прасьвятленьняў ды арыгінальнага спалучэньня сюжэтных хадоў у ягоных ранейшых творах не было. І Цьвінтарэй, перад тым як зрабіцца разам Хлудзіяй і з усімі хлудамі паўзучай і пералівістай блакітнаватай смугою, апошнім разам у сваім жыцьці глыбока й летуценна задумаўся.

* * *

Нябачнасьць — гэта такі асаблівы стан. Звычайны хлуд, зразумела, нябачным быць ня здольны, нават калі-б вельмі захацеў гэтага. Але ніхто не сцьвярджае, што Нябачны — гэта звычайны хлуд. Ён, безумоўна, быў і застаецца нейкім цалкавіта іншым. І наогул, ёсьць меркаваньне, што ён існаваў заўсёды, і ў той час, калі пра Хлудзію не было ніякага почуту…

Дык вось, у тыя часіны Нябачнага атулялі адныя ня дужа складаныя нежывыя рэчы, пра каторыя лёгка здагадацца, з чаго яны складаюцца. Пра жыцьцё тады яму нічога не было вядома (а магчыма, яно проста не ўваходзіла ў кола ягоных інтарэсаў). З гэтай прычыны ў экспэрымэнтах, якія ён з нуды праробліваў, паўсталі такія паняцьці, як «пустата», «прастора», «час» ды іншае на той самы капыл. Ну й само сабою, Нябачнаму аднойчы закарцела неяк усё гэта прыстасаваць, змайстраваць нешта накшталт касьмічнай цацкі. І ён стварыў калейдаскоп — абсалютна чорнае цыліндрычнае цела, знутры якога разьмяшчалася абсалютна чорная дзюра. Праз гэтую дзюру было няцяжка назіраць, як калакружыць час, як пустата нечакана пераўтвараецца ў матэрыю, адломкі якой зь незразумелай, але неадольнай сілай прыцягваюцца адзін да аднаго і складаюць нейкія дзікія, але пры гэтым вельмі цікавыя камбінацыі. Гэта забаўляла яго некаторы час, але затым, каб унесьці яшчэ нейкую разнастайнасьць у сваю касьмічную гульню, ён проста гэты самы час спыняў. Тады ўсё створанае ім рассыпалася, як быццам правальвалася ў Нікуды. Але варта было зьлёгку страсануць калейдаскоп, як усё пачынала круціцца ўжо па-новаму, інакш, і гэтак званы «ход рэчаў» узнаўляўся…

Празь некалькі мільёнаў гадоў на адной з танцуючых часьцінак заселянела нейкая плесьнепадобная, студзяністая маса, якая нават пасьля таго, як ён пераставаў круціць калейдаскоп, упарта не жадала зьнікаць. Нічога іншага не заставалася, як назваць гэта жывой матэрыяй, яшчэ прасьцей — жыцьцём. І тут Нябачны ў рэшце рэшт адчуў, што ён задаволены. Так узьнікла Пушча.

Напачатку зробленае здавалася Нябачнаму дасканалым, ён меркаваў, што ні ў чым іншым нямашака аніякае патрэбы. Аднак, як кожны геніяльны майстра, ён неўзабаве інтуітыўна адчуў нейкі вышчарбак, нейкую істотную недасканаласьць у створанай ім канструкцыі. Цэлы дзень, седзячы на кукішках у цалкавітай пусьціне, працаваў Нябачны над удасканаленьнем зробленага й раптам дапяў, што належала дадаць на нутраную паверхню самага апошняга шкельца калейдаскопа: мікраскапічныя копіі сябе самога і яшчэ нешта, вельмі адмысловае! І зарагатаў з радасьці.

* * *

Спачатку была цішыня. Як жылістыя, вузлаватыя рукі, перапляталіся карані магутных дрэваў. Мох распаўзаўся па кары, але ня мог схаваць рагі дажджавых пацёкаў, якія ніколі не высыхалі ў сутонлівых і сырых нетрах адвечнае Пушчы. Здавалася, ніштo ня здолее змусіць пахіснуцца гэтую спракаветную ўстойлівасьць, непарушны спакой, зялезную пераканнасьць у сваёй магутнасьці… І раптам зямля захадзіла ходырам. З хрумстам і трэскам пачалі адломліваца ад дрэваў цяжкія галіны й адлятаць кудысьці ў чорнае Нішто. Адзін за адным, цяжка вухкаючы, палезьлі зь зямлі карані з наліплымі на іх камякамі гліны. Але ўсё гэта

тут-жа пераўтварася ў парахню й рассыпалася на малекулы. Толькі аголеным ствалам некаторы час удавалася выстаяць. Затым і яны пачалі падаць на зямлю, але гэта было падпарадкаванае нейкаму парадку, быццам воля Нябачнага прымушала іх укладвацца шыхтамі ў патрэбнай пасьлядоўнасьці, займаць строгую дыспазыцыю. Ну а потым і ўся Пушча, пакутліва стогнучы, рассунулася ў розныя бакі. Самыя першыя ствалы, утварыўшы квадрат, замёрлі на месцы, і гэта сталася галоўнай перашкодай для астатніх бярвёнаў, якія імчаліся наўсьлед і з драпаньнем караскаліся на сваіх папярэднікаў. Рухацца далей не было куды. Па некаторым часе збудаваньне зь бярвёнаў набыло нейкія абрысы, задума бессэнсоўнага на першы погляд катаклізму пачала выяўляцца.

Вакол голай прасторы паўстаў паркан, які нагадваў калодзеж. Паміж шчытна прыгнаных бярвёнаў не праточваўся ні адзіны сонечны прамень. Маналітная, як арганізм, збудова магла быць адначасна ўпадобненая вежы маўчаньня, дзе зораастрыйцы-агняхвалы хаваюць сваіх памерлых. Вышыня паркану была надзвычайная, быццам неба прытном прыціснулася да зямлі. І жоўтае воблака ўплішчыла сваю пухірчатую плоць у прастакутнае жарала, якое, як вір, засмактала яго ў сябе.

Так узьнік Высокі квадратны паркан.

* * *

Сьвет падзяліўся: звонку Высокага квадратнага паркану засталася суцэльная, зарослая магутнымі дрэвамі Пушча, а знутры — замкнёная з усіх бакоў бярчастымі глухімі мурамі прастора, што ляжала ў вечным ценю. Але на гэтым стваральная праца не завяршылася. Нейкая напаўпразрыстая цякоміна па-

чала самаадвольна выдзельвацца з тоўшчы Высокага квадратнага паркану і, як кроплі поту, маленькімі пухіркамі скочвацца долу на гліністую, перакапаную каранямі глебу. Густа ўсыпаўшы дол перад парканам, пухіркі, быццам адчуваючы самапрыцягненьне, пачалі зьлівацца адзін з адным і павялічвацца. Дасягнуўшы пэўнага памеру, гэтыя новыя амёбападобныя ўтварэньні застывалі на месцы, кожны асобна ад іншых, але знутры іх рух не перапыняўся. Пасьля гэтыя стварэньні пачалі паступова цямнець, уздрыгваць і нават зьлёгку варушыцца. Няцяжка было здагадацца, што гэта ўжо ня проста камякі, а штосьці зусім іншае, прынцыпова новае і пры гэтым такое, што перакочваецца зь месца на месца. Круглымі яны не былі, хутчэй зьлёгку падоўжаныя, і было бачна, што за іхнай абалонкаю пульсуе нейкая вадкасьць, што расьпірае іх знутры…

Найзручней за ўсё было-б назваць усё, што адбывалася, узьнікненьнем жывых істотаў, хаця, зразумела, можна было-б прыдумаць і нейкую іншую назву. Між тым, толькі што ўзьніклыя істоты пачалі набываць колер, і галоўнае — яны рабіліся цёплымі. Афарбоўку іх так і карцела назваць цялеснай. Было відавочна, што зьяўленьне на кожным зь іх падоўжаных адросткаў, то бо рук і ног, — гэта ўсяго толькі пытаньне часу. Апошняй адгалінавалася галава.

Так узьніклі хлуды.

* * *

Калі-б хто-небудзь здагадаўся зазірнуць у правальле, аточанае Высокім квадратным парканам, дык, вераемна, ня змог-бы ўбачыць хлудаў, якія ў атуленьні цяжкіх бярчастых муроў хаатычна мітусяцца, усе разам чымсьці нагадваючы велізарнага вожыка

з жывымі, рухомымі, вытыркнутымі ў розныя бакі калючкамі.

Цёплыя, аморфныя й пераліўчатыя, яны не тварылі яшчэ ніякае гісторыі, а проста жылі жывёльным, чыста інстынктыўным жыццём. І не было ніякага сэнсу гаварыць пра нейкую нутраную сутнасьць кожнага ў асобнасьці.

Але паступова цёплая пераліўчатасьць іхнай матар'яльнай формы пачала згушчацца, хаатычная мітусьня пачала набываць усё больш спарадкаваны й асэнсаваны характар. Зьявіліся групы, якія адасабляліся адна ад адной. Яны адрозьніваліся ня толькі колерам, цеплатой і памерамі, але й звычкамі й так званымі схільнасьцямі. Узьніклі законы, правілы паводзінаў, а галоўнае — так званы нутраны сьвет, наяўнасьцю якога ягоныя ўладальнікі надзвычай ганарыліся. Хаця асабліва і ганарыцца тут, шчыра кажучы, не было чым. Бо было абсалютна ясна, што ўсё гэта — проста вынік экспэрымэнту, які невядома навошта праводзіў Нябачны. Зрэшты, паняцьце найвышэйшай сілы зьявілася ў хлудзкім асяродзьдзі практычна адразу. Ёй пакланяліся, дакладна не разумеючы, для чаго гэта, уласна кажучы, патрэбнае.

І ўсё гэтае разам узятае, увесь гэты працэс самапазнаньня атрымаў у рэшце рэшт загадкавую назву Дагістарычныя часіны.

* * *

З гэтага моманту пачалося самаўдасканальваньне хлудаў. Кожны працаваў, не складаючы рук, пры гэтым у ход ішло ўсё: кавалкі драўніны, гліна, мох, вада, цьвіль. Улады не было, ніхто нікім не кіраваў, але было заўважна, што нейкі плян захоўваецца. Кожны, зразумела, уважаў, што менавіта ён стварае

нешта такое, што важней ад усяго на сьвеце, а астатнія проста строяць дурня, аднак супольныя намаганьні ўсіх будаўнікоў вялі да стварэньня таго, што было накрэсьлена згары, да нечага цалкам дасканалага формай і зьместам, нечага такога, што павіннае было надаць жыцьцю хлудзкага грамадзтва хоць нейкі сэнс. Ну й нарэшце праступілі контуры агульнай справы, якая, падобна, дагэтуль выконвалася на несьвядомым узроўні.

На шырокай паляне сядзела, падціснуўшы пад сябе randaдаўчатыя лапы, гіганцкая жаба, празваная потым Скаламбухаю. Перапалоханыя будаўнікі так і замёрлі, схлупіўшыся вакол створанай імі пачвары. Зялёная скура прамянела нейкім злавесным адлівам на маленькія постаці хлудаў. Вірлы вялізных вылупленых вачэй, падобныя на дзьве на хапка адмытыя ад рэштках абеду талеркі, пахмура азіралі замкнёнае з усіх бакоў непрыступнымі мурамі Высокага квадратнага паркану наваколле. Пад скураю Скаламбухі штосьці бурліла й перакочвалася. Гэта, хутчэй ад усяго, былі агромністыя цягліцы, аб прызначэньні якіх хлудзкае грамадзтва даведалася троху пазьней. Ну й, зразумела, дыханьне — цяжкое, смуроднае, якое не абяцала нічога добрага. З пашчы несупынным фантанам выплюхвалася сьліна: Скаламбуху мучыў голад, насыціць які было ўтопіяй. Раз-пораз са смуроднай пашчы з пранізьлівым сьвістам выкідваўся даўжэзны, ліпкі язык — галоўны хапальны апарат жабы, з удзелам й моцай якога некаторым хлудам неўзабаве давялося пазнаёміцца значна бліжэй…

Але галоўнае — за ўсім гэтым стаяў Нябачны, таму што нават з пункту гледжаньня памераў і хапальнай моцы жабінага языка, з аднаго боку, і адносна вялікай і практычна нязьменнай колькасьці насельнікаў

краіны Хлудаў — з другога боку, — усё знаходзілася ў стане нейкай дзівачнай гармоніі. Не зважаючы на тое, што Скаламбуха ўвесь час была галодная, колькасьць хлудаў не зьніжалася, хаця ў той-жа час і не расла.

Суседзтва жабы не прывяло да фатальнага выраджэньня, хутчэй наадварот, супрацiўляльнасьць узрасла, і веданьне жыцьця й сьмерці таксама. Ну й само сабою, справа прыйшла да вядомага самазаглыбленьня, зазіраньня ў тайнікі собскае душы, а таксама да іншых разнастайных досьледаў, у ліку якіх можна назваць гісторыю, геаграфію і стараннае (да мілімэтра) вымярэньне плошчы Высокага квадратнага паркану.

Так пачалася хлудзкая навука.

* * *

У кожнай справе, як вядома, існуе больш ці менш удатная канцоўка. Нябачны паступова пачаў усьведамляць, што створаны ім сьвет пры ўсёй ягонай пэўнай дасканаласьці атрымаўся трошку сумнаваты. Нечага як быццам не ставала. Так, былі хламы (меліся ў наяўнасьці), быў Высокі квадратны паркан, была жаба, была навука. Усё нібыта адно да аднаго. Драматычна, закончана — і нічога лішняга. Але ад адзінага адчуваньня — бязвыйснасьці — пазбыцца было проста немагчыма. І вось, уласна кажучы, для паўнаты карціны ён узяў і стварыў Гарэзію Набіванку. Гэта, безумоўна, нават для яго аказалася вельмі няпроста. Але менавіта пасьля гэтага можна было з цалкавітай упэўненасьцю сьцьвярджаць, што ў Хлудзіі існуюць пачуцьці, якія пры пэўных абставінах скачкападобна здольныя пераходзіць у каханьне.

# КАРУНКІ НА ПАРКАНЕ

У той момант, калі пісьменьнік Цьвінтарэй з намерам паведаміць нешта неадкладнае падбег і абшчаперыў яго за плечы, нейкая нябачная рука адарвала Гіцля Валанцая ад зямлі і ўцягнула ў шурпатае драўлянае цела Высокага квадратнага паркану.

Праз хвілю, якая здалася Гіцлю вечнасьцю, тая самая рука выпхнула яго. Страціўшы масу й аб'ём, ён, падобна да кроплі вадкасьці, расплыўся па замшэлай паверхні паркану. А калі муры зьнянацку засьвяціліся знутры залаціста-блакітным сьвячэньнем, Гіцаль, быццам на вялізным экране, убачыў даўжэзны шэраг сваіх уласных выяваў і зразумеў, што перад ім, як на кінастужцы, разгортваецца ўсё ягонае папярэдняе жыцьцё: ад першых мукаў нараджэньня да непасільнай працы на будаўніцтве канала.

Гэтая стужка перасякалася са стужкамі жыцьцяў вядомых і невядомых яму хлудаў, а тыя, у свой чарод, перасякаліся зь іншымі стужкамі ды, аддаляючыся, рабіліся вузейшымі, утвараючы на экране мудрагелістыя карункі, ці, дакладней, хаатычнае нагрувашчваньне разнастайных па даўжыні й канфігурацыі рысак, падобных да шыўкоў на сподні́м баку нейкае дзівоснае Вышыванкі, дзе за аснову была тканіна Высокага квадратнага паркану. Менавіта гэтыя рыскі-шыўкі, як здагадаўся Гіцаль, і надавалі блакітнаму экрану ледзь улоўную залацістасьць.

Адчуваньне ад бачанага было незвычайнае. Аднак аналізаваць яго Гіцаль нават і не спрабаваў, бо якімсьці шостым чуцьцём разумеў, што лёгіка й хлудзкія паняцьці тут не дапамогуць. Толькі ў адным ён не сумняваўся: усё, што было выгафтаванае на паркане, уяўляла сабою гісторыю народзінаў, жыцьця й гібелі Краіны Хлудаў.

Насупраць таго месца, адкуль Гіцаль вёў сваё назіраньне, зеўраў вялізны папярэчны разлом, своеасаблівая чорная дзюра. Налева ад разлому паркан, відавочна, пачынаўся, бо быў складзены са сьвежаакораных, шчытна прыгнаных адно да аднаго бярвёнаў. Аддаляючыся ад Гіцля, ён паступова старэў, буцьвеў, зарастаў імхом, трэскаўся, а напрыканцы, перад тым як нырнуць у чорную дзюру, пахіліўся, абвугліўся ды, нібы бяззубым ротам, шчэрыўся завілаю, падоўжанаю трэшчынаю.

На паверхні паркану можна было адрозьніць усе да адной падзеі, якія толькі адбываліся ў Хлудзіі: не заставалася на ёй ніводнага прагалу, ніводнага лапіку… І Гіцлю памірсьцілася раптам, што паверхня гэта дый сам паркан — пятля часу, якая з усіх бакоў абмяжоўвае кавалак прасторы, у якой і творыцца гісторыя Хлудзіі. І няма ў пятлі ні пачатку, ні канца, бо яна падобная да зьмяі, што заглынула свой уласны хвост.

Яшчэ крыху паназіраўшы, Гіцаль зразумеў і тое, што жыцьці большасьці хлудаў былі звычайна простымі адцінкамі-шыўкамі — ад нараджэньня да сьмерці. Толькі стужкі лёсаў асобных абраньнікаў зноў і зноў перарывістым радком прабягалі па паверхі паркану, раз за разам праколваючы яе наскрозь. Напрыклад, Цмок Калывок некалькі разоў узьнікаў і нанова зьнікаў з Хлудзіі, і моманты гэтыя былі паваротныя ў гісторыі хлудзкай дзяржавы. І сам Гіцаль, зьнікшы падчас будаўніцтва канала, зьявіўся сьпярша на яго-

най засыпцы ў абліччы напышлівага старога ў цёмных акулярах і з падарожнай кульбаю ў руцэ, а потым, у тым самым абліччы, — на доўгім, застаўленым стравамі й пітвом бяседным стале ў шынку «Грукат сэрца» перад Хіцерам Зьміцерам і Цмокам Калывокам, якія, было бачна, марна спрабавалі дамовіцца пра нешта істотнае для існаваньня Хлудзіі.

Які быў сэнс ува ўсім убачаным, навошта й каму гэта было патрэбнае, — пра тое можна было толькі гадаць. Адно было несумненна: стужкі лёсаў Гіцля Валанцая й Цмока Калывока, падпарадкоўваючыся нейкай сусьветнай геамэтрыі, пярэчылі адна адной і ва ўсім адна адну выключалі, пачаргова перасякаючыся з запаветным куфрам Болмата Самасуя, куфрам, які, нібыта чаўнок кроснаў, быў нанізаны на стужкі-ніткі лёсаў хлудаў, што неперарыўна цягнуліся з жарала расколіны, крэсьлілі поўнае кола на пятлі часу й зьнікалі ў тым самым чарноцьці. Такой неперарыўнай была, прыкладам, нітка лёсу іншаземца Шампанскага і Гарэзіі Набіванкі, і таму, мабыць, яны былі асуджаныя ніколі не паміраць і ніадкуль не зьяўляцца…

* * *

Нябачная даланя націснула на Гіцлеву сьпіну, ададрала яго ад блакітна-залацістай паверхні, і Гіцаль, серабрыстаю ртутнаю кропляю згарнуўшыся на ёй, адарваўся ад паркану й зіхоткім эліпсоідам рынуў у няветлую прастору Краіны Хлудаў.

Апошнім адчуваньнем апошняга рамантыка было шкадаваньне, што ні яму, ні каму іншаму не дадзена зазірнуць на правы бок дзівоснай Вышыванкі, хоць ён і разумеў, што і ўбачанае ім ёсьць вялікае шчасьце, падарунак Нябачнага, які стварыў усё гэта і ў чыю задуму ўваходзіла й тое, каб ён усё гэтае ўбачыў.

*1987–1995*

# ЗЬМЕСТ

